## ЗЬМЕСТ

# РОСКВІТ

## ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ
БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЕ КАМУНЫ

№ 1



СЬНЕЖАНЬ 1927—СТУДЗЕНЬ 1928

МЕНСК

НЕ ДЭКЛЯРАЦЫЯЙ,

А

ТВОРЧАСЬЦЮ.

**Паўлюк Шукайла**

# Ім...

Людзі.
Моладзь.
Ружовыя шчокі.
Іх мінулае ў пялюшках
і шляхох на падлозе,
а яны ўжо
кілішкамі чокаюць,
што жыцьцё ім
не па дарозе.
Іншы нават
абшар яшчэ ня вывучыў;
пад рукой геаграфія,
чорны том Ніцшэ;—
у сьлязох вочы
на лоб выкаціў
і пахавальную
паэму піша.
Зморшчыўшы лоб
напілікаўшы
дзесятак, другі
плаксівых вершаў
кажа
паўбутэлькі „рускай“ выпіўшы:
„Загіну я,
загіну я ня першым...“
За што загінуць?—
у барацьбе за справу
Паўстаўшай Беларусі?
Уладзімера Леніна?
Ці за
налакіраваную халяву
і паскудніка жыцьця
Есеніна?
Браткі мае,
у мазгох і душы
адчынеце веньцілятары,
вочы палкія
накіруйце на жыцьцё.
Зачым ніцам
на зямлю падаць—
зямлю падпарадкуем
пад свой закон!

Перамога прыгожа,
здабытая ў змаганьні
за шчасьце за волю
супроць чорнай крыўды.
Трэба верыць,
што сьветлым раньнем
на лепшы шлях
выйдзем.

---

## Эй, націсьнем хлопцы!

Эй, націсьнем хлопцы!
· клавішы баяну.
Цымбалы,
цымбалы,
пазванчэй!
На палёх
гарматамі узараных
у віхры душа будзе пець.
Там, дзе ўчора
сьпявалі хаўтуры —
ваяцкі марш
гукнем грамадой
і страляючы
сэрца кулямі
пойдзем сьмела
у апошні бой.
Там дзе ўчора цьвілі
васількі асот,
і пырняк
на межах бур'яных —
Загудзіць
звон сталёвых калёс
трактароў,
жняярак.
На кветках
бруду палёў
узрасьце
каласістае жыта
і раўняючыся
з галавамі дубоў
прашуміць
сваю урачыстасьць.
Дык цымбалы,
цымбалы,
пазванчэй!
Эх,
націсьнем хлопцы
на баянах,
Кулямі сэрца
страляй адважней
па людзях
васількова-бур'яных.

# Паравоз

Гэта была
у семнаццатым годзе
На чыгунцы,
што называецца жыцьцё.
Мы выехалі
на чорным паравозе
Грукочучы
сталёвасьцю калёс.
Ніхто нас у падарожжы
ня супыніць!
Ні сімафор,
ні паўстанак,
Сырая зямля
абніме.
Таго,
хто на дарозе стане.
. . . . . .

Ішлі дні...
ідуць дні...
Мяцежны паравоз
імчыць наперад
І ад зары
да зары
Рэжа цемру
ліхтарамі Камінтэрну.
. . . . . . .

Эўропа
сьціснулася ў дрыжыках.
Вочы наліліся
халоднаю дрыгвою.
Чуткі
з Нью-Ёрку да Парыжу
—„Камуна едзе
мяцежным паравозам".
Знаем мы,
што у Вене
і Парыжы
Рабочыя
абвясьцілі страйк
і гэтым часам
рыхтуюць лыжы
На паўстанчы
выехаць шлях,
Знаем—
будзе час
Пачуем мы
гімны перамогі,
гарматаў ляск,
акорды кулямётаў.

Індыя
і Кітай
не пацалуюць ногі
абутыя ў ангельскія
боты...
Выйдуць...
і на зямлі
крывёю аблітай
Пад сонцам пякучым
вясны
Скажуць—
ня шопатам,
гучна,
адкрыта:
—Мы жыцьця
Ўладары!..
А пакуль што
скрыгочуць здраднікі
Чжан-Цзо-Ліны.
Яшчэ п'юць віно
з крыві свайго народу
і разам з імі
людзі былой Расіі,
падстаўляюць пад кулі
гнілую морду.
Але ўсё гэта
толькі барыкада.
Перад сусьветным
вялікім мецяжом.
У прадсьмяротным стогне
здрыгвеюць гады.
Жыцьцё
іх сэрца зрэжа
вастрыём нажоў.
. . . . . .

Ляэг,
грукат
паравоза
чуеце?!
І гэты
трывожны сыгнал?..
Загінула многа
ў пакуце,
у барацьбе
шмат хто сканаў...
А машыністага,
што называўся
Ленін
заменіць у нас
не адзін!
Эй,
Рабочыя Вены,

Палеце
пажарышч агні!
Мяцежны паравоз
імчыць наперад...
Эй,
пралетарыі,
адчыняйце сімафор!..
Увесь сьвет
на свой лад
пераверне́м,
Сусьветны
зробім
Рэўком!..

---

## Аднаму з Заходняй Беларусі

Мне сёньня сказаў ты,
што я
на бездарожжы
хаджу па вуліцах,
як бяспрытульны.
Што бяспрытульны—
гэта можа,
а бездарожжа?—
лепей куля!
Пакуль яшчэ
вецер не разьвеяў
нікім
непахаваныя косьці—
жыцьця без змаганьня
не разумею
і ня дам
завязаць сабе вочы.
Калі-ж
ідучы па шляху
я станаўлюся
на калені перад Беларусьсю
Песьню
Камуне пяю
і гымн
згіненьню
прымусу!
А каму гэты гымн
не па духу традыцый
укананёных
стагодзьдзямі мінуўшчыны
Дык што-ж
на Беларусі
шмат гіцаляў
ад выпітай крыві
разьюшаных!..

...Я знаю тваю бацькаўшчыну
яна пад Нёманам
(там стогн
і зьдзек пануе).
Я быў нядаўна
на тых загонах—
таму часамі
сумны
і пануры...
Я бачыў хатку
саломаю пакрытую
і вішні.
чырвоныя, як кроў.
Ї да тэй бацькаўшчыны
табою забытае
у мяне
захавалася любоў.
Замяню яе
сусьветнаю Камунай,
калі малыя з вялікімі
будуць роўнымі;
а пакуль вялікія
там сьцёгаюць пугаю—
для мінуўшчыны
распальваю полымя.
Ї сказаць,
што я на бездарожжы,
ня вытрыманы
і з дрэнным ухілам
гэта толькі
той можа,
хто зрабіў Беларусь
з курганоў
і магілаў.

---

## Я іду наперад!

Я іду наперад!
бо жыцьцё, баюся;
перагоніць.
Ўсё страціў ідучы
засталася толькі
вера
ды воля...

Страціў
матулю
йдучы да камунізму
страціў сям'ю
ў якой радзіўся;
разьвітаўся

з сялянскаю прызбай,
шапаценьня
ня слухаю
лісьцяў...
Страціў усё
апроч ізьвілістых сьцежак
яны вядуць
да вялікага шляху.
Страціў,
але Камінтэрн
мяцежыць
і няволі
ўжо трашчыць ланцуг.
Што з таго,
што жыцьцё мае гіне,
чалавек—
сьпіца ў калясе.
Роў
канцом мне будзе
ці магіла,
жыцьцё-ж
крыніцай сьвежай б'е.
Я радуюся
хоць сохнуць мае губы,
бо тым,
што мучылі мяне
прыходзіць ўжо
канчына.
Я павяду
Камінтэрн да шлюбу
і ажаню
з Эўропаю-дзяўчынай!..

---

## Сястрыцы Любе

Выбач мне, Любачка,
выбачай,
а ня хочаш—
жыцьцё мне прабачыць.
Я ад цябе
нехаця уцякаў
туляючыся за вугламі
як сабака...

Помніш
тыя дзянькі,
ды ласьне можна
забыць дзянёчкі:
.. я быў у жару
ты мне давала вады
сарочку мяняла
за сарочкай.

... Пры сьмерці
нясьлі ад жандараў
апаясанага
крывавымі паясамі...
Хто-б нада мною
паплакаў
губы мае
паліў-бы сьлязамі...

... І зноў тут
любімая Люба
белыя кудры,
чарнявыя вочы,
мяне абнімае,
цалуе
доўгаю
цёмнаю
ноччу...

Пачну часам
ад болі стагнаць,
калі кроў
малатэрняй застукае,—
чую ізноў
твой дзіцячы плач.
Мае мукі
былі тваімі мукамі...

... Матку
ўлетку жыцьця
з сумам вялікім
мы пахавалі з табою,
застаўся
з КІМ'ам
у палкіх грудзях,
з белакурай
чарнявай сястрою.

... Васемнаццаць
мінула
мне,
табе пяць
налічвалі годы.
Трудна было ў жыцьці
вельмі трудна,
павер;
ужо тады
дарога была
лёдам.

... Можа й мяне
ўжо даўно пахавалі-б,
косьці
разьвеяў-бы вецер,

а можа
ў цёмным падвале
сядзеў-бы
ў жалезнай клеце.

Але жыцьцё
пакіравала на Ўсход,—
я нехаця
разьвітаўся з табою.
Нас разьдзяляе
цяпер
толькі плот,
што за Нёманам—
беларускай ракою.

... Ты там ходзіш
і зьбіраеш кветкі,
а ў кветках брата й маткі,
бачыш
і на гонях радзімых
палёткаў
к барацьбе
і змаганьню
расьціш любоў.

У мяне-ж
зажываюць раны
з цела сходзяць
крывавыя паясы,
а на сэрцы
крывавая пляма,
што ў няволі:
браты,
палі,
лясы...
... Жыву,
хоць дні
ідуць гадамі
міліён-зарадны
рыхтую карабін...
Я пайду,
пайду ізноў лясамі
паліць паноў
як калісьці іх паліў!..
...Дык
выбач мне, Любачка,
выбачай,
а ня хочаш,—
жыцьцё мне
прабачыць;—
я ад цябе
нехаця уцякаў
Туляючыся за вугламі,
як сабака.

Алесь Гародня

# Варта на Рэйне

(АПОВЕСЬЦЬ)

## РАЗЬДЗЕЛ І

### Хмары... Хмары...

... Бжжжж...,—пралятае бжала-куля.
... Бум!.. Бум!.. Бум!..
... Бум!.. Бум!.. Бум!..—рвуцца снарады.
Недзе з боку тарахціць кулямёт.
У перадзе, далёка, каля небасхілу, сьцелецца па зямельцы дым.—

Завеса.

Але і яе, мастацкае замаскаваньне на дрэве, сіліцца працяць біноклем артылерысты-наглядач.

Вось-доўгай, крывой істужкаю зігзагамі цягнуцца траншэі, а ў іх мітусяцца нейкія шэрыя постаці.

— Людзі?

— Так. Такія мізэрныя, такія нікчэмныя...

* * *

Вось вялізарная яміна, і пара абгарэлых слупоў.
Тут калісьці быў цэлы фальварак.
А там,—ля лесу—мірна пасьвіўся статак.

Мычэлі каровы, хадзілі па мураве. Маладыя бычкі, ня ў меру галянтныя, гульліва падбягалі да якой-кольвек прыгожанькай ялавачкі,—

Мууу!—Мууу!..

Ялаўка сарамліва кідалася ў бок, а верны вартаўнік, Жучка, заганяў яе назад, каб не адбілася ад статку...

Ля беразьнячку, ля вогнішча на карчы сядзеў стары дзядулька-пастух, а хлапчук-падпасак ляжаў ніц і дзьмуў на сьвежасьпечаную гарачую бульбу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Бэрлін. Шпандау,
Фабрыка электрычных прыладаў А. Э. Г.

Трашчаць, пяюць сваю песьню шасьцёркі. Дзяцёнкам пакінутым плачуць прыводныя пасы.

Рупатліва тарахціць неспакойны дызэль.

Другая зьмена скончыла працаваць $1/2$ 6-й вечару.

Усё-такое звычайнае, знаёмае:

Вось-ванны, душ. А там-гардэроба. Некалькі вялізарных заляй. Абстаўлены лаўкамі і шапамі. У шапах—„свая“ вопратка,—на вытворчасьці спэцадзеньне. Альфрэд Кляйн скідае яго, мыецца ў ваньне, апранаецца ў „сваё“.

Гудок паведамляе аб тым, што пачала працаваць другая зьмена.

Альфрэд выходзіць на вуліцу.

* * *

Бір-гальле. Піўная.

Душнае, накуранае паветра.

Вялікая і чыстая заля. Мурмуровыя дошкі на сталох. Супроць уваходу—стойка, на ёй закуска.

У кутку—кадушкі з півам.

А над кадушкамі—портрэт:

„Кайзэр Вільгэльм II“.

. . . . . . . . . . . .

Паўгадзіны.

Маладцаваты, чыста апрануты, і „падбадзёраны“ традыцыйным куфлем Альфрэд Кляйн ужо нясецца на стукатлівым траме, пад'яжджае да Моабітэнштрасэ.

Стоп. Астаноўка.

Міма праклятае, з сіпатым гудам аўто.

Альфрэд выходзіць з вагону.

Хвіліна—і яго глытае хваля мітусьлівага чалавечага натаўпу.

* * *

„Бэрлінэр Тагэблят!“

„Бэрлінэр Тагэблят!“

„Бэрлінэр Тагэблят“!

Нейкі прабеглы чалавек затрымліваецца і тыча ў руку хлопцу-газэтчыку дзесяць фэнігаў.

Той (прадаў,—дзе-ж тут затрымлівацца?—часу няма) ляціць далей

„Бэрлінэр Тагэблят!“

... „У Сараеве забіты аўстрыяцкі эрцгэрцаг Франц-Фэрдынанд!..“

... Альфрэд затрымліваецца на хвіліну, шукае ў кішэні грошы. Не пасьпеўшы знайсьці іх—паварачваецца і йдзе далей.

— Ат! Хай іх хоць кожны дзень забіваюць...

* * *

Моабіцкая. Вялікі шасьціпавярховы дом.

— Ага!.. Прышоў!..

Усходцы. Трэці паверх. Званок. Дзьверы расчыняюцца.

— Дабрыдзень, цётачка Элізабэт!..

Што, Грэтхэн мая ў хаце?..

. . . . . . . . . .

* * *

Ціха, павольнаю плыньню цячэ жыцьцё

. . . . . . . . . .

* * *

Вечар. Дожджык. Склізка.

Блішчыць асфальтавы брук.

Палац міністра сьвеціцца тысячамі агнёў.
Пад'яжджаюць:—
ауто, карэты...
Ля пад'езду швэйцар, золатам абшыты. У руцэ—булава.
— Ах, майн гэр! Вас чакаюць!..
— Мадам, дазвольце ваша манто!..
— Заходзьце, калі-ласка, ваша сьветласьць...
У палацы-баль.
Будзе нават „сам“ кронпрынц Фрыдрых з жонкаю!
Яшчэ хто?
Расчыняецца дзьвер, і лёкай прагалашае:
—„ Нямецкі пасол у Канстантынопалі, пан барон фон-Вангэнгайм!.
—„ Рэйхсканцлер, граф фон-Бюлёв!..
—„ Граф Дыкдорф-фон-Тростэнаў!..
—„ Міністр, пан барон фон-Нольдэншэрн!..
—„ Пан гвардыі маёр фон-Гальвіц!..
—„ Інтэндант, пан Ліндэнмайер!
—„ Гэхэймрат пан Герэншток!..

* * *

Вялізарная заля ў палацы пана міністра поўна людзей.
Музыка, скокі.
За ёю—ядальны пакой.
Падковаю сагнуты агромністы стол. У вядзёрках з лёдам бутэлькі з сэктам. Розныя маркі. Рэдэрэр, Кліко, Мум. Батарэі старага Еганісбэргера, Маркобруннэра, Го-Сотэрна, Токая, Бордо, Опорто. Старкі. Каньякі. Лікёры. Вазы з трахічнай садовінай.
Лёкаі абносяць гасьцей вячэраю.
Нехта—ўстае. Тост.
— Панове!..
... Загінуў аўстрыяцкі эрцгэрцаг Франц-Фэрдынанд, шчыры прыхільнік і прыяцель Нямеччыны... Нас правакуюць... Але мы пакажам усяму сьвету, што тэўтоны—гэта ня статак безгалосых авечак, што мы не дазволім нікому на такі кшталт жартаваць з намі . . .
. . . . . . . . . . . . .
Я прапаную тост за слаўную нашу бацькаўшчыну, за вялікі нямецкі народ,—за любага нашага кайзэра!.. Урра!..
— Гох!..
— Гох!.
Гооох!..

* * *

Некалькі дзён—ізноў.
Вечар. Цёпла і склізка. Туман.
Альфрэд Кляйн пад руку з Грэтхэн ідзе ў кіно.
Блішчыць мокрая асфальтавая панэль. Вітрыны крам сьвецяцца ўсімі магчымымі колерамі і водценьнямі.
На даху вялізнага будынку Рэйхсбанку палымянымі літарамі запальваецца рэклама:

| Курыце толькі папіросы<br>„Окаса—Зарото“<br>Смак Тапасьць! |
|---|

Адно за адным гаснуць рознакалёрныя словы, нікнуць у цьмяным тумане, і ўраз-жа за зьнікненьнем апошняга з іх зноў выплываюць з начное цемры агні жоўтыя, чырвоныя, блакітныя, белыя, і з іх загараецца слова:

**„Кукіроль“**

Манатонна, цяжка тупае тысячаногі натаўп. Ёкаюць пугамі хурманы. Гудуць аўто. Як ашалелы нясецца кудысьці трам.

— Бэрлінэр Тагэблят!..

— Бэрлінэр Тагэблят!..

— Вячэрні выпуск!..

— Нота аўстрыйскага ўраду Сэрбіі...

* *
*

— Фрэддзі! Ці будзе вайна?—пытаецца Грэтхэн выходзячы з касьцёлу.

— Хто-ж яе ведае,—можа й будзе...

— А як яна робіцца, гэтая вайна?

Альфрэд робіць сур'ёзную міну:

— Дзяруцца людзі, страляюць, адзін-аднаго забіваюць... Сьмелыя—перамагаюць, а баязьлівыя гінуць.

А ў самога—у галаве ўспамін:

...Ён, Альфрэд Кляйн, маленькі вучань... Лекцыя... Настаўнік нешта тлумачыць пра пабеды слаўнага нямецкага войска, пра Сэдан...

...На сьцяне—карціны, партрэты, малюнкі... Вось—слаўны Бісмарк... Вось—Мольткэ... Вось—Фрыдрых Вялікі наўперадзе свайго войска кружыць па полі на белым узмыленым стаеньніку... А салдаты—у бліскучых шытых золатам мундзірах...

*
* *

Нядзеля. Альфрэд і Грэтхэн у касьцёле. На лаўках—публіка.

Хто?—

Ды ўсе:

і рабочыя, і міністры, і гандляры, і прадаўцы з бакалейнае крамы, і сутэнэры, і банкіры, і вайсковыя, і дактары, і агульнадаступныя дзяўчыны,—

Пан пастар гаворыць казаньне:

— Слухайцеся ўлады, ад бога пастаўленае!..

— Любеце слаўную нашу бацькаўшчыну!..

— Шануйце добрага нашага кайзэра...

І яны слухаюць, любяць, шануюць,—усе гэтыя: рабочыя і міністры, салдаты і банкіры, дактары і сутэнэры, афіцэры і агульнадаступныя жанчыны...

* *
* *

Зноў вечар... Вее сівер,—вее і вые, плача, стогне, скрыгоча зубамі і енчыць... І раптам—у злоснае мычэньне сівера ўплятаецца нешта новае, чужое, жудаснаватае. Па гораду—сіпатыя чуюцца, але моцныя, часам—надрыўныя галасы:

— Бэрлінэр Тагэблят!..

— Бэрлінэр Тагэблят!..

— Аўстрыя паслала Сэрбіі ўльтыматум!..

— Расія рыхтуецца да вайны!..





А жыцьцё—усё яшчэ йдзе—памалу, плыве ціхаю, павольнаю плыньню...

* * *

Раньне. Альфрэд Кляйн зьбіраецца ісьці на працу. На стале—пара булак, і шклянка кавы, ад якой ідзе пара.

Раптам—

звaнок—

паштальён:

— Газэты сьвежыя, калі ласка...

. . . . . . . . . . . . . .

Ціха, павольна плыньню цякло жыцьцё...

Цякло. .

І—першы стрэл...

„Аўстрыякі бамбардуюць Белград!“

* * *

Шпандаў. Фабрычныя каміны. Сьвіст пары і лязганьне машын...

Ліцейшчык Шміт—на месцы.

— Гэй! Паддай! Каці сюды!

— Яшчэ!

. . . . . . . . . . . . . .

...Бух!—льлецца агонь, дым ідзе слупам, разьядае вочы...

— Ладная будзе гэтая гармата!

— Гэй, чаго стаіш? давай другую!

— Дру-гу-ю!

— Да-вай дру-гу-ю!

— Каці сюды-ы-ы!

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

Пан фабрыкант у сваім габінэце.

Званок па тэлефону.

— Хто? пан інтэндант?.. Ах, як прыемна.. Што?.. Дорага?.. Паночку, даражэнькі мой... ці-ж прыстала—па тэлефону.. Няёмка... Лепш—сёньня пагутарым... вечарам... у шантане... Што?.. А дзесятай?.. Цудоўна!.. Чакаю!..

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

Шпандаў. Фабрычныя каміны. На іх сірэны. Гудуць... Доўга... Працяжна...

Другая зьмена скончыла працу.

Шміт выходзіць са свайго цэху.

Вечар. Слізгота. Дожджык. Туман.

...„Хутчэй да хаты .. адпачнуць“...

Вось і дом, усходцы... пяты паверх...

Стук.

— Хто?

— Гэта я, пані Кунст, адчынеце!

Дзьверы адчыняюцца.

— А, гэта вы, гэр Шміт! Вам тут нехта пісульку пакінуў...

Давайце...

* * *

... „Як ты ведаеш... становішча пагрознае... Аўстрыякі... Белград... Цар... Мабілізацыя... урад... камітэт пастанавіў... мітынг... прыходзь... Здраднікі... Будзем крыць...“

. . . . . . . . . . . .

А ў кутку—подпіс:

„Твой сябра Эрнст“.

* * *

Бурліць шматгаловы натаўп.
Нехта на трыбуне:
Таварышы!..

...Гэтыя дзікуны расійцы... праклятыя французы... навязаць усім царскі дэспатызм... Мы не дапусьцім... Родны наш край... Мы пакажам гэтым... панясём... сьцяг культуры і цывілізацыі... на ўсход... Спрадвечная місія... Бацькаўшчына...

* * *

— Урра!
— Урра!
— Урра!
Урраaa!
— Урраaa!
— Урраaa!

* * *

На трыбуне—
ліцэйшчык Шміт:
— Таварышы!..
... Я кажу: каму патрэбна вайна?..

. . . . . . . . . . . .

Вось, мы,—робім гарматы...
У каго яны будуць страляць?

. . . . . . . . . . . .

Дэспатызм,—барбарства...
Двудушныя...
А ў нас,—што?.. Не дэспатызм?..
Не барбарства?

. . . . . . . . . . . .

Ваяваць?.. За каго? За што?..

. . . . . . . . . . . .

А на вайну, хто пойдзе?..
... Чыя кроў будзе ліцца?..
Ці-ж мо‘ тых, пузатых?..

. . . . . . . . . . . .

* * *

... Далоў!..
Далоў!.. Далоў!..
... Прэ-э-э-э-эч!..

* * *

У дрэнным настроі вяртаецца Шміт да хаты. Ледзьве ўцёк ад агэнта „гехэймполіцай“...

Вечар... Туман... Дождж̌ык... Склізка... Пад фіалетава-блакітнымі мокрымі праменьнямі ліхтароў блішчыць асфальтавая гладзь бруку...
...„Эх, каб добры агульны штрайк"...

. . . . . . . . .

... „Але—
„сацыялістычная большасьць"...

. . . . . . . .

... „Здраднікі!"..
Шміт сьцісну̌у кулакі...

. . . . . . . . .

Уперадзе—
на панэлі, сямнаццацігадовая дзяўчынка... Густая сінь пад вачыма...
Насустрэч—пузаты пан.
Ідзе, не сьпяшаецца. Леваю рукой зьняў капялюш, і трымае, у правай—хустка. Выцірае запацеўшую пляшыну. Праз усё пуза—залаты ланцужок...
— Паночку,—вазьмеце мяне!..
— А?.. Што?..
— Толькі пяць марак!..
— А!.. Хадзем!..

. . . . . . . . .

* *

Усё—
неяк няверылася.
Неўпяршыню тыя гутаркі.
Ня першы ўжо раз—
гаварылі, пісалі, спрачаліся.
Казалі, што хутка будзе.
Абмыляліся, супакойваліся на нейкі час і зноў пачыналі спрачацца.
Зноў казалі, што вось-вось будзе.
Гэтак ішлі—
дзень за днём, год за годам.

. . . . . . . . .

І раптам, аднойчы вечарам—
вестка:
Нямецкі ўрад паслаў Расіі ўльтыматум у 24 гадзіны дэмабілізавацца, а Францыі—у выпадку ўзброенага канфлікту—абвясьціць нэйтралітэт...

* * *

Апоўдні—
На пляцу, ля кайзэрскага палацу—натаўп.
Як і заўжды:—як тыдзень, год, дзесяць, пяцьдзесят год назад.
Поўны пляц. Стаяць, чагосьці чакаюць.

* *

Дзінь-дон! Дзінь-дон! Дзінь-дон!..
Дванаццатая гадзіна...

. . . . . . . . .

Туп-топ; туп-топ; туп-топ;—
туп-топ; туп-топ; туп-топ...
Нага—
у нагу...

... Зьмена палацавае варты...

. . . . . . . . . . . .

... Аддзел гвардыі...

Золата, золата...

... Ня людзі—лялечкі завадныя...

* * *

— Туп-топ; туп-топ; туп-топ...

Правай!...

— Правай!..

Увага!..

— Стой!

. . . . . . . . . . . .

* * *

І раптам—

газэтчыкі:

— Экстраблят!..

Экстраблят!..

— Нямеччына абвясьціла Расіі і Францыі вайну!

. . . . . . . . . . . .

Натаўп—нярухомы.

Мёртвая ціш...

... Потым—сьпярша паціху, а потым—усё больш і больш выразна пачуўся нейкі гоман... І раптам—нешта пакацілася, перакацілася праз натаўп, усё наўвокал нібы ашалела і зьлілося ў адзін гук—у адзін голас—у адно аглушальнае:

Уррра!

Уррра!

Уррра!

. . . . . . . . . . . .

І ў гэты момант

на ганку зьяўляюцца нейкія людзі ў шытых золатам ліўрэях, з трохкуткамі на галовах, з булавамі ў руках...

Шырока рашчыняюць яны дзьверы...

З палацу выходзяць—сьпярша два маладыя афіцэры, а потым,— дзьве вялііственныя постаці,—мужчына пад 40—45, у афіцэрскім адзеньні, пад руку з высокай, буйнай, ня вельмі маладой, жанчынай з горда ўзьнятаю галавою...

Натаўп—шалее.

. . . . . . . . . . . .

— Кайзэру—

— Уррааа!

— Гооох!..

. . . . . . . . . . . .

І раптам—

некалькі чалавек—

нібы загадзя змовіўшыся,—

падаюць на калені,—

сьледам за імі—

увесь натаўп,—

і—

па пляцу, сьпярша ціха, потым—усё гучней і гучней,

нарэшце—аглушальна моцна зьліваюцца ў адзін зграбны сьпеў і нясуцца' здаецца, па ўсяму месту, вялiственныя, урачыстыя гукі, сярод якіх ледзьве-ледзьве можна зразумець словы:

—Любы наш край,—
спакойны будзь!
І верна стой
варта на Рэйне!

. . . .

* * *

Добры, стары нямецкі кайзэр ідзе на шпацыр.
Сьвіта? Экскорт?..
Нашто гэта?..
Няхай гэтым забаўляецца наш добры сябра, любы наш прыяцель, Мікола II...
А мы, пехатою, жонку пад руку, сыноў-кронпрынца Фрыдрыха Вільгэльма, яго брацеіка Эйтэль-Фрыдрыха наперад,—і—
пехатою, —
у натаўп—
марш!..

. . . . . . . .

* * *

... Унтэр-дэн-Ліндэн...
... Фрыдрыхштрасэ...
... Зігэс Альлé...
... Кайзэр з жаною і дзяцьмі...
А побач, бяжыць верны белы аўчарка і...
цэлы натаўп бэрлінцаў!..

. . . . . . . .

* * *

... Зігэс-Альлé—
Альлея перамогі!
... Бюсты князёў і каралёў...

. . . . . . . .

— Сьпі спакойна,—
няўмірушчы Бісмарк!
— Дух твой жыве:
Верна, і моцна стаіць варта на Рэйне..

. . . . . . . .

---

## РАЗЬДЗЕЛ II

### „Любы наш край,—
### спакойны будзь!..“

* * *

Гарачы жніўнявы дзень...
Прызыўны пункт...
Натаўп.
Прызыўнікі, праваджатыя.
Альфрэд і Грэтхэн.

. . . . . . . .

* * *

— Фрэдзі! А што, калі цябе заб'юць?
— Нічога, ня плач мая любая .. Бог літасьцівы...
— Фрэддзі! Мне цяжка...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Натаўп гудзе на ўсе, якія толькі магчымы, лады...
Навокал—узрушэньне.
Часам яно падымаецца, даходзіць да дзікага шаленства часам-зайцам, неяк, пад хвояю, прысядае...
І тады, у такія хвіліны—пачынае панаваць нейкая асобая, жудасная маўклівасьць.
Раптам, цішыню прарэжа гістэрычны жаночны ўсхлюп. Тады перакачваецца па натаўпу, мэрам тая хваля, узрушаны гоман, сьцірае, зьнішчае ўсе паасобныя галасы, глытае чыйсьці гучны плач, і зьнікае недзе, там, ля ўваходу ў казармавы будынак...

. . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

— Фрэддзі!.. Фрэддзінька!..
— Ня плач, мая любая...
— Мне цяжка, мне балюча, Фрэддзі!..
— Нічога, маленькая мая, праз тыдні тры—чатыры скончыцца тая вайна, прыеду, а ў верасьні—сама ведаеш, вясельле наша...

* * *

— А! Фрэддзі! Здароў!..
— Ты адкуль, Шміт? Га?.. Прызываецца?..
— А што-ж? Ці мо' я з іншага цеста?
— Ну, вось, бачыш, паваюем... Толькі вось, ці вернемся?..
— Хто вернецца, хто ня вернецца... Але куды мы вернемся?.. Вось, брат, пытаньне?
— Як гэта: „куды"?
— Ат!.. Дзівак!.. Ці-ж ня бачыш, увесь сьвет пераварочваецца, дагары нагамі становіцца...
— Зноў ты свой пэсымізм...
— Пэсымізм?.. Не... Але... Ну, братка, часу няма... Як кольвек сустрэнемся, пагамонім... Бывай!
— Бывай!..

. . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

— Назначаны ў 398-мы полк ляндштурмістых, выходзь!

. . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

— Фрэддзінька... Фрэддзі!..
— Бывай, даражэнькая... Ня плач, мая любая... Бог літасьцівы... Трэба ісьці... Бывай!..
— Фрэддзінька!..
— Фрэддзі!..
— Фрэээ... дзііі...
— Фрэээ...
— Ааааа...

* * *

Пятая рота!..

. . . . . . . . . . . . . .

Да месяца!..

. . . . . . . . . . . . . .

— Шэраг —

падвой!

— Крокам —

арш!..

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

І вось, разам з усімі,—

Альфрэд Кляйн тупоча па вузкім асфальтавым бруку.

... Б'е барабан... Нешта бравурнае...

... Зграбныя шэрагі! —

Нага ў нагу!..

Але —

гэта яшчэ ня войска:

Барджэй — нейкая банда:

усе яшчэ ў цывільным адзеньні...

... Ідуць, глядзяць проста, наперад, рэдка хто скосіць вока ўбок, туды, дзе натаўп...

А там... у натаўпе... яны... тыя, хто дарагі... блізкія... любыя...

Там — плач... усхлюпваньні...

. . . . . . . . . . . . . .

... Зграбныя шэрагі...

Яны ідуць,

нічога ня чуюць...

... Шротам тупоча барабан...

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

Станцыя.

„Бэрлін-Заходняя“.

Пэрон... Цывільных няма...

... Нехта жартуе:

— Дальбожачкі, бяз білету — упяршыню, пане жандарме!..

... Вайсковыя цягнікі адходзяць кожныя пяць хвілін...

Вось адзін —

грузіцца...

... Начальнік станцыі — падае сыгнал...

... Сьвішча обэр...

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

... Вайсковы цягнік...

... Раптам —

праз адчыненае вакно —

чуецца сьпеў:

„Хадзі дзяўчыначка,—
ня плач дарэмна“..

. . . . . . . . . . . .

Вось ён і папёр, —гэты самы цягнік,—сьцюдзёны, дымлівы волат...
Па рэйках лязгоча сталь, а з рашчыненага вакна чуваць, як з дзесятак галасоў падхапіў пануры матыў:

— ня плач дарэмна,—
скончыцца тая вайна...

. . . . . . . . . . . . . . .

* * *

— Пятая рота!..
па вагонна!..

. . . . . . . . . . . . . . .

Зноў сьвісток...
Гудзіць паравік...
Альфрэд адчувае штыршок,—

. . . . . . . . . . . . . . .

Цягнік пачынае мерна варушыцца...

. . . . . . . . . . . . . . .

— „Фрэддзі... Фрэддзінька!“..—
стаіць у вушах...
... Лязгоча сталь... хістаецца пад нагамі падлога...
... „У верасьні мае быць наша вясельле“...
... „Ці будзе яно?“..—

. . . . . . . . . . . . . . .

... А ў вачу—бязконца—заплаканыя блакітныя вочкі:
... „— Фрэддзінька!..
... — Фрэддзі!..
... — Фрэээээ...

* * *

На аднэй з бліжэйшых станцый—кіёск, газэты.
Нехта выбег, купіў...
... Перапынак—тры хвіліны...
Зноў лязгоча сталь...
А ў вагоне—
з дзесятак людзей абступіў таго, хто купіў газэту:
... Ультыматум Бэльгіі...
... Бэльгія адмовілася...
... Нашы войскі перайшлі граніцу...
... Мы ўзялі Льеж...
... Бэльгійцы адступаюць...

. . . . . . . . . . . . . . .

І раптам—
— Англія абвясьціла вайну!—

. . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Бэрлін...
Рог Унтэр-дэн-Ліндэн.
З Фрыдрыхштрасэ вылазіць галава вялізарнага чалавечага натаўпу...
Здалёку,—лес сьцягаў...
Усе трохкалёрныя.
І плякаты:
„Няхай жыве Нямеччына!“
„Няхай жыве Аўстрыя!“

„Сьмерць ангельцам!“
„Нашы ўзялі Льеж—Урра!“
„Парыж будзе нямецкім“
„Няхай жыве кайзэр“.

. . . . . . . . . . . . .

* * *

Здалёку даносіцца сьпеў:

„Нямеччына, Нямеччына,—
вышэй за ўсё,—
Вышэй за ўсе... Вышэй за ўсё...

Па вуліцы ідзе высокая сухарлявая постаць.
Халодны, застыглы ў спліне твар...
У зубах—традыцыйная люлька.
... Да прахадзячага:
— Пліз, сэр!.. Як прайсьці на Францішканскую вуліцу?..
Вочкі прахадзячага загараюцца нядобрым агоньчыкам.
На твары—сьпярша злосьць, потым—нейкая нерашучасьць.
Панямецку:
— Вы амэрыканец?..
Люлька вымаецца з зубоў:—
— А ду нот сьпік джормэн! Пліз?..
Зноў зялёны агоньчык у вочках, і—
раптам:
— Ангелец!.. Сабака!.. Паводле вымовы пазнаў!.. Сволач!.. Бі ангельца!..

. . . . . . . . . . . . .

Падлятае некалькі падозраных кацялкоў, кепак, капялюшоў.
Мільгацiць нечы кулак. Люлька абрысоўвае ў паветры дугу і лягцiць на брук.
Падымаецца хваля нейкага шалёнага гармідару.
Праз пяць хвілін—падбегшы шуцман стаіць ля вулічнага ліхтара перад тэлефоннай скрынкаю.
— Альлё!.. Паліцай-прэзыдыум?.. Прышлеце барджэй на Фрыдрыхштрасэ машыну, забітага забраць... Што?.. Так... Ангелец... Ля майго посту сёньня—пяты...

* * *

Пад'яжджае машына.
Праз пару хвілін—яна ад'яжджае.
Вось—зьнікла...
Дворнік шчоткаю чысьціць кроў з панэлі...
На бруку, адзінокая люлька...
Ня дыміць...—
Патухла.

. . . . . . . . .

* * *

З-за рогу выходзіць нейкі абарванец.
Вочы прагавіта ўзіраюцца ўва ўсе бакі.
— А!.. Люлька!..
— Давай яе сюды!..
Ён гнецца, каб падняць, і мурмоча:
— Нам—усё гожа... У нашай гаспадарцы—усяму месца знойдзецца...

* * *

А на Унтэр-дэн-Ліндэн—шматтысячны натаўп разьдзірае горла:

„Нямеччына, Нямеччына—
Вышэй за ўсё,—
Вышэй за ўсё, вышэй за ўсё“...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Па Фрыдрыхштрасэ ідзе аддзел пяхоты і далёка разносіцца яго вялiственны сьпеў:

— Любы наш край,—
спакойны будзь!
І верна стой
варта на Рэйне ..

. . . . . . . . . . . . .

* * *

А па шляхох, па шашох, па дарогах і па сьцежках Бэльгіі ідуць людзі, коні, аўтамабілі, гарматы, хурманкі...

Па шляхох, па шашох, па дарогах і па сьцежках Паўночнае Францыі ідзе пяхота, коньніца, артылерыя, інжэнэрныя войскі.

Пройдзены ўжо: Льеж, Намюр, Шарлеруа, Ліль, Сэн-Кантэн.

Гараць ужо: Рэймс, Камбрэ, Камп‘ень,—цяжкія саракадзьвюхсантымэтравыя „бэрты“ дзяўбуць па сусьветнай сталіцы—старому Парыжу...

Францускі ўрад уцякае ў Бордо...

На рэчцы, на Марне вырашаецца лёс сталіцы Францыі,—лёс вайны...

* * *

Зрэзаная, расьпятая, разарваная, разрытая зямля...
У ёй—людзі...
Мэрам тыя чарвячкі:—
такія мізэрныя, нікчэмныя...
Яны закапаліся глыбока ў траншэі,—
а зьверху,—
на паверхні—
пекла.

... Рвуцца з усіх бакоў знарады, фантастычным казачным конікам стракоча кулямёт, суха ўхаюць гарматы, жабамі плююцца бамбакіды...

Небасхіл—бязконца і бяз меры засьцілае дым,—французы завесаю маскуюць перасоўваньні сваіх войскаў...

... Трррр—тарахціць недзе ў гары прапэлер...

— Бум-бабах!—цяжка адказвае яму гармата...

— Чыя?

— Хто яе разьбярэ!..

* * *

— Так... Вось і вайна,—думае Альфрэд—вайна... Нічога... за 3-4 тыдні ўсіх не пераб‘юць... Нехта застанецца... Можа я... А тады... О!..

— Толькі зайсьці ў гэты распракляты Парыж... Тады-б усяму канец...

Раптам—каманда:

— Зьбірайся!..

— Куды?

— У атаку?..

... Ля „ходу зносін“ цэлы натаўп...

– Не,—зараз прыдуць нам на зьмену баварцы, а мы у тыл...

* * *

...Шалее вайна... Рвуцца над галовамі шрапнэлі... Зусім нізка зьехаўшы аэраплян „рэжа“ кулямётам...

...Б‘е барабан... Нешта бравурнае...

...Вышлі з „лініі агня“, і таму йдуць згуртаваным ладам...

Зграбныя шэрагі!..

Нага ў нагу,—

крыху абарваныя,—

але затое—ідуць, гледзячы проста перад сабою, нага ў нагу,—ніхто ня скосіць вочы ў бок,—яны йдуць па сьцежках лясных, па дарожках...

. . . . . . . . . . . . . . .

— Эй, вы, чаго насы павесілі?—крычыць гаўптман фон-Орфайген.

— Песьню!..—песьню!.. Каб усім д'яблам моташна стала!..

...Любы наш край,—
спакойны будзь!
І верна стой
варта на Рэйне...
. . . .

## РАЗЬДЗЕЛ III

### Прачынак

* * *

— А бачыў, братка Альфрэд,—баварцаў, дык тых у акоп увайшло разоў у пяць менш як нас...

— ?..

— Ці не прыкрыцца адступленьне?..

— Кінь дурніца, пасьлязаўтра ў Парыжы да дзяўчат пойдзем...

— ?..

* * *

— Кажу—на ўсход ішлі...

— Не, на поўдзень...

— А я кажу, на ўсход!..

— Усё роўна,—кажу табе—адпачынак...

— А Парыж тры дні, як ужо наш павінен быў быць... Ды ня ўзялі-ж!

— Возьмем... Затрымаліся...

* * *

А па шашох, па шляхох, па прасёлках і па пралесках Паўночнае Францыі йдуць войскі..

Яны йдуць з заходу на ўсход, і з усходу на захад.

Яны йдуць з поўдню на поўнач, і з поўначы на поўдзень.

Яны йдуць, пяхота, коньніца, артылерыя...

Вось мерна тупае нагамі 398 полк ляндштурмістых...

* * *

— Альфрэд, а як на Марне?

— Хто-ж яго ведае...

— А Морыц сустрэў аднаго прыяцеля з 215-га баварскага,—ён адтуль...

— Ну, што, блізка да Парыжу?..

— Кажа, тысяч сто, ці мо' больш нашых палягло,
— Што-ж... Сьмерць ці перамога!..
— То-ж і я так кажу... Адступілі...
— ?

* * *

— Стой!
...Тупат адразу абарваўся...
— Кватэрмайстар!..
— На месцы, пане гаўптман!

. . . . . . . . . . . . .

* * *

— Што гэта за вёска?
— Здаецца Труа Клю...
— А дзе жыхары?..
— Паўцякалі, ці-ж ня бачыў, скрозь пуста...

. . . . . . . . . . . . .

* * *

— Эх, даўно ня спаў я на добрым ложку!..
— І на падлозе, Альфрэд, ня дрэнна, калі змарыўся!..
— Але так, як зараз, куды лепш!.. Ведаеш, братка, гэта мне нагадвае як калісьці...

у хаце, у Бэрліне...

... і замаўчаў раптам неяк адразу—нешта ўнутры абарвалася:
— У хаце? Як далёка яна... Якая хата?.. ды ці была яна калікольвек ці ня сьнілася...

. . . . І раптам:

— Фрэддзі...
— Фрэддзінька!..
— Фрэддзі!..
— Фрэ... аааа!..

... Па шчацэ, пад вокам пацякло нешта цёплае салёнае...
Кранулася вугалка губ...
Альфрэд Кляйн з усяе моцы сьціснуў кулакі...
І забыўся на выгоднае ложка:
Дарма, што зmoраны—
Доўга ня мог ён заснуць...

* * *

Адпачынак. Раньне.
— Кляйн! Табе ліст!
— Га?
Зьліплыя вочы.
Працірае.

* * *

...„Прыйшлі да нас казакі, а ўцячы мы не пасьпелі... Сапраўдныя дзікуны...
...Прычапіліся да таты, каб дастаў сала.
... Узялі ўсё.. Вечарам прышлі зноў па сала.
...Сала ня было.. Раззлаваліся страшэнна...
Засеклі... Матка ўбачыўшы тату мёртвым—упала... думалі самлела... Лекар сказаў, разрыў сэрца... Вільлі забіў аднаго казака і ўцёк... Прычапіліся да мяне... п'яныя... Нарэшце я ўцякла... Дзе Вільлі—ня ведаю...

Я ў Кэнігсбэрзе...

Твая сястра Ліза".

* * *

З разарваным кувэртам у аднэй руцэ, з памятым лістом у другой, стаіць Альфрэд Кляйн...

Вачыма ўтаропіўся ў нейкі пункт на сьцэнцы, недзе высока, пад столлю..

Маўчыць...

* * *

— Пэтэр, — што з ім?..
— З кім?..
— З Кляйнам!..
— Га?..
— Ліст ён атрымаў...
— Дык чаго-ж пытаешся, — ці-ж не разумееш?..
— Хадзем... Эй, Кляйн!.. Хадзем, вып'ем, братка!.

Маўчаньне.

* * *

— Пойдзем, Фрэддзі, даражэнькі, чаго там!

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

— Фрэддзі... Фрэддзінка... гэта-ж... яна... клікала так...

* * *

— Ну, Фрэддзі, хадзем... Эй, Франц, ці-ж ня бачыш, ён нічога ня чуе... бяры яго пад руку, вядзем...

* * *

...Труа Клю...

Разбураныя будынкі...

Пустыя сялянскія хаты...

Касьцятрупам глядзяць на пляцу папаленыя напаўразбураныя муры касьцёлу...

А побач (на вайне ўсяк здараецца) жыў Кюрэ, францускі ксёндз, і яго камяніца пустая, але цэлая...

Добрая камяніца... Прасторная... Цяпер тут паходны шынок.

* * *

Пілі. Доўга пілі... Пілі шмат.

Не набгом (немцы ня любяць піць набгом) не, маленечкімі глыткамі.

Смачнае шампанскае ў скляпох сялян-вінаробаў!..

Пілі. Доўга пілі. Пілі шмат.

Больш за ўсіх — Альфрэд Кляйн.

Так хацелася ўпіцца, забыцца на ўсё, дык не!

Колькі ня піў, а думкі сьвежыя, яскравыя...

І толькі ўсё бордзым ройлам лётаюць яны ў мазгох.

Круцяцца, быццам тыя жорны ў млыне.

І такія яскравыя, такія сьвежыя...

...Яскравыя да жудасьці...

...Яскравыя да шаленства...

* * *

А таварышы узрушаныя, гавораць узьнята, бязконца, бязьмеры... Перабіваюць адзін аднаго... Блытаюцца...

— Пэтэр, Фрэддзі, чаго так сядзець, пойдзем да дзяўчат, там весялей.

...Фрэддзі маўчыць, ён ня чуе...

Куды? пытаецца Пэтэр...

Ды там, бачыў шыльду: „Школа“.

Там цяпер паходны публічны дом...

* * *

Фрэддзі, хадзем!..

..Маўчаньне...

Хадзем, Фрэддзі, ці-ж ня чуеш?

— Ды кінь ты яго, Франц, куды яго, з ім моташна будзе...

Франц застыў у разважаньні...

Хадзем, Франц, чаго там!..

Пэтэр падымаецца з лаўкі й накіроўваецца да дзьвярэй. Франц ідзе сьледам...

* * *

Альфрэд устае.

— Куды?

— Ці-ж ня ўсё роўна... Пайду . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Фрэддзінька!..

— Фрэддзі!..

— Фрэ... ааааа!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вочы Альфрэда Кляйна пашыраюцца, утаропваюцца ў дзьверы...

... На твары—балючая нерашучасьць.

* * *

А за суседнім столікам:

— Браткі,—ведаеце?—Адольф—бяз вестак зьнік,—пэўна французы ў палон узялі...

— Чуў, чуў, а Эдуарду—паўгалавы адарвала... Сам бачыў...

— Так. Паўль—дык яму нічога: лекар нагу адцяў—жыў, і да хаты пэўна вернецца!..

* * *

Альфрэд як у сьне, машынальна запіхвае руку ў кішэню...

... „Парттабака“ „Цыгарачку закурыць“...

Замест парттабакі—старая газэта.

Перагнутая акуратна, зложаная...

... Машынальна, як у сьне, быццам гэтага яму толькі й трэба, Альфрэд разгортвае яе.

... На першай старонцы, вялізнымі літарамі слова:

**„В а й н а!“**

— „Вайна“—мурмоча Альфрэд як у сьне.
— „Вайна“—...—
— „В-а-й-н-а!..

* * *

— Д‘ябал!—
Вось, што гэта такое,—вайна!..
Ї шпаркамі крокамі Альфрэд выходзіць з шынку на вольнае паветра...

* * *

— Што гэта з ім? Ці не звар‘яцеў часам?—пытаюцца за суседнім столікам...
— Ат!—Нейкі ліст сёньня атрымаў...
— А!—Ну, нічога, абыйдзецца...

---

РАЗЬДЗЕЛ IV

## Звычайная гісторыя

* * *

Пасьля Марны—была Сольдаў, пасьля Сольдаў—Варшава...
Былі бязьмежныя роўнядзі Ўсходу—
Былі гарыстыя цясьніны Поўдню...
Быў Аўгустоў, была Цэр-Планіна...
Па ўсяму сьвету—як ашалелыя йшлі людзі, ішлі войскі, ішлі коньнікі, ішла артылерыя...
Па ўсяму сьвету—як ашалелыя насіліся цягнікі: з людзьмі, з войскам, з гарматамі, з амуніцыяй, з харчамі...
Па ўсяму сьвету—як ашалелыя насіліся цягнікі.
Цягнікі з людзьмі жывымі і паўжывымі, і зусім бяз людзей.
Цягнікі са знарадамі, з харчамі,—і зусім бяз нічога...

* * *

Так было,—і нарэшце сталася больш цягнікоў з раненымі, з хворымі, як са здаровымі,
больш цягнікоў са знарадамі, з амуніцыяй, як з кормам,
больш цягнікоў зусім пустых,—з рашчыненымі дзьвярыма вагонаў—як цягнікоў з харчамі...

* * *

А ў Бэрліне—жыцьцё йшло—сваёй—не сваёй чаргою—але йшло,—пасоўвалася наперад—як пасоўвалася наперад вайна, войскі (чые?—хто іх разьбярэ!), як пасоўвалася наперад сьмерць, хваробы, пошасьці, голад...

* * *

Рог Бэрнардынскае і Моабіцкае вуліцы. Хлебная крама. Стаіць чарга. Чалавак пяцьсот. Хто?
Жанчыны, дзеці, старыкі.
Вось—цётачка Элізабэт.
Атрымала яна, старэнькая, свой кавалачак хлеба,—250 грам, ды кі-

лё бульбы,—цяжка, старэнькай, але нішто, нясе гэта, бы каштоўнасьць якую, дахаты...

... 250 грам хлеба!..
... На тыдзень...
... І бульбы...1 кілё...
... Таксама на тыдзень...

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

— Бэрлінэр Тагэблят!
— Бэрлінэр Тагэблят!..
— Бэрлінэр Тагэблят!..
— Турэччына выступіла супроць хаўрусьнікаў!
— Бэрлінэр Тагэблят!
— Бэрлінэр Тагэблят!
— Бэрлінэр Тагэблят!

* * *

... „Турэччына... Гэта добра, думае старэнькая. Цяпер будзе хутка хлеб... Вайна скончыцца.

Бо немажліва-ж...
— 250 грам хлеба!..
І гэта на тыдзень!“ . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

А па вуліцы,—па Фрыдрыхштрасэ, і па Унтэр-дэн-Ліндэн паўзе натаўп.

Плякаты,—як і калісь.—
І сьпевы—тыя-ж:

„Нямеччына, – Нямеччына...
вышэй за ўсё...
вышэй за ўсё“...

Праходзіць натаўп ля палацу і залівaецца,—разьліваецца, рассыпаецца ў шалёным крыку:

— Кайзэру,—урра!..
— Гох!..
— Гох!..
— Гох!..

Пан фабрыкант, гэр Майкель, і пан інтэндант, гэр Грас,—сядзяць у рэстаране...

... Шампанскае стаіць на стале, як заўсёды, у срэбным вядзёрку ў лёдзе...

... Абед...

— Ах, пане Грас—каб вы толькі ведалі, як цяжка цяпер знайсьці вось гэтых остэндзкіх вустрыц!..

— Ведаю, ведаю, даражэнькі мой,—нават больш таго скажу:—учора, дык мой кухар меў нахабства падаць да стала—гамбурскія, замест остэндзкіх...

— Пакаштуйце гэты ананас, ён вельмі добры,—гаспадар учора толькі атрымаў,—праз Швэцыю...

* *
*

Фрыдрыхштрасэ...
Трэцяя гадзіна...
Народу шмат...
Як калісьці...
Але толькі—

народ крыху ня той: Людзі—сухарлявыя, часам, з бліскучымі вачыма. Часам—зморaныя. Шмат жанчын, кабет, дзяцей. Мужчын—значна менш. Але й тыя—або старыя, або калекі, або вайсковыя...

Вось ідзе пад руку з сваёю каханаю (ці з каханаю?—Вайна шпарка зблізае людзей) адпускны салдат.

Ён рады:

на тыдзень вырваўся з гэтага пекла, мае магчымасьць правесьці цэлы тыдзень палюдзку—у родным сваім месьце—убачыць старых бацькоў, пахадзіць па тэатрах, па кіно,—пажартаваць з прыгожымі жанчынамі.

... Так,—жанчынамі—бо мала неяк вайна пакінула дзяўчат...

Ён рады.—Ідзе з ёю пад руку, жартуе, сьмяецца.

Рапатам:—

маладцавата робіць „вайсковае прывітаньне"...

Яна глядзіць на яго са зьдзіўленьнем,—а віноўнік усяго—обэр-лейтэнант, барон фон-Вэск, ледзьве дакрануўшыся адным пальцам да картуза, паважна плыве далей...

*
* *

Барон фон-Вэск—обэр-лейтэнант, таксама мае водпуск на тыдзень.

Ён прыехаў пабачыцца з баранэсай-маткаю.

Хто ведае, ці давядзецца калі яму зрабіць гэта яшчэ раз...

Барон фон-Вэск—сягодня апранецца ў цывільнае—(фрак—гэтак ідзе яму да твару)—бо хто-ж ведае—ці будзе ён мець яшчэ калі магчымасьць апранацца так, як апранаўся калісьці...

Ён паедзе сёньня вечарам у тэатр,—бо хто ведае—ці здолее ён калі кольвек зрабіць гэта...

*
* *

Барону патрэбен новы гальштук...

- Ага! Вось галянтарэйная крама...

Уваходзіць.

За прылаўкам Грэта...

Рукою ў пальчатках барон перабірае тавар.

— Што? Гэта?...

— Дрэнь!..

Узіраецца ў прадаўшчыцу і ўсьміхаецца.

... Круціцца ўгору доўгі вус, „аля Вільгэльм"...

— Дайце мне, фрэйляйн, нешта такое-ж прыгожанькае, як вы самыя...

Грэтхэн—сарамліва патупілася, надзьмулася.

Думае:

„Якое нахабства!"

Але стрымліваецца:

За канторкаю стаіць—

пільна ўсю краму аглядае, гаспадар.

Ён заўжды гаворыць:

— Ветлівей з пакупачамі, паненачкі,
— Што-б ня здарылася—ветлівей...
— Больш вытрыманасьці.
— Інтарэсы фірмы ў першую чаргу!..
— Ветлівей! . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .

Грэтхэн выцягвае з шапы яшчэ скрыначку.
„Ветліва!"..
— Можа гэтакі, паночку?
„Як есьці хочацца!"...
Ён:
— Ах, фрэйляйн, каб паглядзець на вас, згодзен адкупіць усе гальштукі, якія вы мне запрапануеце!
І думае:
— Чаму-б... Экзэмплярчык рэдкі!.. . . . .
. . . . . . . . . . . . .

... Грэта думае:
„Інтарэсы фірмы—у першую чаргу!"
— Можа, вось гэты вам да спадобы?
— Вось гэты вазьму,—ён прыгожы, але ён нішто, супроць вас, фрэйляйн...
— Загарнуць?..
Калі-б вы мне яго загарнулі, дык і самую сябе ў дадатак!.. .
. . . . . . . . . . . .

* * *

... Балюча, як агонь!..
... „Я галодная!"..
... „Інтарэсы фірмы"...
... „Ратуй!"..
... „Фрэддзі"...
... „Пад'есьці!"
„Вытрыманасьць"...
„Ветлівей"...
І ўсьмешачка —
такая ветлівая, ветлівая.
— Я буду вольнай а сёмай гадзіне, паночку...

* * *

На Фрыдрыхштрасэ—зноў натаўп:
— „Прэч хаўрусьнікаў!"..
„Хай жыве Нямеччына!".
„Хай жыве наша слаўнае войска!".
Ідуць. Далёка. Чуецца на вуліцы сьпеў:

— Наш любы край —
спакойны будзь!..
І моцна стой
варта на Рэйне!..

* * *

А вечарам —
Склізка... Сьцюжа. Туман. Блішчаць запацелыя вітрыны... Блішчыць мокрая асфальтавая панэль... усімі магчымымі колерамі і вадценьнямі сьвеціцца будынак Опэры.

На будынку Рэйхсбанку —
палымянымі літарамі запальваецца рэкляма:

Курыце толькі папіросы
**Окаса—Зарото**
Смак! — Таннасьць!

Запальваецца і гасьне, але замест яе ўжо не зьяўляецца...

**„Кукіроль“**

не —
Сьпярша ідзе:

„Лепшае сурагатнае піва
**— Эрзац—Мюнхэн!**
Таннасьць. — Эканомія.

. . . . . . . . . . . . .

Манатонна, цяжка тупае тысячаногі натаўп... Ёкаюць пугамі хурманы... Гудуць шпаркія аўто. Як ашалелы нясецца трам...

* * *

Бэрлін гуляе. Бэрлін вяселіцца.
Бэрлін увесь, — здаецца, —
— у тэатрах, у шантанах, у вар'етэ
у кіно, у рэстаранах...
Ці ўвесь?

* * *

Моабіцкая вуліца...
Вось ён — вялізарны, шасьціпавярховы дом, — дом-волат... Сюды некалі прыходзіў штодня Альфрэд Кляйн...
Вось тая малюсенькая кватэрка — на трэцім паверсе. Два такія зграбныя пакойчыкі і кухня . . . . . . . . . . . . . . .

Але цяпер—тут ужо ня тыя людзі. Не, Альфрэд Кляйн сюды ніколі больш ня ўвойдзе, — сюды, — дзе столька любых успамінаў...
Тут чужыя людзі —
а тыя, што калісьці былі тут.—Старэнькая цётачка, гадоў пад шэсьцьдзесят і зграбненькая дзяўчынка гадоў з восемнаццаць. —
Іх ужо тут даўно няма . . . . . . . . . . . . . . .

Вайна —
тая вайна, —
што вырвала Альфрэда, з карэньнем з Бэрліну, што пагнала яго па чыгунках, па шашох, па шляхох і па сьцежках...
— тая-ж вайна —
выкінула старую з дзяўчынкаю, —

выгнала, ды загнала, кудысьці на шосты паверх,—туды, дзе столь ня простая,—пукатая, туды, дзе нізка, дзе над самай падлогаю пачынаецца маленечкае ваконца,—туды, дзе сьвятло, дзе „шмат паветра“ (як хваліцца старая)—але дзе—

так страшэнна холадна зімою,
асабліва пры сучасным крызісе на апал...

* * *

Ї сёньня старэнькая
мерзьне.
На вуліцы—холад, туман, склізка...
У хаце—сьцюдзёна, ой, як сьцюдзёна...
Адзінота:

Позна... Грэтхэн,—дзе яна?... Ці не папала пад трам?.. Не!.. Занадта спрытная... Пэўна, да сяброўкі, да Алісы пабегла,—палку дроў пазычыць, ведае сардэчная,—у хаце вугальлё распаліць няма чым...

Ня сьпіць старэнькая —
Чакае...

* * *

На будынку Дзяржаўнага Банку ўсімі колерамі і вадценьнямі гарыць—рэкляма...

Манатонна, цяжка тупае натаўп. Ёкаюць пугамі хурманы...

... Опэра... Спэктакль скончыўся. Гледачы выходзяць...

... — Гэй, машына! —

— Есьць паночку!

. . . . . . . . . . . . . . .

Увайшлі ўдваіх,
Ён і яна, —
Грэтхэн.
— Шофэр! Гані ў Апольлё!..

* * *

... Ноч... Туман... Сьцюжа...

...Малінавымі праменьчыкамі гуляюць па мокраму асфальтаванаму бруку вулічныя ліхтары. Манатонна тупае тысячаногі, але ўжо крыху радзейшы, натаўп. Ёкаюць пугамі хурманы. Дзьвініць шпаркі трам...

Нейкае ашалелае аўто ляціць, бы звар'яцеўшы па бруку, ускідвае з разьбегу зрэнкамі на санлівага шуцмана, што стаіць на рагу,— і зьнікае там,—адкуль і зьявілася,—у сінявата-блакітным тумане...

* * *

Бэрлін гуляе. Бэрлін вяселіцца. Бэрлін здаецца ўвесь—у тэатрах, у вар'ятэ, у шантанах, у кіно, у рэстаранах, танцгаўзах, отэлях і танных мэбляваных пакоях...

Увесь?..

Не!..

Старэнькая цётачка—такая старэнькая (гадоў шэсьцьдзесят, ці мо' больш)—яна ў хаце,—мерзьне, яна плача, — яна адзінокая...

... Зноў запаляецца і гасьне слова „Кукіроль“ на будынку дзяржаўнага банку, — зноў зьмяняецца яно нівам „Эрзац-Мюнхэн“...

— Зноў дзіка равучы пралятае міма нейкае аўто. — Пралятае, — але так, як тады,—не, яно ня зьнікае, яно затрымліваецца, спыняецца, — вось яно стаіць ля ганку „Паляс-Отэлю“...

Ноч.
Раньне.
Сьцюжа.
Туман.
Склізка.
Сьпіць Бэрлін.
Сьпіць...

. . . . . . . . . . .

Сьпі спакойна—горад фабрычных камінoў, і Альлеі Перамогі,—горад Бісмарка, і Карла Лібкнэхта,—горад калек, дзяцей, жанчын, вайсковых і прахвостаў.

Сьпі спакойна!..

## РАЗЬДЗЕЛ V

## Калі-ж, калі канец?

А час ідзе...
Колькі яго прайшло?—
Хто яго ведае...
Ашалелыя людзі.

Ходзяць шалёныя па шашох, па шляхох, па прасёлках, па пралесках, па горных, па балотных сьцежках—руйнуючы ўсё, што ўласнымі рукамі перад тым будавалі; шалёныя ходзяць яны па сьвеце,—і час ідзе, гэтак сама шалёны. Дзень падобны да месяца, а тыдзень да году, а ўсе тыя тры шалёныя гады, ці не падобны яны ўсе разам на адну толькі доўгую зімовую ноч?..

Час ідзе, бяжыць, цягнецца ледзьве перасоўваючы старыя свае ногі і зноў бяжыць...

Марна скончылася, пачалася Варшава.

Варшава...

Што азначае гэтае слова ў гісторыі чалавецтва?—

Варшава—тарпяное балота, торп, у ім—загубленыя чалавечыя жыцьці, а вада—кроў, кроў сотняў тысяч—калі ня мільёнаў загінуўшых за тое, каб узяць, ці бараніць яе—кроў немцаў, расійцаў, аўстрыякаў, беларусаў, мад'яраў, украінцаў, татараў, палякоў, ліцьвінаў, армян, сібіракоў, грузінаў...

* *

Час ідзе, ідзе вайна, ідуць бойкі.
Была Марна, Сэн-Кантэн, Рэймс.
Былі Остэродэ, Лык, Кэнігсбэрг.
Прышла чарга Прушкова.

Варшава надзьмуўшыся, бы жаба, плюецца сотнямі тысяч сібіракоў, і немцы змушаны адступіць, адыйсьці на лінію Лодзь-Ловіч...

* *

Тут—лінія акопаў. Тут—„свае“ немцы, аўстрыякі, палякі, мад'яры русіны, чэхі.

Там—„яны“—„чужыя“—„ворагі:“ расійцы, латышы, палякі, беларусы, чэхі, русіны...

У асярodку,—мёртвы абшар між „гэтай“ і „таёю“ лініяй...

* *

Мёртвы абшар...
Мёртвы...

Нават шчуры, і тыя паўцякалі з гэтага „поля“,—поля, на якім расьце ня жыта, не пшаніца, не авёс,—ці мо' якая бульба, поле,—на якім расьце сьмерць,—расьце і шырыцца,—шырыцца і расьце—усё затуляе сабою.

* *

Раньне...

Альфрэд Кляйн стаіць у акопе і са стрэльбаю ў руках,—чакае, ці ня прыкажа яму хто што-кольвек...

Раптам—

Загуло нешта—загуло
нейкай асаблівай няўцямнай сырэнаю...
Загуло,—
недзе далёка,
і ўсё, набываючы голас,
набліжаецца,
набліжаецца,
набліжаецца...

* *

У-у-у-у-у-у—б а х!—
Разарваўся недзе зусім блізка знарад...
Высокі слуп дыму.
Дождждык зямлі, пылу, каменьняў...
А потым—як звычайна:
— санітары,
— насілкі,
— ўсхлюпваньні,
стогны
— енкі...

* *

Альфрэд стаіць на сваім месцы, ён сьціснуў стрэльбу ў руках і моцна закусіў губу:

... Нічога... Скора скончыцца...

... Вось, толькі, будзе наступ...

* *

Пасьля Марны была Сольдаў,—пасьля Сольдаў—Варшава...
Былі бязьмежныя роўнядзі Польшчы і Літвы...
Былі гарыстыя цясьніны Сэрбіі...
Была Остэродэ,—была Цэр-Планіна...
А потым?..
Потым тлум,—мешаніна, блытаніна, усё заскакала,—замітусілася... Рэймс наскочыў на Ізонцо,—а Вэрдэн на Коўну...
— Што было сьпярша,—што потым?—
Нямаведама...

* *

Але было тое,—страшэннае,—быў Рэймс,—было Ізонцо,—быў Вэрдэн, была Коўна... У кожны раз—была думка: „Хутка канец,—... вось яшчэ,—толькі гэты наступ“...

* * *

Час ішоў,—час сьмяяўся,—а людзі, зьбянтэжаныя, недалужныя мізэрныя, няўцямныя, паслухмяныя; хадзілі, беглі, езьдзілі, елі, пілі, галадавалі, гаравалі, і... старанна зьнішчалі адзін другога...

* * *

... Заходні фронт...
... Лётарынгія...
... Варта на Рэйне...
Шалее вайна, шалеюць людзі, шалеюць гарматы...
... Рвуцца з усіх бакоў знарады, фантастычным казачным конікам стракоча пулямёт, коратка, суха плююцца бомбакіды...
Альфрэд у акопе...
... Екат, лязгатаньне...
Раптам—крык...
— Яны ідуць!..
... Ідуць!..

* * *

— Ага,—французы робяць атаку... думае Альфрэд...
— Нічога:—хутка наш наступ,—тады канец...
Францускія гарматы спынілі страляніну. Гаўптман фон-Орфайген нешта крычыць, але яго ніхто ня чуе. Альфрэд высоўваецца крыху з-за бруствэра і глядзіць наперад...
— Чоррт—мурмоча ён сабе пад нос,—і пачынае аглядаць сваю стрэльбу...

* * *

Там—на полі—стадам сапраўдных д'яблаў—зігзагамі бягуць „яны"—і блішчаць на сонейку іх чорныя, як вугаль твары, блішчаць, як сонца, вылупленыя бялкі вірлаў,—блішчаць, дыямэнтамі, мэрам ненатуральна, зубы...
— „Яны"—нэгры. „Яны" бягуць зігзагамі, каб абакуліць, падманіць „духа сьмерці", каб зьбіўся ён са сьледу, каб не дагнаў... Яны бягуць... Цьфу!..
Сапраўднае стада д'яблаў...

. . . . . . . . . . . . . . .

* * *

... Немцы адступаюць. Зноў загаварылі францускія гарматы. Сьледам за нэграмі—ідуць „пуалю"—сапраўдныя французы. Недзе з боку затарахцеў кулямёт. Людзі падаюць, ідуць, падаюць...
Вось другая лінія... Зараз!..
... — Бабах!..
Недзе, непадалёк выбухнуў знарад.
Вось, яна лінія...
— Хутчэй, схавацца ў акоп!..

* * *

А да „вучастку" шэрагам пад'яжджаюць бөрдзыя аўтамашыны. Адна за аднэй. Дапамога.
Зараз контр-атака.
— Гэй,—наперад!..

— Гох!..
... Гох!..
... Гох!..

. . . . . . . . . . .

... Альфрэда падхапіў буйлівы тлумны натаўп.
Раптам,—
у вушох, адчайнае:
— Фрэддзінька!..
. . Фрэддзі!..
... Фрэээ... ааа!

. . . . . . . . . . .

* * *

... Альфрэд адбіўся ад сваіх. Адстаў.
Вось ён—ні то бяжыць,—ні то йдзе, кульгаючы па полі.
Навокал—стогны, енкі.
Альфрэд спатыкаецца аб нечы труп...
Азіраецца.
І —
кроў застывае ў жылах ..

. . . . .

Побач—кроках у дзесяці—нэгр, з нажом у зубах. У руках нешта накшталт драцянога вабруча. Нагінаецца над трупам, бярэ нож, левай рукою хапае вуха мерцьвяка, і пад дзікі крык радасьці—адцятае вуха далучаецца да крывавае нізкі,—на драцяным ланцугу...

* * *

Першый рух—
— „забіць, яго,—гада!“..
Але агідна неяк...
— Ды: што-ж... Так... Тут няма жаднага патрыятызму... Французы плацяць ім за кожнае прынесенае вуха...
Старая мароканская сыстэма...

. . . . . . . . . . .

* * *

... Альфрэд зноў у натаўпе.
... Вось той акоп,—што пакінулі былі.
... Гох!
— Гох!
— Гох!

. . . . . . . . . . .

* * *

Альфрэд ускочыў у акоп...
... Вось тое месца, дзе з гадзіну таму, ён піў сваю ранішнюю каву з мармалядаю.
— Чорррт!—
зноў зрываецца ў яго з языка...
Зноў пачынаецца гарматная страляніна.
Зноў пачынаецца звычайны, даўно страціўшы ўсю сваю дынамічнасьць, манатонны тупатлівы шаль...
... Альфрэд сядзіць у акопе, зьбірае думкі...
А ў вушох—зноў:

... Фрэддзінька!..
... Фрэддзі!..
... Фрэээ...

. . . . . . . . . . . . .

Ї раптам—нейкі шалёны ўсхліп вырываецца з горла...
Калі-б хто здолеў толькі разабраць сэнс гэтага ўскрыку!..
... Падбягаюць зьбянтэжаныя таварышы...
— У чым справа?..
— Фрэддзі Кляйн...
— Гістэрычны прыпадак...
— Дзе?—
— Што?..—
— Прыпадак...
— Кіньце, яго, хлопцы, — пяройдзе...
— Бач,—як абабіўся...
— Пяройдзе!..

. . . . . . . . . . . . .

Ї сапраўды—
перайшло...

... Перайшло,—але ў горле недзе,—ці мо' ў грудзёх—зачапіўся—гэты шалёны ўсхліп, які меў такі выразны, яскравы зьмест, але якога ніхто не зразумеў; зачапіўся, — каб толькі часам перапаўзаць крыху вышэй, у галаву, уядацца пазюрамі ў расхваляваны мозаг, рваць яго на шматкі, пытаючыся:

— Калі-ж канец гэтае вайны, калі-ж, нарэшце...

. . . . . . . . . . . . .

Праклятае пытаньне!..

. . . . . . . . . . . . .

## РАЗЬДЗЕЛ VI

### „Ня плач, дзяўчыначка, ня плач дарэмна“...

* * *

А там, недзе, далёка,—на поўначы, на ўсходзе, недзе далёка за лініяй агня,—фінская затока, скаваная сьцюдзёным лёдам. Там—панства сьцюжы.

Ї раптам—
сярод зімы—цуд:
парушыўся лёд.

Грукочуць вінтоўкі, грукочуць кулямёты, грукочуць гарматы.
Грукочуць—
пановаму.

Вайна. У гэткі час—цяжка зьдзівіць каго кольвек стралянінаю,—усё роўна: кулямётнай, ці гарматнай. Але ўвесь сьвет, пачуў і застыў у напружаным чаканьні...

. . . . . . . . . . . . .

Рушыцца лёд, рушацца людзі, рушыцца па вуліцах мільённы натаўп.

Зьмяшалася ўсё: і пышная „паддзёўка“ бакалейнага „малайца“, і пашарпанае паліто рабочага, і „інтэлігэнцкія“ акуляры, і шэрая шынэль, і бабская спадніца...

Паводкаю расплыліся па горадзе мільённыя масы. Людзі ходзяць' зьбіраюцца, разыходзяцца, гамоняць. Людзі спрачаюцца, страляюць' сьпяваюць.

Нехта мітусіцца ў апошняй сьмяротнай агоніі. Нехта заклікае да змаганьня, заходзіцца яго арганізаваць. Нехта прабуе выплыць на паверхню разбоўтанае муці, і зрабіцца новым урадам, – новым „начальствам“...

Вышла мора чалавечае з берагоў, палілося ўва ўсе бакі тысячамі рэк, рачушак і ручайкоў. Ледзьве-ледзьве ўціскаецца яно ў вузкія рэчышчы вуліц і завулкаў. Бура раве, гудзе, сьвішча, а над усім—чырвоныя сьцягі, і

сьпеў:

„Адрачомся ад старага сьвету“..

* * *

І яшчэ там, на ўсходзе, але ў другім месцы—недзе між Псковым, Балагім і станцыяй Дно—насіцца ашалелы цягнік,—мітусіцца—ня можа знайсьці выхаду.

І другі цягнік—з поўначы, едзе яму насустрэч.

Пскоў.—Зьехаліся цягнікі, сталі адзін супроць другога.

З таго, што прыехаў з поўначы—выходзяць два і йдуць у той,—што мітусіўся шукаючы выхаду.

Праз колькі-та часу выходзяць яны вяртаюцца ў свой цягнік і едуць зноў на поўнач. А па дарозе—усхваляваныя, узрушаныя ўвесь час выцягваюць з партфэлю нейкую паперу,—ня верачы ўласным вачам перачытваюць яе, мо' ў тысячны раз...

Праз некалькі гадзін стукаюць Морзэ, Бодо і іншыя тэлеграфныя апараты ўсяго сьвету. Тэлеграфістыя, зьдзіўлёныя, усхваляваныя, узрушаныя—з захапленьнем сочаць за белаю істужкаю, што разгортваецца ўсё далей і далей: ...—„з божае ласкі мы... у гады цяжкае пакуты, што выпала на долю каханай бацькаўшчыны нашай.....“

І ўбачыўшы пасьля тэксту такі прывычны, звычайны ў той час подпіс:

... „Мікола“...

апушчаюць тэлеграфістыя рукі і асалапела глядзяць адзін на другога,—нібыта мімаволі зрабіліся сьведкамі, нейкага надзвычайнага зусім, цуду.

* * *

А ў Бэрліне—

вуліцы таксама выглядаюць ня так, як заўсёды. Тут таксама натаўп,—таксама сьпевы, таксама сьцягі. Але сьцягі—ня тыя,—яшчэ трох калёрныя:

І сьпевы—таксама старыя:—

„Нямеччына, Нямеччына—вышэй за ўсё!“

. . . . . . . . . . . . . . .

Натаўп звычайны, як і скрозь, усе апошнія гады: змарнеўшыя, пахудзелыя жанчыны, хворыя, пакалечаныя мужчыны, і скрозь—галодны бляск мутнаватых вачэй...

Сярод натаўпу носяцца газэтчыкі:

— Бэрлінэр Тагэблят!

— Бэрлінэр Тагэблят!..

... Рэвалюцыя ў Расіі...
... Зрачэньне цара Міколы...
... Хуткі канец вайны...

* *
*

Ля крамы чарга. . Старая, старая бабулька. Прыбягае газэтчык. Нешта крычыць. Навокал—узрушэньне.

Старая да суседа:

— Скажэце, майн гэр,—што здарылася!..

Сусед нешта тлумачыць.

І раптам.—

Заблішчэлі старыя вочы,—скрозь сьлязу загарэліся—загарэліся агнём палкае, маладое веры, надзеі...

*
* *

На захадзе—
на палёх Шампані,—у цясьнінах Тыролю, у пяскох Остэндэ, грукочуць гарматы,—грукочуць па старому,—выюць, уздымаюць пыл—пырскаюць ува ўсе бакі кроўю і чалавечымі мазгамі...

Там—яшчэ сьмяецца час—там думае ён адпомсьціць чалавецтву за тую зьнявагу, якую зрабіла яно яму на ўсходзе...

Але і тут—у перапынку—ад пекла да пекла, гаўптман фон-Орфэйген сабраў салдат і чытае ім загад па арміі:

... „Мы перамаглі,—у Расіі рэвалюцыя"...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

І раптам,—з салдацкіх шэрагаў нейкі голас—

— „хто гэта „мы"—пане гаўптман"?..

... Замяшаньне...

* *
*

Ноччу,—у бліндажы ня гледзячы на зморанасьць, доўга не маглі заснуць, варочаліся на саломе, і час-ад-часу пыталіся ў суседа:

— Пэтэр, ці Стэфан,—чуеш,—можа і праўда, хутка канец?..

— Адольф, як ты думаеш, ці хутка?..

Альфрэд Кляйн, таксама ўзрушаны, доўга ня мог заснуць, і ляжаў на сьпіне з расплюшчанымі вачыма.

... „Можа і сапраўды... тады дахаты... тады да Грэтхэн... Ад Грэтхэн лістоў даўно нешта няма... Дзе яна?.. Што з ёю?..

... Можа й праўда, хутка, тады—да хаты"...

... Вочы зьліпаюцца... Думкі блытаюцца...

Раптам—

„Фрэддзінька!..

... Фрэддзі!..

Фрэ!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

У Бэрліне, як і заўсёды, усімі колерамі спэктру гарыць сьвятловая рэкляма.

Як і заўсёды—вуліцы поўняцца галодным людам, як і заўсёды—мітусяцца трамваі, аўтабусы, аўтамабілі, хурманкі.

Каля вітрын рэдакцыі вячэрняга „Абэндблята", ня гледзячы на позны час—натаўп. Настрой узьняты, узрушаны, вясёлы; змучаныя, зморaныя, галодныя,—чытаюць, ня верыць уласным вачам:

„Урад запрапанаваў хаўрусьнікам згоду"...

* * *

Праз пару дзён,—перад тэй самай-жа вітрынай зноў натаўп.

Толькі настрой—ужо ня той, настрой—прыдушаны. У вачох, у галасох жорсткая роспач.

Чытаюць:

... „Хаўрусьнікі ад згоды адмовіліся...

... „Расійскі часовы ўрад ад згоды таксама адмовіўся"...

* * *

Заля опэры поўніцца цудоўнымі гукамі Вагнэра.

Без канца, бяз меры хараственныя мэлёдыі захапляюць сьвядомасьць, сіляцца прымусіць слухачоў забыцца на ўсё, што там, за мурамі гэтага будынку. У перапынку—заля сьвеціцца тысячамі агнёў. Варушыцца ў партэры цэлае мора галоў, голых жаночых плеч, і бліскуючых мужчынскіх пляшын.

На галёрцы, высока, пад самаю стольлю сямнаццацігадовыя дзяўчынкі.

— Як вернемся дахаты, Лізхэн,—што рабіць,—вячараць сёньня няма чым...

— Нічога, Грэтхэн,—ляжам адразу спаць, а ў раньні—падумаем...

. . . . . . . . . . . . . .

У фойе—буфэт—і за столікам нейкая маладая прыгожая пані і другая, відаць ужо пажыўшая.

— Ах, фрау фон-Рэйцэль, гэтыя няшчасныя раненыя,—трэба будзе ў хуткім часе наладзіць яшчэ адну вечарыну ў іх карысьць!..

— Што-ж, фрау Мюлер,—я заўсёды гатова дапамагчы добрай справе...

Тым больш,—на гэтых вечарынах так весела...

— Так, так... Трэба дапамагаць...

Вось я ў гэтым месяцы 2 кашулі сама сшыла, уласнымі рукамі і паслала нашым салдацікам...

— Ах, якая вы добрая!..

Фрау Мюлер сарамліва ўсьміхаецца і патупляе вочкі да долу.

— А сем'і нашых салдацікаў запраўды бядуюць. Ведаеце,—я была тут у аднае жанчыны. Страх, проста,—яна адна,—і чацьвёра дзетак,—галадуюць, хлеба ў іх няма!..

— Так! Так! Але вы ўявеце сабе, я была у Вісіньгнаў,—у іх за абедам хлеб! Бяз картак дастаюць!.. Чорт знае, што такое!..

— Што вы кажаце! А мы з мужам пастанавілі,—пакуль цягнецца гэтая вайна,—мы хлеба зусім ня будзем есьці,—трэба, ведаеце, эканомію рабіць... Ну, дагаварыліся, з адным гандляром,—ён будзе нам прысылаць штодня сьвежыя бісквіты...

* * *

— „Бэрлінэр Тагэблят!

— „Бэрлінэр Тагэблят!

— Бэрлінэр Тагэблят!"

. . . . . . . . . . . . . .

Альфрэд Кляйн газэт ня любіць.

Даўно ўжо. З тае пары, як даведаўся аб лёсе свае сям'і, як зразумеў як сьлед значэньне слова „вайна"—

З самае тае пары ня любіць Альфрэд Кляйн газэт. Ня любіць ён іх. Чаму?—

Хто яго ведае...

* * *

Ня любіць ён гэтых слюнявых апавяданьняў пра „гэройскія ўчынкі нашых бравых нямецкіх салдацікаў“, ня любіць, бо знае сапраўдную цану гэройства.

Ня любіць ён гэтых апісаньняў розных дабрачынных вечароў „на карысьць раненых і інвалідаў“, якія наладжваюцца мягкасэрдымі акцыянэрамі розных гарматных ці знарадных фабрык...

Ня любіць ён гэтых фатаграфій багата разаздобленых брыльлянтамі ня першае сьвежасьці, сьлязьлівых і тоўстых пань, чамусьці ўбраных у адзеньне „сястрыц міласэрдых“,—і чамусьці сфатаграфаваных у якім кольвек шпіталі, каля ложка якой кольвек „ахвяры каханьня да бацькаўшчыны“.

Ня любіць ён гэтых высока-лунаючых прамоў, добрага старага нямецкага кайзэра,—

прамоў адначасьне і пагардлівых і крывясмаглых...

Ня любіць ён і гэтых няшчырых сьвядома маньлівых паведамленьняў галоўнага штабу...

* * *

Але па ўсім сьвеце тэлеграф разьнёс гэтыя дзіўныя, даўно-чаканыя словы:—

... „Рэвалюцыя ў Расіі“...

... „Паўстаньне ў Пецярбургу“...

... „Зрачэньне цара Міколы“...

І з самае гэтае пары—зноў палюбіў Альфрэд Кляйн тыя газэты. З гэтага дню пачаў ён старанна перачытваць іх рэгулярна, штодня, пакольні ён толькі меў да таго магчымасьць...

А загалоўкі йшлі, зьмянялі адзін другога, тлумліваю чаргою прабіваючыся ў мозак:

— Уладу пераняў Часовы Ўрад...

У Пецярбурзе, у Маскве, у правінцыі арганізуюцца Саветы...

* * *

Вось кароценькая нататка:

... З Швэйцарыі, праз Нямеччыну, прыехаў у Пецярбург расійскі эмігрант...

Анархіст, ці што...

Прозьвішча—

Ленін...

Ён сказаў прамову. Патрабаваў канца вайны. Даводзіў, што расійскі пралетарыят, сялянства, тае вайны ня хочуць, што яна ім не патрэбна...

* * *

І яшчэ нататка:

...Пецярбурскія рабочыя і салдаты спаткалі Леніна вельмі прыхільна...

У Расіі—анархія... Армія па малу распадаецца... Расія—больш ня сіла...

* * *

На Захадзе,—гарматы гучаць як даўней.

Гураганны агонь месіць палі паўночнае Францыі, дарывае апошнія шматкі Бэльгіі, засыпае цясьніны Ізонцо.

Дні йдуць за днямі, тыдні за тыднямі. Мяняюцца, ідуць адзін за другім дні, тыдні, месяцы, людзі, бойкі, мясцовасьці, краіны, газэты, загалоўкі, артыкулы, радкі і літары, весткі. Вось і ліпень месяц. З кожным днём, здаецца, бліжэй і бліжэй перамога, і раптам—як той пярун сярод яснага неба:

„Расійцы перайшлі ў наступ“...

„Аўстрыяцкі фронт у Галіччыне прарваны“...

„Расійцы пагражаюць Львову“...

* * *

...Мэрам засароміліся, прыціхлі газэты. Мэрам хворы ў часе крызы прыціх Бэрлін. Мэрам тыя шчуры, прыціхлі, кінулі гутаркі аб згодзе салдаты ў бліндажох на фронце...

. . . . . . . . . . . . . .

Загад:

...„398 полк ляндштурмістых перакінуць на ўсходні фронт“...

* * *

Зноў пабеглі тлумліваю чаргою: гадзіны, дні, ночы, цягнікі, чыгуначныя станцыі, тэлеграфныя слупы.

Зноў пабеглі гарады, вёскі, мястэчкі, масты, рэкі, горы, лагчыны, сенажаці, палі, лясы.

Зноў цягнік,—вагон,—зноў сьпевы пад грукатаньне колаў:

— Ня плач дзяўчынка,—
Ня плач дарэмна,—
Скончыцца тая вайна...

* * *

Вось і Баранавічы. Далейісьці паходным парадкам...

— Куды?—

Гэта знае толькі пан гаўптман, ды яшчэ некалькі асобаў,—усе паны афіцэры.

* * *

На станцыі—буфэт.

Тлум, таўканіна, гармідар, мітусьня.

Людзі,—вайскоўцы, „цывілістыя“, мужчыны, кабеты, дзеці.

У буфэце—„Эрзац“—папіросы, „Эрзац“—піва, „Эрзац“—кава,—усё сурагаты. На тое і вайна.

У буфэце—газэтны кіёск.

— „Эрзац“—газэты,—думае Альфрэд Кляйн...

— А калі-ж гэта, нарэшце, сапраўды канец?..

* * *

Раптам—

— Здароў, Фрэддзі!

— А, гэта ты, Шміт!..

Прывіталіся.

* * *

У буфэце „Эрцаз“ піва, „Эрзац“ папіросы, „Эрзац“ кава...

Звычайна тут бывае сурагатная публіка, сурагатныя сустрэчы, сурагатныя прыяцелі.

Але на гэты раз не.

Альфрэд і Шміт — старыя сябры.

У Бэрліне разам калісьці на фабрыцы працавалі.

А потым — сустракаліся ў часе боек.

Блізкія яны, як два таварышы — якія супольна прайшлі цяжкую навуку вайны, — адзін з адным, — побач, нага да нагі, плячо да пляча, біліся яны з „ворагам“ на фронце.

Разам біліся ў Шампаніі. Разам бралі Коўну. Разам адстойвалі Кракаў.

На абодвых адначасьне шчаціліліся варожымі багнэтамі альпійскія высоты. Абодвых прытульвала высокая стэповая трава сэрбскае Шумадыі...

* * *

Пеніцца ў куфлях сурагатнае піва (рапгам нейкім смачным зрабілася). Льлецца бязконца, прыяцельская гутарка, аб усім патроху, — і ўсе аб адным:

— Калі канец гэтае вайны?..

* * *

— Што чуваць пра наступ расійцаў?..

— Ды ўсё, як і было, братка...

— Наступаюць? — пытаецца Альфрэд...

Шміт паварочвае да яго свой твар. Пільна ўглядаецца.

— Дык ты нічога ня ведаеш?

— Чаго?

— Ды пра канец наступу?

— Як, пра канец? Нашы перамаглі?

— Каб перамаглі, я-б гэтага... не сказаў, а што крыху... пасунуліся, дык гэта так.

— Гэта — навіна! — Альфрэд усьміхнуўся.

— „Пераможнае адступленьне“ — гэта я чуў. Але каб пабіты — пасунуўся.

* * *

— А ты ўяві сабе: расійцы адмовіліся — наступаюць.

Альфрэд усёй сваёю цяжкаю постацьцю павярнуўся на крэсьле.

— Як гэта?..

— Ды так. Керанскі абвясьціў наступ. Кінуў на нас больш пэўныя свае часткі. Некаторыя палкі былі скамплектаваны з адных афіцэраў. Пад націскам іх мы пачалі былі адыходзіць. Але салдаты — тыя наступаць адмовіліся. Ну, мы афіцэрскія тыя часьці пачысьцілі крыху, ды ў контр-атаку. Вярнулі ўсё, што страцілі...

* * *

На ўсходзе вайна канае.

Абрыдла людзям паміраць.

Ячшэ час-ад-часу там-сям ідзе перастрэлка.

Яшчэ час-ад-часу гутараць між сабою гарматы.

Альфрэд Кляйн жыве спакайней... Жыве?..

Ці-ж гэта жыцьцё,—гэтае сядзеньне ў акопе, гэтае спаньне ў бліндажы,—гэты абрыдлы гарохавы крупнік, гэтая мармаляда, гэтыя сурагаты замест хлеба, тытуну, піва?..

* * *

У Бэрліне—таксама спакайней. Спакайней, як каля ложку хворага, што мае хутка сканаць...

* * *

Звонку—усё як было. Бэрлін гуляе. Бэрлін вяселіцца. Бэрлін—увесь у тэатрах, у шантанах, у кабарэ, у кіно.

Поўныя людзей усе рэстараны, усе вар'етэ, усе танцгаўзы.

Поўныя народу вуліцы, сады, сквэры. Манатонна, цяжка тупае тысячаногі натаўп. Гарыць агнямі опэра,—цырк Шумана, цырк Буша, выкідваюць з вялізарных зёваў сваіх тысячы і тысячы людзей.

Запаляецца і гасьне на будынку Рэйхсбанку надпіс:

**Кукіроль**

**лепшы сродак ад мазалёў**

Ёкаюць пугамі хурманы, шмыгаюць шпаркія аўто...

* * *

Вечар. Склізка. Холад і туман. Блішчаць запацелыя вітрыны. Блішчыць мокрая асфальтавая панэль.

Нафарбаваная праз усялякую меру дзяўчына.

Насустрэч—нейкі адпускны афіцэр.

Вусы, закручаныя, глядзяць у гору.

— Паночку, хадзем пагрэцца!..

— Што? Куды?..

— Толькі дзесяць марак...

— Бач ты: дзесяць марак! З табою—і за дзесяць фэнігаў не пайду...

. . . . . . . . . . . . . . .

Афіцэр зьнікае. Да абражанае дзяўчыны падыходзіць нейкая, відаць сяброўка...

— Як справы, Гільда?

— Дрэнь,—на вячэру нават не зарабіла...

Вунь,—глядзі, які пашоў... Ведаеш што,—Грэтхэн—папрабуй ты... Я... яму... не падабаюся...

. . . . . . . . . . . . . . .

Грэтхэн нікне ў тумане сьледам за вусатым афіцэрам...

---

## РАЗЬДЗЕЛ VII

## Неспадзеўнасьці...

* * *

На ўсходзе—вайна канае...

Там, дзе дзень і ноч грукацеў пякельны гармідар, там цяпер рэдка, калі-не-калі чуецца адзінокі стрэл...

І здаецца ён цяпер такім недалужным, такім непатрэбным, такім недарэчным, што проста-такі дзіўна: як гэта людзі дагэтуль ня прыкмячалі ўсяе непатрэбнасьці, недарэчнасьці гэтае, цяпер ужо мінулае крыважэрнае мітусьні...

* * *

Ноч.
Альфрэд Кляйн у дазоры...
...Стаіць і думае:
— Вось, хутка скончыцца,—канчаецца...
Ужо цяпер, можа, і ў водпуск пусьцяць...
Паеду Грэтхэн шукаць,—больш году няма лістоў,—адказу няма на мае лісты...

* * *

Сьвішча васеньні сівер. Сьцюдзёна.
Альфрэд Кляйн у дазоры, адзін...
Раптам—
Крокі...
— З „таго“ боку...
— Стой,—хто ідзе?
— Свой,—ці-ж не пазнаў?..
— Ты, Шміт?—зьдзіўляецца Альфрэд,
апускаючы да долу вінтоўку.
— Ты,—з „таго“ боку?..
— Нічога, браце мой,—справа была, я і пашоў. Трэ' было пагутарыць з **нашымі**. Ведаючы, што на гэтым пасту стаіш ты, я, вяртаючыся пастанавіў ісьці гэтай дарогаю, лічачы гэта больш бясьпечным...

. . . . . . . . . . . . . .

— Ну, братка,—часу няма. Выбачай... Іншым разам пагутарым. Я зараз пайду да сваіх. А ты сваіх папярэдзь,—братаньне будзе заўтра, а 12-й гадзіне дня, вось там, ля таго ляску, што ўправа,—ведаеш?..

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

... Шміт ходзіць „туды“...
... „Нелегальна“...
... „Здрада“
... „Ха!“
... „Каму здрада?“..

. . . . . . . . . . . . . .

* * *

Поўдзень.
Лясок.
Натаўп шэра-блакітных шынэляў.
Натаўп жоўта-блакітных шынэляў.
Братаньне.
Мітынг.
Трыбуна-пень.

. . . . . . . . . . . . . .

На пні стаіць шэра-жоўтая шынэль.

Нешта гаворыць парасійску.

Альфрэд Кляйн сіліцца зразумець

Чужыя, халодна-незразумелыя гукі.

На шчасьце—гутарка расійца парасыпана агульна зразумелымі словамі:

буржуазія...

... імпэрыялізм...

... анэксіі...

... кантрыбуцыі...

... мілітарызм...

... буржуазія...

... пралетарыят...

... імпэрыялізм...

І кожын раз, калі Альфрэд Кляйн чуе такое зразумелае слова,—вочы яго пачынаюць блішчэць, блішчэць агоньчыкам здаваленьня, зразуменьня, прыязьні...

Расіец канчае прамову...

Дружнае „ура“ зьліваецца з ня менш дружным:

... „Гох!..“

. . . . . . . . . .

На пеньчык ускаквае нейкая знаёмая блакітна-шэрая постаць.

— Ага,—Шміт!..

Нямецкія салдаты пачынаюць хваляваццa.

Шміт адным рухам далоні заспакойвае іх.

... Цішыня...

* * *

— Таварышы!

Спакойна пачынае Шміт сваю прамову.

— Так. Гэта праўда.

На сьвеце пануе імпэрыялістычная буржуазія. На сьвеце пануе капітал. І пакуль ён пануе—няма на сьвеце праўды.

Няма, і быць ня можа.

Мы, сьвядомыя пралетарыі ўсяго сьвету, мы даўно ўжо вядзем змаганьне з капіталам.

Вядзем, і будзем вясьці, аж пакуль ня зьнішчым яго, ня зьнішчым дазвэньня тае крыўды, што пануе зараз скрозь і ўсюды, пакуль не перабудуем усяго сьвету на новым, на справядлівым грунце,—пакуль не пабудуем сацыялістычнага ладу, пры якім усе будуць роўна працаваць, і роўна карыстацца плёнам свае працы, пры якім немагчымымі зробяцца такія жахлівыя здарэньні, як вайна...

. . . . . . . . . . .

* * *

Жоўта-шэрыя—стаяць і слухаюць.

Уважліва—напружана.

Цяпер,—яны ўслушваюцца, прагна ловяць паасобныя гукі, паасобныя агульназразумелыя інтэрнацыянальныя словы.

Яны не разумеюць Шмітавых слоў, не,—яны адчуваюць іх праўду.

І калі голас яго пазбаўляецца звычайнае свае спакойнасьці, калі ён мацнее, і набывае выразна-ўзрушаны характар, калі Шміт канчае сваю прамову, робіцца зусім яскрава відаць, што словы яго ўсе да

аднаго—незразумелыя, але адчутныя, дашлі туды,—у самае нутро шэрае масы.

. . . . . . . . . . . . .

Шміт канчае прамову.

„Мір хатам,—вайна палацам“—прагалашае ён, голасам поўным сілы і праканаласьці.

І натаўп—

раве, гудзе, стогне ў дружным крыку:

— Урра!.. — Гооох!..

— Гоох!.. — Урра!

— Урра!.. — Гоох!..

. . . . . . . . . . . . .

Мітынг канчаецца пад спакойныя, але магутныя і ўсё захапляючыя гукі.

...„Паўстань,пракляцьцем катаваны,
паўстань, хто з голаду век пух!..
Бурліць наш розум ўзбунтаваны,—
няволі кліча рваць ланцуг...
. . . . . . . .

Раптам—ззаду,—з нямецкага боку нешта загуло, засьвісьтала...

Натаўп—застыў.

... балючая няўцямнасьць на тварах...

Нехта крычыць:

— Знарад!

... Сухі трэск...

... Слуп дыму і агню...

... Трэскі, гальлё, каменьні, зямля...

. . . . . . . . .

— Уцякай!.. Нямецкая артылерыя!..

. . . . . . . . .

Альфрэд Кляйн асалапелы, кінуўся наўцёк.

Па дарозе—спаткнуўся аб нейкі блакітна-шэры труп. Упаў. Падняўся. Зноў пабег.

* * *

Праз дзьве гадзіны загад:

— 398 полк адвесьці за другую лінію, і чакаць распараджэньняў...

А яшчэ праз дзьве гадзіны—Альфрэд Кляйн разам з таварышамі пакідае акопы...

* * *

— Еган, ці чуў, гатуецца загад... полк расфарміроўваць будуць...

— Сьледзтва ўчыняюць...

— Што-ж,—чым горш, тым лепш...

— Гэй, Макс, ты адкуль?

— Са штабу...

— Ну, што?..

— Шміта арыштавалі...

* * *

Раньне.

Апошняе раньне Шміта.

. . . . . .

Аб прысудзе знаюць усе.
Ходзяць хмурыя, панурыя.

. . . . . . . .

Альфрэд—сам ня свой...
Ён таксама ведае: Прысудзілі...
... „За што?.. За прамову?.. За праўду?..
... Каб ня Шміт—я-б сам... сказаў... можа інакш... але тое-ж самае“...

* * *

З ляску, ля штабу, басіць цяжкі залп...
Альфрэд моцна сьціскае кулакі...
Салдаты застылі ў жаху і асалапеньні...

. . . . . . . .

— Гатова!—прагалашае нехта.
— Гэта-ж яны яго...

. . . . . . . .

— Яго!—праносіцца ў мазгох Альфрэда..
— Гаўптман фон-Орфайген!.. Гэта вам так дарма ня пройдзе!..

* * *

Ля штабу, салдаты—вюртэмбэрцы рыдлёўкамі рэжуць зямлю.
Яміну капаюць глыбокую...
Выкапалі...
Палажылі загарнутае ў белае прасьціралдла цела таварыша...
Закідваюць зямлёю...
Рушацца, мерна стукаюць рыдлёўкі.
Крыж паставілі. Замацавалі...
Крыж—невялічкі, бяз жадных надпісаў.
... Працуюць салдаты...
... Твары ўрачыстыя, халодна-застыглыя ..
... Працуюць... Маўчаць...

* * *

Гаўптман Орфайген ідзе дахаты...
Гаўптман Орфайген—зусім спакойны.
Ён выканаў свой абавязак—абавязак старшыні вайскова-палёвага суду
І не адчувае, як над галавою яго зьбіраецца хмара...

. . . . . . . . . . .

Перад хатаю—яго сустракае слуга.
— Пане гаўптман,—нейкі салдат вас чакае...
— Што? Салдат?.. Хай заходзіць...

. . . . . . . . . . .

Альфрэд Кляйн—стаіць і чакае.
Ён поўны рашучасьці.
Няхай потым судзяць!.. Няхай расстрэл!..
Ён зробіць тое, што задумаў,—чаго-б гэта яму не каштавала...
Альфрэд уваходзіць у пакой гаўптмана.
Орфайген сядзіць у крэсьле. Схіліўся перад пісальным сталом.

. . . . . . . . . . .

Кляйн застыў у дзьвярах...

... Вось, зараз...
... Зараз...
... Выхаплю з кішэні і...

. . . . . . . . . . . . . . .

Альфрэд Кляйн азірае пакоі...
Раптам...
хістаецца...
... За крэслам—сьцяна прапала некуды, згінула, зьнікла, а заместа яе—пляц, такі знаёмы,—і бурлівы натаўп, бязладны...
... А ў перадзе зараз-жа, за крэслам... стаіць яна,—Грэтхэн, і працягвае да яго рукі...
... Фрэддзінька!..
Фрэддзі!..
Фрэээ!..

. . . . . . . . . . . . . . .

Альфрэд робіць некалькі крокаў наперад, хістаецца, ледзьве ня падае...
— Кляйн, што з вамі?

. . . . . . . . . . . . . . .

... Зьнік пляц, зьнік натаўп, зьнікла яна...
Ля Альфрэда стаіць гаўптман Орфайген.
Падтрымлівае пад руку. Спачувальна ўзіраецца ў твар...
Што з вамі?
— Нічога... пане... гаўптман... нездароў... выбачайце... ліст атрымаў...
— І прышоў прасіць водпуск?
— Добра!
На два тыдні можна. Я загадаю, каб на заўтра ўсе паперы былі гатовы...

* *

Мерна стукаюць колы цягніка...
Мільгацяць чужыя назвы станцый...
... Слёнім... Волькавіск... Біялішток...
А далей—чаргою праносяцца свае—такія родныя:—Просткен, Торн, Шнайдэмюле, Франкфурт-ам-Одэр...
І нарэшце—
„Бэрлін-Ост“; „Бэрлін Фрыдрыхштрасэ“ „Бэрлін-Вэст“ „Бэрлін-Шпандаў“...

. . . . . . . . . . . . . . .

Моабіцкая вуліца...
Усё, як даўней: вось і дом той—шасьціпавярховы...
— Угору!..
... Вось і трэці паверх... Званок...
... Дзьверы рашчыняюцца...
... Што гэта?.. Чужыя твары... Можа госьці?..
— Я да цётачкі Элізабэт!
— Яна тут больш ня жыве... З панадворку, мансарда, калі ласка...
Дзьверы зачыняюцца...

. . . . . . . . . . . . . . .

Панадворак... Цёмныя ўсходцы... 6 паверх...
... Яшчэ ўсходцы... ага! пэўна тут!..

. . . . . . . . . . . . . . .

Званка няма. Стукат.

— Увайдзеце! — адказвае нечы чужы, незнаёмы голас.

Альфрэд уваходзіць.

Бедны пакой. Жадных мэбляў (апошняе, відаць, прададзена). На падлозе — у кутку салома. На ёй — жанчына, гадоў 35, — змарнелая, худая. Відавочне — хворая. Корміць дзяцёнечка цыцкаю. У другім кутку — яшчэ адно малое, — крываногая нейкая дзяўчынка гадоў 4 ці 5.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ці-ж тут жыве цётачка Элізабэт?

— А вы што, ня сын яе будзеце?

— Не!..

— Ага!.. Цётка Элізабэт — з год ужо, як памёрла.

— А Грэтхэн?

— Грэтхэн?

Хворая дапытліва ўзіраецца ў Альфрэдаў твар, — нібы сіліцца аб нечым даведацца, нешта прачытаць.

— Грэтхэн?.. Як-бы гэта сказаць?.. Ня ведаю добра... Як паміраЛа цётачка Элізабэт... ня было тут ужо яе... ня жыла яна тут...

## РАЗЬДЗЕЛ VIII

## Мір, ці вайна?

* * *

А ў паўночнай сталіцы зноў страляніна...
Зноў мільённыя масы варушацца па бруках...
Зноў — мітынгі, страляніна, страляніна, сьпевы.
„Мір хатам, — вайна палацам!..“

. . . . . . . . . . . . . . . . .

На пляцу, перад Зімовым палацам, мітусяцца недалужна бязвусыя твары юнкераў, зялёныя студэнцкія картузы, афіцэрскія папахі, гімназіцкія блакітныя шынэлі, — і
гордасьць Керанскага — жаночы батальён...
А на Няве — крэйсар „Аўрора“ б'е з гармат па палацу...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Недалужна мітусіцца перад скананьнем „часовы ўрад“...
... Часовы!..

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Тлумна, бязладна, гудзіць зьезд...
Рэзалюцыя: —
„Уся ўлада саветам!..“

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Народ ужо сказаў сваё слова...
А гарматы — яшчэ гавораць:
— „Мір хатам, — вайна палацам“...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

У залю паседжаньняў урываецца ўзброены атрад.
Сьціплы, плячысты матрос:
... Абвяшчаю паседжаньне зачыненым, а сяброў гэтак званага „часовага ўраду“ — арыштаванымі...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Масква.

Вечар. На вуліцы—склізка. Холад і туман.

Мурашнікам кіпіць Аляксандраўская вайсковая школа.

Сход афіцэраў гарнізону.

У прэзыдыуме—камандуючы войскамі акругі палкоўнік Рабцаў, гарадзкі галава—эсэр Мінор, сябры Камітэту грамадзкага ратунку...

... Прамовы... Прамовы... Прамовы...

Пастанова:

„Не разыходзіцца.

„Арганізавацца.

„Абараняць—

кагоʔ

— Бацькаўшчыну і рэвалюцыю".

. . . . . . . . . . . .

Некалькі гадзін.

Толькі некалькі гадзін напружанае арганізацыйнае працы.

Выстаўлены дазоры, патрулі, пікеты.

Заняты галоўныя стратэгічныя пункты.

Апанаваны найважнейшыя вуліцы, галоўнейшыя будынкі.

Крэмль абкружаны і ўзяты,

. . . . . . . . . . . .

Зноў загаварылі гарматы.

. . . . . . . . . . . .

Сем дзён ідзе страляніна.

Сем дзён ідзе змаганьне.

Напружанае, упартае.

. . . . . . . . . . . .

Падае першы сьнег,—падае белы, і ўраз чырванее ўсходамі крыві.

Масква—сэрца зямлі расійскае канае. Масква чырванее. З крыві, з голаду, з агню—родзіцца новая Масква,—сэрца сусьветнае Рэволюцыі.

Нікнуць трохкалёрныя сьцягі,—нікне на іх сінь і бель,—нікне, сьціраецца расплываецца, чырвань,—усе сьцягі скрозь чырванеюць...

Нікне золата пагонаў на плячох, нязьлічаныя вырастуць чырвоныя істужкі на рукавох, чырвоныя банты на грудзёх.

... Масква чырванее...

. . . . . . . . . . . .

Вечарам—у Аляксандраўскай вайсковай школе прапета апошні раз:

„Божа, цара барані"—

а поўдні—чырвона-гвардзейцы ў пабітых мурах старога будынку пяюць новую песьню:

„— У панства свабоды народаў—
грудзьмі пралажым мы шлях!.."

. . . . . . . . . . . .

* * *

— Бэрлінэр Тагэблят!

— Бэрлінэр Тагэблят!

— Бэрлінэр Тагэблят!

— Перамога бальшавікоў у Расіі.

—Новы ўрад выдаў маніфэст аб замірэньні!..

. . . . . . . . . . . .

* * *

Вечар. Дожджычак дробны. Туман.

Змрокла сьвецяць вулічныя ліхтары.

Блішчыць асфальт. Голадна. Сумна...

Альфрэд ідзе па вуліцы, нібы п'яны.

Думкі тлумна блытаюцца ў галаве.

Думкі блытаюцца, мяшаюцца, наскакваюць адна на другую. У галаве—ці то вінэгрэт, ці то яешня нейкая. Ясна толькі адно:

— Няма... Няма яе... Няма...

. . . . . . . . . . . . . .

— Бальшавіцкі ўрад у Расіі!..

— Дэкрэт аб замірэньні!..

— Бэрлінэр Тагэблят!..

— Дэкрэт аб замірэньні!..

. . . . . . . . . . . . . .

... „Бальшавікі,—што гэта?.. А!—той, хто выступаў тады,—перад Шмітам—той быў бальшавік... Шміт гаварыў пра іх: „нашы"... Бальшавікі... замірэньне.— Ат!.. усе яны гавораць добра, пакуль улады ў свае рукі ня возьмуць... А тады—старыя песьні:—абарона...

... „Няма яе... Няма...

... „Вось, ідзі, абараняй, а што? Каго?"..

. . . . . . . . . . . . . .

... Сіверным сьвістам пралятае аўтамабіль...

Нехта. Удвох. Дзяўчына нейкая кіруе.

Хто?

— Усё роўна... Абы канец...

... Бальшавікі...

І зноў:

Скрозь туман—скрозь мрачную вуліцу—гучыць ціхі, поўны жаху голас:

— Фрэддзінька!..

— Фрэддзі!..

— Фрэээ!..

— К чорту, крахмалёны гэты, прылізаны Бэрлін!.. Няма чаго тут рабіць... Хай хто хоча—варыцца тут ва ўласным саку... На фронт!.. На фронт!.. Да д'ябла на рогі!..

* * *

Зноў грукоча цягнік.

Зноў шэраг знаёмых станцый. Толькі ў адваротным парадку. Вось Маркграбова. Вось Сувалкі. У Горадні—перасадка. Цягнік пойдзе толькі вечарам...

Мураўёўская вуліца, рог Саборнае... На рагу дом. Высокая камяніца. На мурох—нейкая паперка. На чатырох мовах: панямецку, папольску, пабеларуску і пагабрэйску. Альфрэд затрымліваецца і чытае.

* * *

„Загад №...

§ 1...

§ 2...

§ 3... Кожны цывільны, сустрэўшы на вуліцы нямецкага афіцэра павінен: 1) скінуць з галавы капялюш, 2) сказаць:

у раньні—гутэн морган,

у дзень—гутэн таг,

увечары — гутэн абэнд.
За невыкананьне—арышт у працягу...
... дзён...
Камэндант гораду фон-Тыльзэнаў, палкоўнік.
Альфрэд Кляйн—адварочваецца і плюе:
— Чорт! І тут—грымасы вайны!..
... Твар вайны... Твар... культуры...
... Нямецкая культура... Наша культура...
... Вось за што ваюем!

. . . . . . . . . . . . . . .

Альфрэд Кляйн сплюнуў яшчэ раз, павярнуўся на абсацах, і шпаркім крокам пашоў назад на станцыю...

* * *

... Газэты...
... Скрозь—газэты, усюды газэты...
... Бэрлінэр Тагэблят. Зрэдка—Форвэртс...
— Ага! Мірныя перамовы ў Берасьце...
— З Украінскай радаю мір падпісаны...
— Добра! Хутка хлеб будзе...
— Што? Расійцы адмаўляюцца падпісаць згоду?.. І разам з тым—армію дэмабілізуюць... Дзівакі!..
— Сам ты дзівак, не разумееш...
— Самавызначэньне... Гофман... анэксіі... грабежніцтва...
— Цікава!..
— Расійская дэлегацыя выехала з Берасьця...

* * *

— Кляйн, ты чуў?..
— Што?..
— Выступаем...
— Куды?..
— Наступ...
... Куды?.. Які?..

. . . . . . . . . . . . . . .

... Ці-ж не дэмабілізуюцца расійцы?
... Ці-ж не прагаласілі яны канца вайне?

. . . . . . . . . . . . . . .

* * *

... Зноў ашалелі гарматы...
Зноў тарахцяць кулямёты...
Альфрэд Кляйн і Адольф Леман у выведцы...
Раптам—стрэл.
... Гудзеньне... Выбух...
Адкуль?
Хто яго разьбярэ!..

. . . . . . . . . . . . . . .

Леман ляжыць на волкім вясновым сьнягу.
Сьнег ня белы, брудна-шэры, а каля раненага—брудна-чырвоны...
— Адольф, братка, што з табою?—Альфрэд прыглядаецца да таварыша. „Што гэта каля яго?.. Чырвона-шэрае... Ага!.. Рана ў жывот... асколкам... кішкі...

... У паветры нейкі нявыразны смурод...

Адольф!

Ціхі стогн.

Альфрэд дастае пляшку гарэлкі, падносіць да вуснаў таварыша:

Адольф, пі, братка, пі!..

. . . . . . . . . . . . . . .

Стогн. У цяжкім напружаньні крыху падиялася галава.

— Фрэддзі!..

— Фрэддзінька!..

Зрабі ласку...

— Застралі!.. мяне!..

Альфрэд стаіць, асалапелы.

Апусьціў рукі. Вочы неяк застылі.

— Фрэддзі!..

— Застралі... мяне!..

— Забі!..

Альфрэд салапее,—погляд, нібы звар'яцелы, коўзаецца па ляжачаму таварышу, потым у бок, кудысьці ў права—назад,—і з усіх ног Альфрэд Кляйн пачынае бегчы—

у бок „сваіх“...

* *
*

— Браткі... Хутчэй... Санітараў... Насілкі...

— Куды,—што ты?..

— Звар'яцеў?..

— Кіньце... хутчэй... санітараў... там...

. . . . . . . . . . . . . . .

Скончыўся выпадковы перапынак,—гарматы зноў запляваліся вогненым дажджом, абсыпаюць вучастак між акопаў...

Прайсьці „туды“ немагчыма...

. . . . . . . . . . . . . . .

Вечар.

Адольф Кляйн сядзіць у акопе гарматы гохкаюць, рыюць абшары Высунуць нос—немагчыма... Кляйн сядзіць і думае сваю думу...

. . . . . . . . . . . . . . .

— Рыхтуйцеся, хлопцы, у раньні ў наступ...

— „Наступ“ чорт яго,—наступ...

І раптам—сярод гарматнага грукату—

Альфрэд Кляйн чуе выразны енк:

— Ён!..

Альфрэд пачынае пільна ўслухвацца...

Нічога. Толькі шалёны скрогат артылерыі.

А ў начы—у бліндажы,—зморaны

Альфрэд сьпіць моцна, часта толькі прачынаецца. У сьне будзіць яго нейкі слабы голас:

— „Фрэддзі!... Фрэддзінька!.. Застралі мяне!..

Забі!..“

* *
*

У раньні—ідуць у атаку. На каго? Расійскія акопы пустыя. Займаюць.

Ідуць далей. Вось яны:—чыгункі, шашы, шляхі, прасёлкі, пралескі, грэблі... Вось яна,—Беларусь,—край лясоў і балот...

І ўсюды —
пакінутыя двуколкі, паходныя кухні, знарадныя скрыні, гарматы...

Дзе „вораг“? —

— Ня відаць?..

* * *

Вось і Менск. У ім — нейкія беларусы, палякі... Беларусы — аддаюць зброю. Палякі адходзяць кудысьці на ўсход... Жалезнаю хадою, бадай ня сустракаючы перашкод — ідуць немцы далей і далей. Вось Барысаў, Бярэзіна... Вось Дняпро, Ворша...

Стоп!..

Расійцы згадзіліся падпісаць берасьцейскую згоду...

* * *

Блакітнай істужкаю цягнецца Дняпро...

... Мяжа...

... Згода цяпер...

... Згода?..

А газэты — у іх працяг...

„Пад Вэрдэнам бойкі ідуць сваёю чаргою...

„Мы пасунуліся на 50 мэтраў далей, наперад...

„ На Украіне звольнены ад бальшавікоў Кіеў і Палтава...

А згода?..

Гаўптман Орфайген у панскіх пакоях.

Ля ганку — варта.

Адзін з вартаўнічых — Альфрэд Кляйн...

Да пакояў пад'яжджае хурманка.

Выходзіць нейкі цывільны: ладны гарнітур. Крахмалёвая манішка. Гальштук...

Панямецку:

— Хто тут у вас старшы?..

— Пане гаўптман, вас пытаюцца...

— Дазвольце пазнаёміцца: — уласьнік гэтага маёнтку, — князь Рудзінскі...

— Вельмі прыемна. Вельмі... Гаўптман фон-Орфайген.

* * *

Тры дні з панска-афіцэрскага стала ня зыходзяць бутэлькі.

Банкет — як мае быць.

Чацьвёрты дзень. „Войт“ рассылае „старостам“ паперкі.

У вёсках-сходы.

Чытаюць:

... Прыказываю зьвярнуць усё, што толькі хто забраў...

... Адказваюць як паасобныя грамадзяне, гэтак і цэлыя вясковыя грамады...

* * *

Тры дні, глядзіць Альфрэд — з усіх суседніх вёсак ідуць хурманкі.

Тры дні вязецца панскае барахло.

Чатвёрты дзень — хурманак менш.

Пяты дзень — адна хурманка.

Шосты — хурманак зусім няма.

. . . . . . . . . . . .

— Ну, што, пане князь, вярнула вам гэтае быдла ўсё, ці ня ўсё?

— Коні не хапае—штук 15; кароў штук 20; ды дробязі плугі, бароны, гадзіньнік насьценны...

* * *

Новы загад: тое, тое і тое—вярнуць. Тэрмін—48 гадзін.

. . . . . . . . . . . . . . .

Прашлі два дні. Трэці дзень. Новы загад:

... Вёска такая і такая,—кантрыбуцыі столькі і столькі. Грашмі і каровамі. Тэрмін—24 гадзіны.

. . . . . . . . . . . . . . .

Павольным, паважным крокам ідуць па шляхох, па шашох, па прасёлках і па пралесках салдаты 398 палка ляндштурмістых...

Ідуць зьбіраць контрыбуцыю...

Вёска. Сялянская хата. „Сам“ гаўптман фон-Орфайген:

— Эй, „пане“,—плаці грошы!

— Даражэнькі паночку,—родненькі, няма!

— Плаці, а то каня адбярэм!

— Паночку, каханенькі, любы ты мой...

— Ну, што плаціш?.. Не?.. Гэй, Кляйн,—чаго рот разявіў?—Ідзі ў стайню,—вядзі каня!

— Слухаю, пане гаўптман!..

Альфрэд—слухае.

Альфрэд—ідзе,—вядзе.

Толькі ў вачох Альфрэдавых—

нейкі зусім новы, асаблівы агоньчык...

Альфрэд—вядзе каня. А ў галаве—нявыразны ўспамін:

Францыя. Вёска Труа-Клю. Ліст. І сказ:

... „Прычапіліся да таты, каб даў сала“...

... Раптам,—у тым канцы вёскі—

адзінокі стрэл.

Потым—другі.

Трэці...

І крык:—„Ратуйцеся“!..

Некалькі бягучых шэра-блакітных постацяй.

Стрэлы робяцца часьцейшымі...

Альфрэд Кляйн кідае каня.

Бяжыць разам з усімі.

Жыта—высокае, высокае... А далей—лес...

* * *

Праз дзьве гадзіны абкружаная кулямётамі вёска была зьнішчана артылерыйскім агнём.

Жыхары—усе загінулі.

Нікому ня далі ўцячы.

* * *

Альфрэд ня спаў цэлую ноч.

Курыў і думаў:

— „Згода?.. Дзе-ж яна?.. Ці-ж гэта згода?..

... Тое—была вайна. Казалі „бацькаўшчыну абараняем“... А цяпер?.. Гэта—згода?.. Гэта таксама вайна... Але з кім?.. За што?..

... Трэба мір. Які?—Абы які... Не такі толькі... толькі не такі...

І разам—

прыпомніў Альфрэд апошнія Шмітавы словы:

— „Мір хатам, вайна палацам“!..

## РАЗЬДЗЕЛ IX

### Дахаты!..

* *

Полк Альфрэда адведзены ў глыбокі тыл.
Недзе, пад Бабруйскам, стаіць ён сярод балот і лясоў.
Альфрэд атрымаў новае назначэньне
Ён—хурман пана гаўптмана...
Добра
Куды спакойней як...

* * *

Некалькі дзён ня было газэт.
І раптам—
— Альфрэд, ці чуў?
— ?—
— Пэтэр, чытай!
Чытай хутчэй!
— Дзе?
— Што?
— Слухайце, слухайце:
... Паўстаньне ў Баўгарыі...
... Паўстаньне ў Турэччыне...
... Паўстаньне ў Аўстрыі...
... Паўстаньне ў Вільгэльмсгафэне...
... Паўстаньне ў Бэрліне...
— Чытай, чытай...
... Зрачэньне кайзэра...
... Урад прынца Макса Бадэнскага...
... Дванаццаць пунктаў Вільсона прыняты...
... Кайзэр у Галяндыі...
... Замірэньне на Захадзе...

* * *

— Смірррна!—
-- Па мясцох!..
— Прыказ камандуючага 10-ай Арміяй,
Яго эксэленцыі, генэрала фон-Фалькэнгайна...
... „Абвяшчаецца: ...Любы наш кайзэр... цяжкія ўмовы... змушаны быў зрачыся... згодна з распараджэньнямі...
... Загадваю: арганізаваць салдацкія рады...
фон-Фалькэнгайн“...

. . . . . . . . . . . . . .

Асалапелі.
Усе чыста.
— Сьміррна!
— Загад выканаць нябаўна-ж:
Прапаную: у салдацкую раду абраць наступных: 1)... 2)... 3)... 4)... 5)... 6)... 7)...
— Супярэчак няма?—Няма. Прыймаецца.

. . . . . . . . . . . . . .

Гаўптман Орфайген выканаў свае службовыя абавязкі. Ён выходзіць з казармы. Ідзе да хаты. Асалапелыя сябры „салдацкае рады“ няўцямна глядзяць яму ўсьлед.

---

* * *

— Кляйн!
— Я, пане гаўптман!
— Закладай брычку, едзем да камандзіра дывізыі!
— Слухаю, пане гаўптман!

. . . . . . . . . . . . . . .

Рэжуць палозьзі сьнег. Гудуць бомы... Сьнег, сьнег, сьнег... Усё навокал—белае,—дарога—лес... Ціха навокал... Толькі вецер сьвішча плаксіва...

Раптам—
Недзе далёка—
Стрэл...

— Кляйн,—ты чуў?
— Чуў, пане гаўптман...
— Відаць зноў браканьерства...
— Відаць, пане гаўптман...
— Гэтыя сяляне—ахвотнікі да паляваньньня, хаця-б дазволу ня мелі.

Орфайген замаўчаў.

— Кляйн, стой,—трымай коні!
— Тпррру! Тпррру!.. Слухаю, пане гаўптман.

За дрэвамі дзьве сялянскія постаці.

— Гэй, пане!—Пане!—Хадзі сюды!

Сяляне не разумеюць яго гутаркі, але яны разумеюць: гэта іх кліча нямецкі афіцэр... Падыходзяць.

* * *

— Дзе вы стрэльбы падзелі?
Маўчаньне.
— Гэй Кляйн, ты з Усходніх Прусаў,—папрабуй папольску.
— Стрэльбы, дзе схаваў,—разумееш?

Давай стрэльбы...

— Паночку, дальбожачкі,—адны сякеры,—гальля хацелі нарубаць, у печку палажыць няма нічога,—выбача...

Орфайген:

— Стрэльбы, трасца тваёй мацеры...
— Няма, паночку, ей-ей, няма...

Гаўптман Орфайген ня любіць, калі хто з ім жартуе. Рука ў гаўптмана Орфайгена моцная.

— Крак...

І селянін ляціць у сьнег... Двох зубоў—мэрам тая карова языком зьлізала...

Другі селянін стаў на калені і просіць, каб яму даравалі. Зноў мільгаціць гаўптманаўская рука. Селянін хістаецца, інстынктыўна неяк хапаецца за гаўптманаву руку, але траціць грунт пад нагамі,—і абодвы ляцяць у канаву.

. . . . . . . . . . . . . . .

Альфрэд Кляйн зьлез з хурманкі і моўчкі наглядае. Зубы моцна сьціснуты.—У руках—вінтоўка.

Гаўптман падымаецца першы і выхоплівае парабэльлюм.

Блішчыць у паветры черная сталь...

Стрэл...

Але нейкі нязвычайны,—падвойны...

Альфрэд Кляйн, стаіць са стрэльбаю ў руцэ.

Яго абгортвае ледзьве прыкметны шызы—дымок.

З-за хмары выплывае маладзік, і асьвятляе пралесак.

На дарозе—два мерцьвякі,—адзін у шэра-блакітным,—другі ў звычайнай сялянскай вопратцы...

А над ім—схіліўся нейкі стары...

Схіліўся і ціха плача.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Альфрэд Кляйн моўчкі садзіцца ў хурманку і гучна—цукае коняй пугаю.

... Плыве маладзік, лье сваё срэбра на сьнежную бель зямлі...

... Плыве маладзік павольна, паважна...

... Плыве маладзік, плыве час, плывуць гадзіны, плыве ноч, зьнікае маладзік, і вызваленая ад пут цемры зямля ўсходнім сваім краем урачыста апускаецца перад чырвона-барвістым ранішнім сонцам...

* * *

Ідзе час, ідуць ночы, ідуць дні, тыдні, месяцы...

А на заходзе—па чыгунках, па шашох, па шляхох ідуць цягнікі, аўтамабілі, людзі і хурманкі.

Людзі, хурманкі,—ідуць з заходу на ўсход.

Аўтамабілі, гарматы, цягнікі—ідуць з усходу на заход.

Ідуць і не вяртаюцца...

Вайна—вар'яцтва і згода,—часам, вар'яцтва!

Вайна—бязглуздзіца і згода,—часам, бязглуздзіца!

Вайна—рабунак, і згода, часам, рабунак.

З усходу на заход ідуць аўтамабілі, гарматы, цягнікі. Нямеччына аддае хаўрусьнікам—мільёны вінтовак, сотні тысяч кулямётаў, тысячы гармат, дзесяткі тысяч аўтамабіляў, вагонаў, паравікоў...

А людзі, галодныя, абадраныя,—ідуць па шашох, па шляхох, па прасёлках і пралесках,—яны ідуць з заходу на ўсход, насустрэч, яны глядзяць на рабаваньне, але ім усё роўна...

І апанавала адно імкненьне,—адна думка, якая чатыры гады сьвідравала ім мозаг, чатыры гады распаляла нутро, чатыры гады стаяла поперак горла:

— Дахаты!

— Дахаты!

— Дахаты

* * *

На ўсходзе—спакойна.

398 полк ляндштурмістых стаіць у павятовым горадзе.

Вартуе шляхі адступленьня для таварышоў—нямецкіх салдат з Украіны...

. . . . . . . . . . . . . . . .

У сталіцы,—у малой, глухой правінцыяльнай сталіцы,—сталіцы неіснаваўшае перад тым рэспублікі заквартыраваў штаб дзесятае арміі—А. О. К. 10.

Менск... Менск... Менск...

З таго часу, як ашалела чалавецтва, з таго часу, як купка вар'ятаў, якая кіравала сусьветам, кінулася без галавы, сторчма ў бяздоньне,—шмат чаго бачыў ён, гэты многапакутны Менск...

Вялікае, але глухое, гнілое губарнатарска-архірэйскае места, з часоў Рагвaложых Менскам званае...

Пачалася вайна,—ажыло яно, ажыло і стала расьці нейкім асаблівым, хваравітым ростам...

Панаехалі войскі, штабы, шпіталі, генэралы, какоткі, прастытуткі, гандляры, і ўсялякае груганьнё...

Потым прышла рэвалюцыя, прышлі мітынгі, газэты, адозвы, праклямацыі, чырвоныя банты і сьцягі.

Паліўся і затапіў усё слоўны паток...

Потым—прышлі „яны“—людзі справы, з сталёвымі нэрвамі і загартаванаю воляю...

Прышлі,—і зараз-жа пачаліся ўцёкі губэрнатараў, архірэяў, абшарнікаў, спэкулянтаў...

Беглі ўсе, каму ня было чаго чакаць ад новага ладу, беглі былыя людзі, жывыя яшчэ мерцьвякі,—нябошчыкі, з мінуўшчынаю, але бяз будучыні, адкіды новае грамады, хаўтурным звонам для іх адгучэлі гарматныя стрэлы з „Аўроры“ і з Вараб'ёвых гор...

* * *

І раптам—з заходу насунулася пагрозная сталёвая, чорная хмара, —чорная моц у картузох і ў касках з надпісам: „Mit gott,—für König und Vaterland“—„з богам,—за караля і бацькаўшчыну“...

Насунулася хмара, пачарнеў небасхіл, прагрымела навальніца,—і пашлі яны,—людзі справы са сталёвай волею і загартаванымі нэрвамі. Пашлі, каб лепш змагацца, пашлі, каб хутчэй прысьці назад...

А ў горадзе зноў зьявіліся біскупы, арцы-біскупы, ерэі і архірэі, фабрыканты і абшарнікі, фінансістыя і спэкулянты, генэралы і прастытуткі, міністры ў дужках і міністры бяз дужак... Менск, гнілы губэрнатарска-архірэйскі Менск зрабіўся сталіцаю „Беларускае Народнае Рэспублікі,“—рэспублікі, якая фактычна ніколі не існавала, рэспублікі без тэрыторыі,—сталіцаю, рэзідэнцыяй недалужнага ўраду, бязмоцнага нават у зале сваіх паседжаньняў...

* * *

Чысьценькі двохпавярховы будынак на пляцу Волі. А. О. К. 10,— „Армії обэр-камандаваньне 10“—штаб дзесятае арміі. Камандуючы арміяй—генэрал фон-Фалькенгайн...

Поўдзень. Працоўны габінэт камандуючага. Уваходзіць ад'ютант,— лейтэнант Андрэс.

— Да вашае эксэленцыі—пан міністр чужаземных спраў Беларусі...

— Хай пачакае... я—заняты.

— Слухаю!..

Праходзіць паўгадзіны.

Стары генэрал адкладае ў бок паперы... звоніць. Уваходзіць ад'ютант.

— Чакае?

Чакае,—ваша эксэленцыя!

— Дык прасеце.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Пане міністру,—я запэўняю вас зусім катэгарычна: наша войска ня выйдзе з абшараў вашае краіны аж да тае пары, пакуль вы не з'арганізуеце ўласнае арміі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Задавольнены міністр ідзе пехатою па Губэрнатарскай вуліцы і ўсьміхаецца:

— Як добра!

... А на хурманку—у яго гроша няма ў. Ён скручывае сабе нахаду цыгарку з махоркі. „Нічога... белы дом—ля сквэру... не далёка“...

* * *

398 полк ляндштурмістых стаіць у павятовым горадзе,—вартуе шляхі адступленьня для сваіх таварышоў—нямецкіх салдат, што вяртаюцца з Украіны.

А там—зёрст якіх з дзесятак на ўсход—тое дзіўнае панства,—панства бяз панства, бяз афіцэраў і генэралаў, без абшарнікаў і фабрыкантаў. Там—чырвоныя сьцягі і сьпеў Інтэрнацыяналу.

А тут—„цывільныя“ і „вайсковыя“, „салдаты“ і „афыцэры“, тут—камэндантура, контр-разьведка і „салдацкая рада“.

Там—імкненьне наперад. Тут—імкненьне назад,—думка—„Калі-ж дахаты?“..

Дахаты,—пэўне,—хутка.

Пан камэндант—рэквізуе ў сялян карову і тут-жа ж прадае яе спэкулянту,—грошы на дарогу патрэбны. Старшыня „салдацкае рады“—пасяліўся ў мешчаніна, зьняў у яго пакой з мэблямі, а цяпер—прадае мэблі, бадай не дарма,—грошы трэбы на дарогу дахаты. Салдат атрымаў новыя боты і дзьве зьмены бялізны, і прадае ўсё гэта на рынку,—на што боты, на што бялізна, калі хутка дахаты...

— Дахаты!.,

— Дахаты!..

— Дахаты!..

Гэтая думка—скрозь, усюды, ува ўсіх.

* * *

Камэндант,—„рытмайстар“ Зінкель звоніць па тэлефоне:

— Альлё... Проша Маладэчна!.. Альлё... Альлё... Гэта Маладэчна?,.. Так.—Дайце Менск...так Менск?.. Дайце—А. О. К. 10... так... Альлё... Гэта я, камэндант павятовага гораду... так... рытмайстар Зінкель... Лейтэнант Андрэс?.. Яго эксэленцыю можна?..так... Дзякую...

— ... Салдат утрымаць немагчыма...

Калі не адступім... хаця-ж бы крышку...

Толькі на паказ...—разьбягуцца ўсе...

Што?.. Трымацца?.. Слухаю, ваша эксэленцыя...

* * *

У павятовым горадзе, па казармах бегаюць нейкія шэрыя салдацкія постаці... Адозвы... Заўтра—сход... а дванаццатай гадзіне... „Прыходзьце, хлопцы, усе“...

Вось чорненькі Морыц... Бегае больш за ўсіх... Нешта ўзьнята гаворыць узрушанаму гуртку салдат...

У казарму ўваходзіць „сам“ рытмайстар... Усе ўсхапянуліся,—„маўчаць“...

Раньне. Альфрэд Кляйн—ня можа ісьці на сход. Ён атрымаў назначэньне вартаўнічым ля арэстнага памяшканьня...

Адзінаццатая... Пост Альфрэда Кляйна унутры каморкі з „асабліва-небясьпечнымі“. У Альфрэда у руках—стрэльба. А „асабліва небясьпечныя“—„бальшавікі“—сядзяць на нарах, насупіліся, кураць цыгаркі, вачмі ўтаропіліся ў падлогу. Альфрэд стаіць, стрэльба ў руках, унутры—абурэньне, узрушэньне, узьнятасьць, чаканьне, хваляваньне.

Дванаццатая. Узрушэньне дасягае апогэю. Альфрэд высоўвае праз дзьвер галаву ў калідор... Нікога...

— Чаго глядзіш?—пытаецца раптам па нямецку адзін з арыштаваных...

— Так... Нудна нешта...

. . . . . . . . . . .

А на пляцу—мітынг, сход, натаўп, гоман буйлівы, прамовы...
Ва ўсіх у галаве—думка.

— Дахаты!..

— Дахаты!..

— Дахаты!..

Узыходзіць на трыбуну „сам“рытмайстар Зінкель. Яму не даюць гаварыць:

— Далоў!.. Далоў!.. Далоў!..

... „Войскі з Украіны даўно ўжо прашлі, а мы ўсё яшчэ тут, нямаведама,—чаго пільнуем,—гаворыць нейкі вусаты.

... Хай прыходзяць тыя бальшавікі,—нас гэта не датыча,—дадае маленькі, чарнявенькі...

... — Таварышы! Наш абавязак—дапамагчы сусьветнаму пралетарыяту...—гаворыць высокі блакітнавокі салдат.

... — Мы хочам самавызначэньня нацый, а бальшавікі—супроціў гэтага,—сіліцца растлумачыць нехта з начальства...

— Ня наша справа!—гудзіць натаўп.

— Дахаты!..

— Дахаты!..

— Дахаты!..

* *

Сход скончыўся а трэцяй гадзіне.

Рэзалюцыя прынята, вядома „Дахаты!“..

Абрана новая салдацкая рада,—на чале высокі блакітнавокі і чорненькі Морыц. Афіцэры ўгаварваюць, мітусяцца, тэлефон нехта папсаваў—рытмайстар Зінкель са скуры лезе, звоніць,—Маладэчна—не адклікаецца, заўзятае...

Салдаты—мітусяцца,—пакуюць рэчы. Афіцэры—пакуюць таксама, прадаюць сваё і чужое. Чыгуначнікі рыхтуюць цягнікі. Станцыя поўная вайсковых. У паветры—гудзеньне:

— Дахаты!..

— Дахаты!..

— Дахаты!..

* * *

У астрозе мітусіцца начальства. Вартаўнічае памяшканьне пуста. Усе—разьбегліся. Рыхтуюцца ў дарогу. Міма каморы, дзе пост Альфрэда, прабягае сэржант Леман.

— Фрэддзі? Ты яшчэ тут?.. Кінь, зьбірайся, сёньня едзем усе дахаты...

— А арыштаваныя?..

Леман нічога не адказвае. Ён ужо далёка,—прабег праз увесь калідор і зьнік за дзьвярыма... Альфрэд у нерашучасьці. Прабягае рыжанькі Бэкер.

— Бэкер,—стой, куды ты?

— Адчапіся! Часу няма! Сёньні дахаты!..

Альфрэд стаіць асалапелы.

— Чаго стаіш? Ня бачыш—усе ўцякаюць, сёньня адступаеце, зьвяртаецца да Альфрэда арыштаваны.

Ат! Альфрэд ускідвае стрэльбу на плячо і ідзе па калідору...

— Хлопцы! Дахаты! — крычаць арыштаваныя, і зьбіраюць манаткі.
— Дахаты!
— Дахаты!
— Дахаты! —
нясецца з усіх бакоў буйлівы гоман.

. . . . . . . . . . . .

А восьмай гадзіне — апошні нямецкі эшалён адыходзіць ад станцыі. У павятовы горад — уваходзяць чырвоныя.

. . . . . . . . . . . .

---

## РАЗЬДЗЕЛ X

## Убачым яшчэ неба ў рубінах

* * *

Час ідзе ідуць дні, ідуць тыдні. Ідуць войскі, цягнікі, людзі — белыя, чырвоныя, зялёныя. Час ідзе, жалезнаю хадою рушыцца гісторыя.

* * *

Бэрлін.

Натаўп. Узрушэньне. Чырвоныя сьцягі. Буйлівы голас мас.

Ломамі сталёвымі падымаюцца асьфальтавыя брукі, грамадзяцца ў купы на крыжаваньнях вуліц. Сюды-ж, у купы, валяцца каменьні, кахлі панэляй, паламаныя слупы, сарваныя шыльды, цэглы, паламаныя хурманкі. Растуць барыкады.

На рагу Моабіцкае — рушыцца натаўп, — сьцягі, плякаты, сьпеў:

„Гэта бой наш астатні
за працоўны народ“ —

Раптам —
выскаківаюць з-за вугла „яны“ — гусары крывавага здрадніка Носкэ, і дымам абгорнутыя шчаціняцца стальлю багнэтаў барыкады...

* * *

На Францішканскай — таксама барыкада, а за ёю — чалавек дзесяць, — шэсьць рабочых і чатыры у вайсковай вопратцы.

Тут Альфрэд Кляйн.

Чорненькі Морыц — ляжыць і кіруе кулямётам.

Падбягае нейкі рабочы:

— Са штабу званілі — у што-б ня стала — трымайцеся...— падмогі няма... сіл мала... зойдуць у тыл нашым там...

Белыя нешта рыхтуюць. Занадта падозрана настаўшая цішыня.

... Бжжжж — гудзе аднекуль бжала-куля. Морыц са стогнам коціцца ў бок ад кулямёту. На зьмену падбягае нейкі кудлаты.

— Дрэнь справа, — прабраліся, відаць, у той дом, направа, — стрэл здаецца адтуль быў...

... Бжжжж — зноў гудзе куля. Адзін з рабочых кідае стрэльбу. Пачынае нібы лавіць рукамі паветра. Нарэшце — пахістаўшыся з момант падае ніц.

... Бжжжж... Бжжжж...

Яшчэ два.

— Ага, — гэта вось з таго вакна, налева!..

Альфрэд туліцца да ганку дому і ўскідвае стрэльбу. Цэліцца.

Бжжжжж...

Стрэльба валіцца з рук. У вачох—кругі нейкія рознакалёрныя. Альфрэд—валіцца ўсьлед за вінтоўкаю на ўсходы...

...Бжжжж..—Бжжжж..—Бжжжж..—

Нехта садзіць без абмылкі.

...Бжжжж... Бжжжж... Бжжжж...

. . . . . . . . . . . . . .

Па Францішканскай рушыцца атрад белых... „Спартакаўскі" кулямёт —маўчыць...

. . . . . . . . . . . . . .

У доме—ля барыкады, у вакне дзьве жанчыны:

— Глядзі,—едуць!

— А тут—усе мёртвыя...

— Не,—бач,—гэты, ля ганку—варушыцца...

— Заб'юць яго...

— Так, быў загад: усіх хто са зброяю—расстрэльваць на месцы...

— Бач, бач—едуць...

— Слухай,—трэба ратаваць... Схаваем яго...

— Праўда... хутчэй... Бяжым...

* * *

На ганку—рашчыняюцца дзьверы, і дзьве жанчыны ўцягваюць нейкае зьмярцьвелае цела.

Падымаюць. За ногі, за плечы. Усходцы. Кватэра.

— Ліза,—дзьверы ўнізе зачынены?

— Не!

— Бяжы хутчэй!..

Ліза зачыняе дзьверы і зноў бягом падымаецца па ўсходцах...

Кладуць раненага ў ложка.

— Цяпер распрануць, і абмыць. Грэта, бяры ножніцы, разрэзвай яму мундзір!..

Але Грэта—нібы ня чуе. Маўчыць, і пільна ўглядаецца ў зьмярцьвелы твар...

* * *

Маўчыць спартакаўскі кулямёт. Белыя пад'ехалі да барыкады. Камандзір,—барон фон-Вэск,—стары знаёмы,—саскаквае з каня. У руцэ парабэльлюм. „Спартакаўцы" ляжаць на зямельцы ў самых рознастайных позах. Адзін-варушыцца.

Вэск падымае руку. Цэліцца:

— У карак яму, падлюзе!..

Стрэл.

— Гатоў!.. А гэты?.. Варушыцца?.. І яго туды-ж!.. Так—больш пэўна.

. . . . . . . . . . . . .

Барон фон-Вэск ускаквае на каня.

Атрад едзе далей...

А сьледам—ідзе белая пяхота. Ідзе і сьпявае:

—Хадзі, дзяўчыначка!
Ня пляч дарэмна!..

* * *

Недзе грукоча артылерыя. З боку Шарлётэнбургу—кананада.

Мала засталося ўжо барыкад...

Нікнуць іх абаронцы...

Вось,—на Моабіцкай: валіцца з ног нейкі рабочы. Прабіты куляю. Задыхаецца. Падбягаюць таварышы. А ён:

— Браткі!.. Мы... пераможаны... Але... гэта яшчэ... не... астатні бой!..

І памірае...

* * *

У месьце, у цэнтры,—зноў плёскаюцца трохкалёрныя сьцягі. На ўскрайнах—страляніна цішэе. А тут—поўны спакой. Адчыніліся ўжо дзеякія рэстараны...

Вось—кафэ-рэстаран Гартмана.

Вялікая заля. Поўная афіцэраў. Тосты. Віншаваньні. Раптам—нехта пачынае:

Любы наш край!—,
спакойны будзь!..

Усе падхопліваюць:

„і моцна стой;
варта на Рэйне.

. . . . . . . . . . . .

Носкэ перамог паўстаньне Спартакаўцаў!..

. . . . . . . . . . . .

А на Моабіцкай—
вялікі шасьціпавярховы дом.

Памяшканьне—пад страхою,—там, дзе калісьці жыла Грэтхэн і нябошчыца, цётачка Элізабэт...

Хворая жанчына сядзіць на лаўцы і плача:

...—Забілі!.. Раненага забілі!.. Чуеце, сіроткі вы мае...

А дзеткі,—адзін меншы за другога,—таксама плачуць:

—Мамка!.. Хлеба... Дай хлеба!..

. . . . . . . . . . . .

Носкэ перамог паўстаньне Спартакаўцаў...

* * *

Час ідзе, ідуць дні, ідуць тыдні.

Па вуліцах—ідуць трамы, аўто, хурманкі, людзі,—рушыцца гаманлівы натаўп.

Барон Вэск—шпацыруе па Альлее Перамогі са сваёй новай каханкаю,—опэрнай сьпявачкай—фрэляйн Бэкер...

Грымяць шасьцёркі на фабрыцы А. Э. Г. Пад зямлёю—стукаюць па рэйках колы цягніку мэтраполітэну. На рагу Фрыдрыхштрасэ стаіць, рукі за сьпінаю, традыцыйны шуцман. Усё—як сьлед,— усё як калісьці...

А на Францішканскай—на трэцім паверсе—у пакоі—сядзіць у крэсьле нейкі хворы. Ля яго на падлозе—дзяўчына, гадаў 22—23. Сядзіць... Густа падведзеныя бровы, кармазынавыя губы... А па шчаках—такіх белых,—крынічаць сьлёзы...

— Так, Альфрэд... Я рашылася,—сёньня еду... Я хацела толькі-каб ты... усё ведаў...

Маўчаньне

Тупа ўтаропіліся вочы хворага ў другі бок...

— Дык бывай, Фрэддзі... Бывай,—не памінай ліхам...

Дзяўчына ўстае і рашуча ідзе да дзьвярэй:
Адчыняе,—і раптам—
крык,—
такі, крык, ад якога—кроў застывае ў жылах:
— Грэтхэн!..
— Грэтхэн!..
Гэта Альфрэд...

* * *

Вечар. Як дыямэнт,—тысячамі агнёў гуляе Бэрлін. Цёплы вясновы ветрык так ласкава казлыча твары...
На будынку Рэйхсбанку гарыць шматкалёрная рэкляма:

**Курыце толькі**

**ОКАСА—ЗАРОТО!**

Весела тупае тысячаногі натаўп.
Ёкаюць пугі хурманоў.
Гудуць сірэны аўтамабіляў...

. . . . . . . . .

На Францішканскай,—на трэцім паверсе, у пакойчыку, люба сьвеціць пад чырвоным каптуром электрычная настольная лямпка.

Альфрэд Кляйн—загорнуты ў коўдру, сядзіць у сваім крэсьле...

Ля яго, на падлозе—Грэтхэн. Галаву схіліла яму на калені, і так весела блішчаць і сьмяюцца—у працягу чатырох гадоў заплаканыя вочкі...

А ён—здаровую левую рукою лашчыць любыя белесаватыя валасы, і прыгаварвае:

— Нішто, любая... Што было,—тое ня вернецца... Мы з табою яшчэ ўбачым неба ў рубінах...

Менск—кастрычнік—1927 г.

---

**Янка Відук**

## Хто там марудзіць?

Эх,
ну і дні.
Як мала іх ў запасе.
Як мала дзён
ў запасе торбы плеч.
Ї ўсе яны
неаднальковай масьці—
па рознаму
ім сказана гарэць.
Жыцьцё ня нуль
і ня гульня ў шахматы—
тут трэба больш
мазгамі шавяліць.
Вунь сьцежачка
ад хаты
і да хаты,
а вунь вялікая
дарога ў даль бяжыць.
Бяжыць.
Зьвіваецца.
Грамыхаюць калёсы.
Клубком віецца пыл.
Стазвоны галасоў.
Лістамі жоўтымі
заплаканая восень
на зіму дыванам
па-засьцілае дол.
Зіма.
Вясна.
Вясна, зіма.
Ї лета.
Гады.
Гады.
Бягуць гады,
як шквал.
Праходзяць дні
шалёна,
строма гэтак,
бурлячыя,
як быў 9 вал.

Эх,
ну і дні.

Як мала іх ў запасе.
Як мала дзён
ў запасе торбы плеч.
Дык вось таму —
трэба, каб шлях быў
ясны.
Дык вось таму —
трэба ясьней гарэць!
Хто там пад нос
няўпэўнена мармыча?
Хто там падставіў
душу пад галяк
і сэрца
замахорыўшы ў пятах
закінуў
паніхідным колёрытам?
Каму там дні
зрабіліся
ў цяжар
і волавам
аблезьлі воч налівы?
Каму там
захацелася ляжаць
у гамаку
пад „водарам шчасьлівым?“.
Каму!?
Хто вылажыў
пралескі на прыпол
мадоньне з вобразаў
веньнетак Рафаэля?
Хто свае ласкі
высыпаў на дол
пакрыўджанага
завірухай
Леля?

Эй,
нізкія,
страсеце пыл вякоў
закінуўшых
у водары „акацый“.
Сягоньня нам
ня трэба праклямацый,
каб здаравей
чудачыць чудакоў.
Сягоньня вы
гатовы начаваць
стамлёныя
„под сению дубравы“.
А калі-ж будзеце
ўставаць
для неабходнай
пераправы?..
Жыцьцё ня нуль

і ня гульня ў шахматы —
тут трэба больш
мазгамі шавяліць.

Эй,
Хто там лёг
пад клёнам каля хаты,
страсаючы вачыма
цьвецень ліп?..

Стазвонны брук.
Грамыхаюць калёсы.
Пульсуюць нэрвы
тэлеграфных жыл.

І па кварталах
правады
загады точныя
разносяць...

Масква.
Палтава.
Менск.
Баку.

Сталіцы.
Вакругі.
Раёны.

Мільёны.
Тысячы мільёнаў
на вольты, ампэры —
такоў
будуюць Заўтраму
Пэроны.

Гудуць.
Шнуруюць.
Ткуць.
Сякуць.

Нясуць.
Ўстаўляюць.
Прыпускаюць.
Жалезныя ўганяюць палі.
Габлююць.
Точаць.
Заліваюць.

Будуюць—
дамбы падымаюць,
каб не заліў
маркі усьплёск.
Шрубуюць ўпоперак,

наўсьцяж —
не пакасіўся каб
касяк,
каб век
падвалін не падрэзаў —
Пасьля —
каб чалавек узьнёс
над гэтай
вежай
непераможны
Волі сьцяг!

Дык, хто там,
— Эй!
няўпэўнена марудзіць,
хто волавам
наплавіў воч налівы,
каб быць
прылізана-шчасьлівым
ў пуху
падушачных запрудзьдзяў?..
А творчых дзён
яшчэ ў запасе —
дужа
(як многа дзён
ў запасе торбы плеч).
І будзе час,
што мы
перабудуем
ня шостую,
а цэлы сьвет!

## Салют вуліцы

(з паэмы)

Іду па вуліцы
шлёпаючы
па гразішчы
сваімі вычышчанымі
як тратуар
ботамі.
Хлюпа.
Вецер узрывам сьвішча
па тэлеграфаў
пачарнелым дроту.
Удоўж
ці ўпоперк
праімчыць рамезьнік
з настаўленай
ад сьлёз хмар
будай.
Пад вадасьцёк з перапуду
курыца залезла.

Мокрыя
шwэндаюцца людзі.
Не зважаю
на міжнароднае становішча
смакаў,
прывык
да такой пагоды.
Боты—
самае простае маркі;
не баяцца:
ці ў гразь,
ці ў воду.
Залажыўшы
ў кішэні рукі,
шалыгаючы
заглядаю ў вітрыны;
паглядзець можна:
купіш ня купіш
астатні крык моды,
навіны.
Усё перасыпана
брыльлянтамі
удасканаленьня
з самай чыстай
парыскай пробай,
з самымі танчэйшымі
прысмакаў адценьнямі
пад электрыкі
вячэрні праблеск.

Імжыць.
Змрок.
Аблізаныя плачам
дажджавых
геніяльных натхненьняў
ходзяць людзі—
людзі клячы,
ходзяць людзі—
людзі-цені.
Афіша.
чытаю:

Усім,
усім
аматарам
мастацкіх віртуозных
навінак...
опэра...
музыка
славутага Таркваты
ашаламляючая
„Знак Зэрро“ —
кінофільма...

Афішу
цалуе
ліхтар сьлюнявы
хоча
агаласіць
радыё.

З-заду раптам:
„Паслухайце,
куды Вы?
Калі хочаце
пойдзем
разам.
Праўда,
сягоньня пагода
дрэнная...
Скажыце,
вы любіце восень?..
Я толькі што кончыла
Анну Карэніну...
Бадай ужо позна—
больш за 8?
Што Вы сягоньня
такі нейкі хмурны,
скажыце,
разьвесяліць Вас
можна?..
З цемнаты голас буркнуў:
„куррва“,
а за ім пракаціўся
рогат.
„Я сягоньня
ў кіно схадзіць думала
але...
і бяз нас там
хопіць...
А прызнайцеся—
Вы ня любіце шуму?
праўда—
куды лепш
адзінота...
Як Вы думаеце
любіць ці варта...
Я думаю:
лепей быць—
вольным.
Я—
на каханьне гляджу,
як на жарты...
А вось і кватэра...
зойдзем!?..

Хлюпа.
Вецер узрывам сьвішча
па тэлеграфаў
аблезлым дроту.
Іду
шлёпаючы па гразішчы
сваімі вычышчанымі
як тратуар
ботамі.
Гразь.
Бруд.
Прастытутак вуліцы.
кінофільмаў
афішак
твары.

Эй!
у парадку нагляду
забаранеце вудзіць ім,
разганеце сёньня,
зараз!
Я—
не палажу сваю душу
на нары.
Зрабіць
не дазволю папрашайкаю.
Цела свайго
ня кіну
дарам
на крык
кожнае
чайкі.

Бр-р-р-р
Холадна.
Нэрвы дзогае.
Калоціць да дна
„урачыстасць“.
Што?
ад маіх ботаў чувацъ дзёгаць—
а я скажу,
што яны
чыстыя!
Думаеце,—
будзеце лізаць пацёк дзён,
думаеце—
будзеце мясам
жывіцца гарачым?
Я—
заяўляю катэгарычна:

сёньня
абвяшчаю супроць
ўсеагульную
стачку:
Не адзін—
думаю:
шмат хто згодзіцца.
Эй!
крыкнем!
Няхай чуе
Лёндан!
Зырнем у матушку
прасьвятую багародзіцу—
Спадчыня
распусных
лёрдаў!

Ляжу.
Вакеніцы байкаюць піскам,
у душы
абурэньня рокат.
Хлюпа.
Вецер узрывам сьвішча
па тэлеграфаў
зьнямелым
дроту.

---

# Памятнае

## 1

Адступалі...

Ехалі на конях. Ішлі пяхотай. Цягнуліся абозы напакованыя дабром. Везьлі худыя, рудзенькія конікі. Чуць ішлі. Чуць цягнулі абрабаваны скарб.

Дарогаю паднімаўся пыл. Паветра была напоўнена ўзрывамі рогату, крыкаў, сьвістам бізуноў.

— Паганяй, пся крэў!

Сядзелі на вазох змучаныя, стомленыя, пагорбленыя і сівенькія. Паганялі.

Куды яны ехалі?

Што вязьлі?..

* * *

У вёсках арудавалі. Бегалі па вуліцах. Па пустых, бязьлюдных вуліцах. У жонак пыталіся, дзе гаспадары. У матак—дзе сыны. У хаты забягалі. Варочалі ўсё. Бралі самае лепшае. Пакавалі на вазы. Білі і сьмяяліся.

— Дзе гаспадар?!

— Ня ведаю, панкі. Няма яго ў мяне...

Поўзала пад нагамі. Маліла аб літасьці...

— Дзе дабро?!

— Жывёла дзе?!

— Дзе сын?!

Барада траслася. Вочы сьлязіліся. Старыя, патухшыя вочы...

Нагайкі.

Ногцы.

Рогат...

А яны там былі,
 у лесе...

* * *

Ноч. Вёска. Шэрая муць. У хаце Плішча сабралася начальства. Піруе. Гарэлкаю залівае плямы свайго існаваньня. Увасабляе сабою бруд жыцьця і распусты.

— Эй, старая, хадзі сюды!

З качарэжніку высоўваецца памятая, пакрыўджаная фігура.

— А дзе твой стары?

— Няма яго ў мяне панкі. Памёр. Даўно памёр.

— Хлусіш падла—у лесе!

— Не, панкі...

— А дочкі ў цябе ёсьць?

— Не, панкі... Няма ў мяне нікога.

— Э-э, дык ты сама яшчэ, як журавіна...

П'яныя рукі.
Валавяныя вочы.
Сьмярдзючы водар.
Просьбы і плач...

* * *

На стале многа страў і бутэлек. Кругом іх—шэсьць. Шэры сьвет і сьцены. Агідны рогат. Стук кулакоў.

— Заўтра ўсе будуць тут! Вышукаем!
— Знойдзем!
— І шампалоў дадзім!
— Усё аддадуць!
— Самі прыдуць, пся крэў!

* * *

Будуюць зьдзекі.
Дым і гоман. Бурныя ўзрывы сьмеху... Наглыя, чырвоныя вочы...

* * *

Чорная, сіплая ноч...

2

Маленькі, чуць прыкметны, аганёк. Ён здаецца ружовай плямай у полі цёмнай цішыні. Чуць кідае водсьвет. Трымціць і вось-вось замірае.

Але нечыя рукі рупна ўскладаюць пучок ламачча і ізноў расьцьвітае чырвоны куст.

Лес маўчыць. Нагнуліся задуменасьцю дрэвы. Апусьцілі карункі лісьцяў над плямінай і застылі мастацкай непадробнасьцю хараства. Здаецца: яны выліты з бронзы і хаваюць у сабе вялікую таямніцу маўчаньня, каб даць большую гармонію неабдымнай глыбіні ночы.

Успыхвае аганёк. Вось ён сваім пэндзелям мастака малюе твары на фоне шэрай муці. Гэтыя твары каравыя, змучаныя. На іх жорсткія, рыжыя барады і глыбокія рыскі зьместу перажываньняў. Яны такія цьмяныя і суровыя. Толькі вочы ня звычайныя: прагныя, шэрыя, агняныя вочы і такія глыбокія, як душа. Здаецца: яны ўложаны увасабленьнем вечнасьці, сымбалем яе ў гранітныя непераможныя фігуры.

Але гэтыя фігуры жывыя. Іх многа тут. Яны малыя, няпрыкметныя, брудныя і стамлёныя, але вялікія, бадзёрыя ў барацьбе, з чыстымі і гарачымі сэрцамі. Яны сабраліся тут. П'юць сваёй прагнасьцю ноч, каб спаткаць новы, малады, дзень з яго жыцьцёвым хараством і гукамі радасьці...

* * *

— Гэта праходзяць астатнія.
— Так, але яны самыя страшныя.
— Нічога. Ім таксама будзе страшным іх астатні погляд на сьвет і ростань з расьцьвітаючым днём.
— Астап. Яны сёньня забілі Пранися, што адмовіўся нас ім выдаць.
— У Сарагох усё пазабіралі, што асталося з маёмасьці. Міхасёву Анэлю згвалцілі.

— Нажывём. Ня плачце. Нам от трэба ведаць, дзе яны сабраліся нанач. Дзе іх абозы і начальства.

— Здаецца, што самая іх сіла ў Загудах...

— Цс-сс...

* * *

У кустох нешта шамнула. Каравыя рукі схапілі карабіны. Фігуры спрунжыніста паўсхватваліся і патанулі ў цемені.

* * *

Ціхенькі плач савы.

Водгук.

Фігуры ізноў варочаюцца. Садзяцца. Вачыма ніжуць чорную цішыню бяздоньня.

Тонкая расплыўкая постаць.

— Хлопцы, вы ўсе тут? Дзе Астап?

— Я тут. Што?

Сабраліся шчыльным гуртком. Напружаныя шыі высоўваюць з кастравых каўняроў галавы. Вочы гараць чаканьнем.

— Ну, што новага?

— Як дома?

— Чакайце. Зараз...

Я толькі што была ў Якутах. Там у Плішча сабралася ўсё начальства. П'юць. Днём шныпарыліся ва ўсіх хатах. Варочалі ўсё. Забіралі. Андрэіху зьбілі, што не сказала, дзе мужчыны...

— Ціха хлопцы!.. А колькі іх у Плішча?

— Добра ня ведаю. Здаецца шэсьцера ці семера. Я прыпільнавала, калі Плішчыха вышла на двор. Казала, што заўтра мяркуюцца рабіць аблаву, каб разагнаць вас і пойдуць далей. П'яныя, гавораць. Усё нешта крычаць і рагочуць. Шукалі дзяўчат.

— Ну добра. Ты-ж цяпер адкуль ідзеш?

— З Якутаў.

— Дзе большая сіла паноў?

— У Якутах. А ў Загудах таксама многа. Там і абозы. Вартаўнікоў таму многа.

— А ў Якутах ёсьць?

— Стаяць таксама. Двух з гэтага канца бачыла.

— Добра. Ты цяпер, Алеся, бяжы ў Кабыльскі лес. Там таксама хлопцы. Скажы, каб на раніцу аблеглі Дабрынскі шлях. А мы папужаем. Пойдуць—тады няхай ніжуць, як гадаў. Разумееш?

— Добра.

— Глядзі-ж.

* * *

Цемра праглынула постаць. Сьвіткі ізноў расьселіся навокал чырвонай плямы.

Маўчаньне.

Задумёнасьць.

Стук сэрцаў і рашучасьць.

* * *

— Хлопцы, цяпер нам вядома, дзе, што і як. Усё павінна быць так, як я казаў. Бярэце запасы.—

Да справы!..

Ноч душыла астатнія ўспышкі вогнішча. Аграмаднай навалай насунуўся лес. Павісьлі, вылітыя з бронзавага воску, карункі дрэў. Застылі ў цішыні...

## 3

Вёска патанула ў сьне. Насупіліся саламяныя стрэхі. Зажмурылі бровы вакеніцы. Клёны хаваюць ціхі ўздых.

Навокал, за агародамі, стаяць вартаўнічымі кусты. Ціха стаяць.

Нярухома.

Трава мілым, пахучым водарам прыліпла да зямлі. Пахілілася верхавінкамі і, здаецца, слухае штосьці захаванае і маўклівае. Яна заплаканая расою і ў гэтых чыстых крыштальных сьлязах адбіваюцца халодныя, ледзяныя зоры. Далёкія.

Пудкія.

Сарамлівыя.

Неразгадныя.

Якія яны прыгожыя і проста-наіўныя ў сваёй недасяжнасьці бяздоньня. Якія яны сьветлыя й пяшчотна-лёгкія сваёю ігрою аднакалёрных празрыстых брыльлянтаў.

Гэтыя мілыя, застыўшыя зоры.

Здаецца:—

яны сьмяюцца гарэзьліваю пякнотаю чуласьці й дакору. Мігцяць і пераліваюцца.

А зямля—

так прыслухоўваецца да іх. Так лашчыць далячынь ноч. Так вабіць сутоньні цішыня.

Гэта казка.

Чароўная, глыбокая казка затаёных адчуваньняў. Стройная, прыгожая гармонія характва й векавечнасьці. Дзіўная нячутная сымфонія надрыўнай прагнасьці.

Расплыўкай.

Неразумелай...

* * *

Ціха.

Ноч.

Сон...

Але не—

кусты страпянуліся. Абдаліся шолахам і трэпетам Во:—

між іх прабіраецца нехта. Асьцярожна.

Ціха.

Не адзін.

Цёмныя фігуры крадуцца.

Паўзуць.

Падаюць умоўныя знакі.

Збліжаюцца.

Шэпчуцца.

— Астап!

Што?

— Тут недалёчка стаяць двое. Вартуюць...

Маўчаньне.

— Міхась! Ларывон!

Што трэба?

— Паўзеце на той канец вёскі. Там таксама ёсьць. Зьнімеце іх. Толькі ціха— ні зыку!

— У мяне няма нажа...

Нешта блiснула холадам з халявы.

— Н-на! Кончыце—дайце знаць!

Дзьве цені пасунуліся. Зьніклі. Ізноў маўчаньне. Напружанасьць нэрваў. Стук сэрцаў.

Хвіліны: 1, 2, 5, 10...

Вушы прагна ловяць цішыню. Вочы рэжуць цемру. Сьвідруюць пустату...

Ізноў хвіліны...

... Ціхі савіны плач...

... Маленькае, бясьсільнае рэха...

— Хлопцы!—

За мною!..

* * *

Ноч, здаецца, хацела задушыць іх. Праглынуць сваёю бяздоннасьцю і злосна рагатаць урачытасьцю. Але яны паўзьлі.

Сунуліся.

Вось—

канава прытаілася сьліманем.

Вось—

дарога расьцягнулася вужакаю.

Вось—

плот.

А там—

шэрыя, прыплюшчаныя хаты.

— А цяпер гэтых зьняць. Ты, Сымон, гэтага, а таго сам папрабую.

— Узяць павінны разам у адзін момант!—

— Жыва!

— А вы, хлопцы, паўзеце—

толькі ціха...

* * *

... Яшчэ трошкі цішыні.

Ціхі шолах.

Храп захлёбанай крыві і нячутныя крокі да Плішчавай хаты...

. . . . . . . . . .

4

Выжары. Крамзаватыя абгалелыя кусты. Вільгатны водар. Соннае паветра. Тысячагучны, нячутны звон бязьмежнай вышыні. Халодны, зьледзянелы трэпет неабдымнага прасьцягу.

Маленькая, шурпатая палянка. Кругом балотная прытухлая муць. Абгарэлыя кусты, а водаль лес.

Сонны,

задуманы.

Над ім падняўся месяц. Здаецца: хоча паглядзець у гэтую цішыню. Падкрасьціся. Падслухаць таямніцы заспанай глыбіні і захаваць іх у сваёй беспасрэднасьці.

Павольна, мерна плыве. Прыглядаецца. Шукае чагось.

Вось застыў. Прыціх і настаражыўся:

на палянку выходзяць людзі. Суровыя, страшныя і гордыя. Пакрыўджаныя і нізкія.

Ідуць разьмераным крокам.

Не сьпяшаюцца.

З пераду шарэнгай са зьвязанымі рукамі адзін да другога. Ідуць панура з апушчанымі галовамі і патухшымі вачыма. На іх блішчаць гузікі і галуны. У іх роспач і пустата.

Па бакох і з-заду:—

у шэрых суконных і зрэбных сьвітках. Вочы гараць агнём. Сэрцы налітьі помстаю.

У руках зьзяе халодная сталь.

Вось яны на сярэдзіне палянкі.

— Стоп!

Зьвязаныя сталі. Страпянуліся.

— Паны, таварышы, за што? Пусьцеце...

— Ні слова!

Паставілі поруч. Адышліся. Выцягнулі рукі. Напялі нэрвы. Заціснулі сэрцы. Прыжмурылі вочы...

— П-плі!..

* * *

Глухія ўдары цела. Нямая стогны. Мутныя цені і... цішыня.

* * *

Маленькая, шэрая хмарка акутала месяц. Прыкрыла яго. Захавала ад яго вачэй палянку і здаецца: нешта шаптала яму ціхае, мілае. Чаравала яго.

— Гатова! Гайда, хлопцы!

— Астап!

— Што?

— Дазволь садраць з таго шкураную тужурку. Прападзе дарма, а нам прыгодзіцца.

— Зьдзірай, а мы пойдзем. Гайда!

* * *

Постаці схаваліся ў кусты. Ноч прыціхла.

Заснула.

Забылася...

5

Ізноў месяц. Ізноў палянка і цішыня. Але ноч такая строгая. Такая напружаная. Думаецца: гэта яна адзела хаўтурнае абліча і сінімі строга-сьціснутымі губамі нячутна чытае псалтыр па нябожчыках. І калі чутачку сонным подыхам кусты страпянуць задумёнасьць, здаецца: яна гартае лісты неразгаднае кнігі.

На небе плывуць малюсенькія хмаркі.

Сьветлыя.

Лёгкія.

Месяц купаецца ў іх. Мые свой пабелены твар і палошча доўгія сівыя валасы, што пасмамі ўплятаюць кусты.

* * *

На палянцы шэрая тонкая муць. У гэтай муці застылі, прыліплі да зямлі цені. Яны раскіданы мітузь. Падзеравянелыя, але ў крыві.

Толькі кроў густая. Запечаная. Чуць халодная і рыжая. Яна сьцякла тлустымі лужынамі і застыла.

Трупы. Іх вочы патухшыя. Яшчэ нядаўна яны былі асавелыя і п'яныя.

Твары пакрывіліся ў кароткіх муках.

Страшныя.

Памятыя.

Здаецца: на іх застыў астатні прадсьмяротны крык роспачы і мук. А ён такі быў моцны, хоць нямы. Такі ўзрыўны, хоць не праяўлены.

* *

Трупы.

* *

Адзін дыша.

Вось яго рука ціха лягла на бок, каб заглушыць тугі ўсхліп крыві, што сочыцца журавінным сокам на траву. Уздыхнуў. З патугай адчыніў вочы. Узьняў галаву.

Глуха застагнаў. Усьпёрся на дрыжачыя рукі і смагаю п'е ноч.

На ім ня блішчаць гузікі і галуны. На ім няма шкуранае тужуркі і рукі разьвязаны... Толькі кроў вышыла касьнічок на кашулі і каплі застылі кутасамі.

Узьняўся.

Слабы, як цень.

Віхаецца. Рукамі ловіць апору і ціха, няроўна ідзе...

Вось ён схаваўся ў кучаравых кустох.

Зьнік.

Расплыўся як здань...

6

Раніца. Аксамітным дыванам раса заслала травы. Бісерамі капелек усыпаны кусты. Вільгаць. Шаўковы туман сплыўся ў лагчыны і лёг лёгкаю каёмкаю, здаецца, хоча, каб раніца на ім вышыла свой непадробны ўзор, бо ён расплывецца нядбайнасьцю, а сонца будзе лізаць яго сьлед.

Яшчэ ўсё сьпіць. Тане ў цішыні. Нават Загуды маўчаць. Толькі вартаўнічыя ў дрымоце туляць карабіны, насупіўшы пазнанкі і нахлабучыўшы каўняры

Во:—

да іх ціха крадзецца памятая кашуля З боку на ёй вышыты чырвоны паясок крыві і застыў каплямі. Ногі чуць ідуць.

Постаць вялая.

Асеўшая

Саўсім блізка. Не хапае сілы дайсьці. Дрыжаць калені. Працягваюцца рукі.

— Пане, патруль...

Зваліўся.

Падбеглі.

— Пане сэржант... Што гэта?..

— Расстралялі нас... Там... Душыце іх... Паліце...

7

Ізноў крыкі. Ізноў разьяраныя вочы і пена на губах. Ізноў нагайкі. Шампалы. Зьдзекі.

* * *

Во:—

яны вывалаклі на вуліцу старую. Рвуць валасы. Чаўкаюць па мясе. Топчуць кроў. Яна стогне.

Глуха.

Нема.

Прыдушанана. Ня можа гаварыць. Яна—

кавалак мяса з ямкамі вачэй на лбу і сінімі губамі. Над ёю крыкі. Замахі. Злосьць.

Астатні ўзмах прыкладам і расплюшчаная галава распырскала сьлізкія мазгі...

* * *

Во:—

разьяраная чарада наскочыла на сівенькага дзядулю. У сенцы ўскочыла. Кінуўся да ног. Пяць размахнутых штыкоў прыкалолі яго да зямлі...

* * *

Во:—

разадралі тонкую кужэльную кашулю. Заламалі назад рукі. Крамяныя грудзі вырваліся з лахманоў. Тугія, як маладосьць Яна прыкрывае іх валасамі.

Гнецца, як п'яўка.

Вылузваецца.

Брудныя рукі звалілі на траву. Закрываюць рот. Агаляюць точанае цела і б'юць рогатам...

* * *

Во:—

ён пакідаў сваю дарагую зрэбную вёску. Бег у кусты. Кулі дагналі і заставілі цалаваць землю. Яму быў дванаццаты год...

* * *

Во:—

крыкі плач і стогны зьмяшаліся з пажарамі і сонцам. Дым глытае гарачыню. Абгараюць трупы. Сьцелецца гарачы попел...

Гэта твар Загудаў.

А дзе Якуты?

Дзе Анупрэй? Дзе Плішчыха? Дзе... партызаны?

* * *

Вунь яны.

Вунь.

Вунь.

Вунь.

* * *

Не.—

Гэта не яны. Гэта іх карабіны і абрэзы плююцца сьмяротнымі плямамі. Гэта іх вочы ніжуць проймамі куль шэрую, разьюшаную салдатню пазнанак. Гэта яны шэпчуцца лістамі кустоў і звонам жыта...

* * *

Сонца хіліцца к вечару. Здаецца: яно ўтамілася быць сьведкаю і хоча спакойна адпачнуць. Забыцца хоча. Але яшчэ на розьвіт цалуе гарачыя вугольлі руін.

Вёсак няма. „Вяльможныя“ разьлічыліся з імі і цяпер спакойна адыходзяць налажыўшы сьмяротную пячатку. Цягнуць гарматы, кулямёты. Худзенькія клячы вязуць дабро.

Здаецца: усё ўжо замёрла і маўчыць. Толькі калючая, жорсткая напружанасьць і рыжыя шінэлі.

Яны варушацца.

Ідуць.

Але не,—

вось яшчэ выскачыла з жыта кучка каравых людзей. Яшчэ ўзмахнула адрэзамі і аглушыла вечар. Яшчэ празьвінеў злосны крык Астапа на руінах. Ізноў гарачая, астатняя схватка.

Постаці ламаліся

і

падалі...

8

Другая ноч.

Строгая. Вылітая з маўчаньня і пустаты. Глыбокая і апавітая вечнасьцю з рубрыкай: гісторыя. Маўчыць. Яна непераможны выканаўца сваіх праў і законаў. Строгая і тонкая. Напружаная і заснуўшая. Ціхая і страшная.

Ізноў месяц. Халодны аблезлы твар яго мыецца водсьветам. Доўгія і сівыя валасы падаюць на зямлю і акутваюць цішыню. Павольна плыве па бязьмежнаму мору далячыні і, як старац, ціха стукаецца ў душу.

* * *

Зямля белая і празрыстая.
Прагная і маўклівая.
Чулая і сонная.

* * *

Вось абуглелыя астаткі Якутаў. Роўна так. Так ціха. Толькі дзені-дзе дымок маленькай плямай падымаецца ўгору. Шэраю посьцілкай заслаўся попел. Валяюцца галавешкі. Абгарэлыя, тонкія і крамзаватыя, стаяць дрэвы.

Так пуста. Так нікчэмна і строга.

А вось кусты.

І яны замёрлі. Прыціхлі. І можа затым такія жалобныя, што ценьню сваю прыкрываюць рэдкія трупы.

* * *

Адна жывая постаць.

Яна ідзе крадучыся.

Няўпэўнена.

Доўгія валасы падаюць на плечы. Распушыліся. Акутваюць твар, каб не паказаць яго нагламу месяцу. Каб захаваць душу вачэй.

Яна ідзе.

Шукае чагось.

Нашла.

Нагнулася.

Прагна прыгледзілася.

Пазнала. Усхапілася спужаўшыся. Выпрасталася. Падняла рукі ўгору, як-бы хочачы аддаць скаргу небу. Валасы адкінуліся. Месяц зірнуў у твар. Пазнаў.

Гэта Алеся...

— Астап! вырвалася больлю з грудзей.

Кінулася ізноў на труп. Цела закалацілася ў рыданьнях.

— Астап! Астап!..

Сьлёзы капалі на астыўшы твар.

* * *

Ноч праглынала водгук. Душыла абнімкамі строгую пустату...

**Ўот Ўітмэн**

# Песьня пра радасьць [1])

О, каб стварыць найвесялейшую песьню!
Поўную музыкі,—поўную мужчынства, жаноцтва, дзяцінства,
Поўную звычайнае працы—поўную збожжа і дрэў.

За галасы жывёл, за хуткасьць і гібкасьць рыб!
За шапаценьне дажджавых кропляў у песьні!
За зьяньне сонца і рухі хваляў у песьні!

О радасьць маёй душы—яна не замкнёна
Яна мільгае нібы бліскавіца!
Мала мець гэты небасхіл ці вызначаны час
Я хочу тысячу небасхілаў, я хочу, каб увесь час быў мой.

Радасьць мэханіка! ісьці з лёкаматывам!
Слухаць сыканьне пары, вясёлы сьвіст,
паравыя сьвісткі, рогат лёкаматыва!
Пусьціцца па лагодным пуці
      і імчацца ў прастор!

О радаснае блуканьне па палёх і ўзгорках!
Лісьці і краскі самых простых расьлін,
волкая, цяністая цішыня лесу,
Пяшчотны пах зямлі на сьвітаньні
      і на працягу ўсяго ранку.

Радасьць ездака і наездніцы!
Скакаць што ёсьць сілы прытуліўшыся да сядла—
Халоднае бражджаньне ў вушшу і валасох.

Радасьць пажарніка!
Я чую сьмяртэльны енк уначы!
Чую крыкі, звон! праходжу праз натаўп, бягу!
Убачыўшы полымя шалею ад задавальненьня.

Радасьць смуглага дужага байца, што стаіць
на арэне падрыхтаваўшыся да бойкі, усьвядомлены ў сіле,
Жадаючы сустрэць свайго супраціўніка.

О радасьць тае бязьмежнае стыхійнае сымпатыі,
Якую толькі людзкая душа здольна нарадзіць
      і разьліваць сталымі й бяскрайнімі струменямі.

---

[1]) «A Song of Joys» by Walt Whitman.

О радасьць маткі!
Назіраньне, цярпеньне, дарагое каханьне, сумаваньне,
цярпліва ствараемае жыцьцё.
Радасьць стварэньня, росту,
Радасьць песьціць і супакойваць, радасьць
сугучнасьці і гармоніі.

Ізноў адведаць мейсца, дзе я нарадзіўся,
Паслухаць ізноў песьні птушак,
Ізноў пабадзяжыць вакол хаты й гумна, па палёх
І па садзе і па сьцежках старых
пабадзяжыць ізноў.

Гадавацца на затоках, лагунах, бухтах
ці на беразе мора,
Заставацца і працаваць тамака ўвесь свой век.
Вохкі салёны пах, бераг і багавіньне,
што паказалася пры малой вадзе,
Праца рыбакоў, яны ловяць угроў і кламаў.
. . . . .

Ехаць у чаўне па рэчцы
Падарожжа ўніз па Сэнт-Лаўрэнс—
Раскошны краявід, паравікі.
Плывуць караблі, тысяча вастравоў.
выпадковы плыт і плытагоны
з доўгімі вёсламі.
Маленькія будкі на плытох і стужкі дыму,
калі ўвечары вараць вячэру.

(О нешта гібельнае і жудаснае!
Нешта далёкае ад ціхага, лагоднага жыцьця!
Нешта нязьведанае! нешта шалёнае!
Нешта адарвалася з якару
і вольна імчыцца).

Працаваць у капальнях ці каваць жалеза...
Працуе плавільня, просты вялізны дах,
праторнае заценёнае мейсца
Горніла—гарачая вадкасьць выліваецца і цячэ.

Я разважаю пра радасьць вайскоўцаў!
Адчуваць прысутнасьць адважнага камандзіра,
адчуваць яго спачуваньне!
Бачыць яго спакойлівасьць, разгарацца ў праменьнях
Яго усьмешкі!
Ісьці на бой—пад гукі горна,
пад гул барабана!
Слухаць грукатню артылерыі—бачыць як блішчаць на сонцы
штыкі і ствалы стрэльбаў,
Бачыць як падаюць і паміраюць людзі і не сумаваць!
Каштаваць дзікунскі смак крыві—стаць такім чортам!
Вылупіць вочы на раны і сьмерць супраціўніка.

О радасьць фэрмэра!
З Огайо, Ільліноса, Вісконсіна, Канады,

Айовы, Канзаса, Міссуры, Організа.—
Уставаць на сьвітаньні і ў праменьнях
выходзіць на працу,
Араць зямлю ў восень для азімны,
Араць зямлю увясну для маісу,
Разводзіць сады, прышчапляць дрэвы,
Зьбіраць яблыкі, калі лісьці пачнуць ападаць.

Плаваць у хвалях ракі, або дзе-небудзь
у добрай мясьціне ля берагу мора,
Плёскаць вадою, хадзіць па калені ў вадзе,
ці голаму бегаць ўздоўж берагу.

О радасьць адважнае самастойнасьці!
Нікому ня быць слугою, нікому ня кланяцца,
ніякому тырану вядомаму ці невядомаму,
Хадзіць з простым станам, крокам пруткім і лоўкім,
Пазіраць спакойным поглядам,
або бліскаючым вокам.
Гаварыць голасам гучным і звонкім
з шырокіх грудзей,
Лічыць роўнымі з сваёю асобай
ўсе іншыя асобы зямлі.

Ці ведаеш ты найвялікшую радасьць юнацтва?
Радасьць дарагога таварыства, вясёлых слоў
і сьмяючыхся твараў?
Радасьць вясёлага прамяністага, сьветлага дню,
радасьць захопнай гульні?
Радасьць пяшчотнае музыкі, радасьць асьветленай залі
і скокаў?

Яшчэ мой высокі дух,
Ці ведаеш ты радасьць сумлівых дум?
Радасьць вольнага і самотнага сэрца,
пахмурнага, чулага сэрца?
Радасьць адзінокага бадзяньня
з настроем пахілым, але гордым,
Радасьць цярпеньня і змаганьня?
Мучэньні агоніі экстазы, радасьць урачыстага раздум'я
ўдзень і уначы?
Радасьць думак аб сьмерці, аб сфэрах вялікіх
прастору і часу?

О, каб быць гаспадаром жыцьця, а не нявольнікам,
І сустракаць жыцьцё магутным пераможцай!

. . . . . . . .

Плысьці па моры ў караблі!
Пакінуць гэту нясхілімую і несьцярпімую зямлю,
Пакінуць нудную аднастайнасьць вуліц,
сьцежкі па бакох уздоўж іх і дамы,
Пакінуць цябе, нярухомая цьвёрдая зямля,
ўзыйсьці на карабель
І плысьці, і плысьці, і плысьці!

Жыць з гэтага часу песьняй новае радасьці!
Весяліцца, крычаць, падскакваць,
        імчацца, плысьці ўсё далей!
Быць мараком сусьвету, зьвязаным з усімі гаванямі,
Самім караблём (глядзі, дапраўды, вось гэты ветрылы
        я распраўляю на сонцы і ветры),
Хуткім, імпэтным караблём.
Поўным багацьця слоў, поўным радасьці.

З ангельскае А. М.

---

**Апанас Атава**

# Ганя

Жыцьцё кіпіць,
Кіпіць і ў нас—
Між бору,
Навінамі шасьціць,
Нібы лісток
К лістку...

Спаткалася сэрца маё
Ўчора
З горам,
Спаткалася—
З Ганяю
Смугляваю ў Пластку...

* * *

Дачка ўдавы яна—
Дачка жвірыстых
Гоняў,
Чужых адно—
Гульлівых,
Ды чужых...

Красуня на сяле...
Нядоля...
Песьні—звоны...
І гэта - ўсё яе,
Усё—
Ну й жыцьцем даражыць...

* * *

Здаволена,
Шчэ й як здаволена!
Сама казала:
— Кахаю музыку
На вуліцы
Ў вечары;
І з ёю,
І з песьнямі—
Жыцьцё сваё зьвязала:
Піць золак—
Віно піць
Шчасьлівае пары...

* * *

— Артысткаю была.
Заўсёды
На спэктаклях...
— Ня знаю звычаяў
Кайданаў
На зямлі;

На кліч сьцягоў—
Краіны мілай
Заклік,—
Іду здаволенай,
Як на лугі,
Палі...

Казала так—
І хвалявалася.
Раньню...
Казала так—
І зірк вачэй
Бліжэў...
. . . . .

Стаяў і думаў я:
Пра замяць
І Сьвітаньне,
І пра Палесь,
Дзе ўжо ірдзее—
Ўжо!..

* * *

Жыцьцё кіпіць—
І ў нас кіпіць,
Між бору—
Шасьціць навінамі,
Нібы лісток—
К лістку...

Спаткалася песьня мая
Ўчора—
З горам
Струны пырснулі,
Аб Гані
У Пластку...

в. Пласток, Случчына
3-X—1927 г.

## Н о ч

Аганькі...
Хутароў аганькі,
Нібы воўчыя вочы.
Вышаў месяц—вітань кінуў—
ночы...
Вышаў месяц—сьвету кінуў—
клочча...

* * *

Цішыня.
Цішыня—
І цяплынь...
І на небе парваныя хмары.
Усю ноч будзе месячык плыць—
марыць...
Будзе ночкаю з бору плыць—
гара...

* * *

І ня слухай.
Ня стой.
Не глядзі!
Усё роўна ня выкрыеш чараў...
Не здаволіцца месячык плыць—
марыць...
Чорны бор не пакіне цадзіць—
гары...

В. Пласток, Случчына.

---

Язэп Сукала

## Зімовай ночкай

Месяц...
Марозная ночка...
Стадак нязьлічаных зор...
Срэбрам ірдзіцца сарочка
бельлю заслаўшы прастор.
Сані...
Чырвоныя коні..
Сьнег камякамі ляціць...
Песьня зімовая звоніць,
звоніць,
у сэрцы кіпіць.
Эх, вы, разлогія гоні,
кліч у бязьмежную даль!
Думак маіх не загоніць
ў пастку расхрумстаны жаль.
Поўны крамністаю воляй,
поўны адвагі яны...
Рады бяляваму полю,
рады прыходу зімы...
Месяц...
Марозныя гоні...
Думак разьвіты клубок...
Песьня зімовая звоніць,
думкі сплятае ў вянок.

**Дзядок**

# Падхалім

*(Фэльетон аб сапраўднасьці)*

I

Настаўнік, Язэп Язэпавіч Гунько, толькі што падняўся з пасьцелі. Седзячы, на краю ложка, ён заглянуў у шырокі твар жонкі Людвісі і заўважыўшы прыплюснуты, востраканечны і ўзьняты ўгару нос з шырокімі ноздрамі, якія выводзілі ў гэты час досыць няпрыемную мэлёдыю, падумаў:

„А ўсё-ж такі Наста шмат прыгажэйшая за маю Людвісю“—і яму пачала маляваца Наста, жонка настаўніка суседняй вёскі—Карчука.

„Не дарэмна я адчуваю да яе нейкую сымпатыю, калі яна прыходзіць да нас па тэй ці іншай справе“.

За гэтай думкай, ён нават і ня прыкмеціў, як нацягнуў боты і падышоў да калыскі, у якой соладка спаў, выводзячы носам, нешта падобнае накшталт мацеры, чатырохгадовы яго сынок Міхаська. Ён нагнуўся і заглянуў яму ў твар, пасьля перавёў погляд на жонку, пакруціў галавою і накіраваўся да стала.

Узьдзеўшы акуляры і адчыніўшы ў вакне хвортку, Язэп Язэпавіч паглядзеў усьцяж гасьцінца, па якім з гары, на адлегласьці каля кілёмэтру, спушчалася нейкая чорная пляма, падымаючы невялікі слуп пылу, які падхватваўся павольным ветрыкам і губляўся ў хвалях красуючага жыта. Зьняўшы акуляры і пацёршы іх хустачкаю, ён ізноў узьдзеў іх на нос і накіраваў погляд паўторна на чорную пляму, якая за гэты час шмат павялічылася і ў якім, праз некалькі хвілін, досыць яскрава, Язэп Язэпавіч распазнаў едучага міліцыянэра.

— Пэўна заедзе да мне,—і Язэп Язэпавіч, што гумовы, адскочыў ад вакна, паваліў па дарозе крэсла і апынуўся ў кухні. Спаласнуўшы, на скорую руку сабе твар вадою і ўцёршыся кухонным ручнікам, ён выйшаў на двор.

Не зьвяртаючы ніякай увагі на сабаку, які лашчыўся ля яго ног, Язэп Язэпавіч пільна ўглядаўся на пад'яжджаўшага міліцыянэра і, ня гледзячы нават на сваю нізкавокасьць, ён распазнаў знаёмага з раёну міліцыянэра, які ня раз, прыяжджаючы па справах у сельсавет стаўляў у яго свайго каня.

І цяпер, прывязаўшы каня пад паветкаю, якая ў зімовы час, ад нізу і да верху, запаўнялася дрывамі, міліцыянэр падышоў да Язэпа Язэпавіча, прывітаўся і папрасіў прабачэньня, што ён бяз спросу заўсёды ставіць там каня.

— А, вы, што, мусіць па справах нейкіх да нас прыехалі?

— Ну, пэўна бяз справы хіба-б паехаў.

— А ўсё-такі, пільная справа? Можа гэта наконт забойства селяніна?

— Вы ўгадалі, Язэп Язэпавіч.

— А што, хіба забойцу яшчэ не знайшлі?

— Знайсьці то не знайшлі, але думаю, што знойдзем... Вось што, Язэп Язэпавіч, да вас вялікая просьба: сёньня па гэтай самай справе забойства прыедуць сюды: доктар Чарвякоў і сьледчы Крымінальнага Вышуку Слуховіч, дык, вы, калі ласка, прыгатуйце абед, а то ў сялян прасіць... самі ведаеце, што цяжка чаго добрага дастаць, дый прыгатаваць яны ня змогуць.

У вушох Язэпа Язэпавіча засела толькі адно слова—„Чарвякоў“. Ён амаль болей нічога і не пачуў.

— Чарвякоў... Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту... мільганула ў яго ў галаве і ён зараз-жа галосна дадаў:

— Калі ласка, калі ласка; буду вельмі рад бачыць гэткага паважанага гасьця.

— Ну, вось і добра, шчыра дзякую; абед падгатуйце так к двумтром гадзінам, а цяпер па службовай справе...—і міліцыянэр хутка схаваўся за вуглом школьнага будынку.

— Таварыш міліцыянэр, зайдзеце хоць шклянку малака выпіце! Нясьліся ў дагонку міліцыянэру словы Язэпа Язэпавіча.

Пастаяўшы крыху на адным месцы, як-бы штосьці абдумваючы, ён пасьля ўвайшоў у кухню.

„Сам Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту сёньня будзе ў яго, настаўніка Гунько... Трэба прывесьці ўсё ў парадак, бо і ў кватэры шмат чаго ні на месцы, а ў клясе, дык і зусім Садом і Гамора, але гэта плёвая справа. Бяда вось толькі ў тым, што жонка Людвіся ніяк ня зможа адна справіцца каля печы, дый наогул яна ў мяне не вялікі спэц у гэтай справе...“ Язэп Язэпавіч на хвіліну задумаўся, пасьля лясную рукою па ілбу і амаль голасна вымавіў:

— А што калі напісаць пісульку і паслаць якога-небудзь хлапца да Насты. Яна кабета больш бывалая і мае лепшы талент у прыгатаваньні абедаў, дый з начальствам пагутарыць яна таксама здатная, а акрамя таго няхай паглядзіць Наста з кім мае справу Язэп Язэпавіч Гунько.

Пісулька была напісана і хлапец, вучань Язэпа Язэпавіча, амаль бягом імчаўся праз сенажаць і па межах між палеткаў у суседнюю вёску да настаўніка Карчука перадаць пакецік толькі самой Насьці.

* *

— Людвіся... А Людвіся! Уставай, хутчэй; ніколі ты ня высьпішся; дзе-б яна раней устала, дык не...

— Што? Хто раней скрозь зубы буркнула Людвіся.

— Што ў мяне дзеці хіба плачуць? Бач, Міхаська, падрос і як храпе ў калысцы.

— Якраз, як і ты...

— Вось што, Людвіся, уставай як найхутчэй, трэба прыбраць у пакоях, клясе і прыгатаваць абед. Сёньня будзе ў нас сам Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Чарвякоў, ён прыяждае сюды па справе ўчарашняга забойства селяніна, трэ‘ ня ўдарыць перад начальствам у гразь. Акрамя таго, сама ведаеш, што я ўжо калі, як падаў заяву аб залічэньні мяне ў кандыдаты партыі, а і да гэтага часу нічога ня чуваць, як быццам яны й ведаюць, што я з папоўскага роду, чуцьцём ня йначай, падла, адчуваюць...

— Дык ты думаеш, што калі ў цябе пабывае Чарвякоў у кандыдаты пападзеш? Пратэкцыянізму цяпер ніякага няма, сказала Людвіся, зашнуроўваючы чаравікі.

— Яно хоць і не пападзеш, а ўсё-ж такі...

— Ай, кінь, не хачу нават і слухаць.

— О!.. Каб гэта здарылася, тады Гунько Язэп Язэпавіч... Сьцеражыся ўсе!.. Годзі-б тады сядзець у гэтай школцы... Даёш шырэйшы шлях!..

— Ну, годзі „шырэйшы", прыбяры вось крыху кніжкі, а я пайду ў кухню,—і Людвіся хутка вышла за дзьверы. Настаўнік-жа, Язэп Язэпавіч, старанна прыняўся за ўпарадкаваньне бібліятэкі, якая зьмяшчалася ў раскіданым выглядзе на стале, у кутку пакою. Часопісі і кніжкі большай значнасьці, выбіраліся ім зьнізу і запаўнялі месца зьверху, пры чым усе яны сьпінкамі накіроўваліся на сярэдзіну пакою. Не ўпяршыню гэтая праца была Язэпу Язэпавічу і, калі кніжкі, як у кнігарні, на паліцах, занялі належнае сваё месца, ён прыняўся і за партрэты, маркуючы разьвесіць іх так, каб гэта было да спадобы начальству. Непакоіла яго толькі адно—гэта адсутнасьць партрэта Чарвякова, але і тут ён знайшоў выйсьцё; хата-чытальня вызваліла з бяды занепакоенага Язэпа Язэпавіча і праз некалькі хвілін задаволены сваёю вынаходкаю, ён стаяў у кухні прапануючы Людвісі, як і што прыгатаваць.

— Людвіся, трэба ўсмажыць курыцу і парасё. Я вось зараз-жа схаджу да Сьцяпана Пушкара, у яго якраз ёсьць малыя парасяты; тамжа папрашу, каб яго закалолі і ашпарылі; на гэта часу шмат не патрабуецца. Акрамя таго, прыгатуй сырнічкі і піражкі да бульлёну... я разумею, што гэта ўсё аднэй зрабіць надта цяжка, але зараз на дапамогу павінна прыйсьці жонка Карчука, я ёй сёньня-ж паслаў пісульку...

— Ну, дык я пайшоў, а назад па дарозе зайду да каапэратара і захвачу партвэйну ці каньяку,—і Язэп Язэпавіч, паправіўшы акуляры на носе, выйшаў з кухні і накіраваўся ў вёску.

Асьляпляючае сонца неміласэрдна пачынала паліць і награваць пясок вуліцы. У паветры-ж была амаль абсалютная цішыня і толькі часамі павольны вецярок зьлёгка падымаў пыл на дарозе, зносячы яго ў сады і агароды.

Дзесь-ці далёка ў другім канцы вёскі прагрымелі калёсы і пранеслася стадка быдла, праразаючы паветра сваім рыканьнем.

II

У кухні Турчанскай школы даўно ўжо быў гэткі клопат (беганіна і пах ад розных прысмакаў), як сёньня. Язэп Язэпавіч і той амаль адтуль ня выходзіў, калі зьвярнуўся з парасём і выпіўкай. Ён вельмі быў зацікаўлены ў прыгатаваньні абеду дасканала, гэта з аднаго боку, а з другога—Наста, якая прышла і даўно ўжо ўвіхалася над рознымі стравамі, ня менш вабіла Язэпа Язэпавіча, што прымушала яго заставацца ў кухні. Праўда, бяз працы ён там ня тырчэў, а калі скончваў тую ці іншую—дык зараз-жа атрымоўваў новую.

— Язэп Язэпавіч! Падайце сюды яйца!—жартуючы казала Наста.

— Язэп! Няма дроў,—крычала Людвіся.

— Язэп Язэпавіч! Прынясіце вады!

І Язэп Язэпавіч вельмі часта папраўляючы акуляры, толькі і ведаў, што лётаў з кухні на двор, у кладоўню і назад у кухню, але яму гэта было прыемна і ён не адчуваў ніякай зморанасьці. Жарты Насты былі да спадобы Язэпу Язэпавічу, хоць, праўда, злосны погляд Людвісі ў яго бок даваў знак: „Глядзі, далёка не заяжджай, а то ў цябе ёсьць жонка, дый яшчэ якая"—але Язэпу Язэпавічу гэта было не ўпяршыню; ён ужо ня раз меў сутычкі з сваёю Людвісяю ў гэтай справе.

— Ш ш-ша!..—пракрычаў ён, і ўсе ў кухні змоўклі, прыслухоўваючыся да звону гадзіньніка ў пакою.

— Адзін... два.. —адлічваў Язэп Язэпавіч.

— Т-р-р-ы!—сьмяючыся перабівала Наста.

— Дванаццаць! скончыў Язэп Язэпавіч—дадаючы:

— Таварышы, кабеты, хутчэй! Каб к двум гадзінам ужо ўсё было скончана, бо калі прыедзе начальства і калі я толькі скажу накрыць стол, то павінна зараз-жа ўсё „по щучью велению“...

Так паступова за жартамі і за працаю праходзіў час. Гадзіньнік празваніў палову другой. Стол, засланы прыгожым беларускім абрусам, стаяў пасярэдзіне пакою і Язэп Язэпавіч, ня раз заглядаючы ў вакно, падыходзіў другі раз да тэй ці іншай рэчы і папраўляў яе, калі яна, на яго погляд, была ня так пастаўлена, альбо паложана. Наста-ж і Людвіся ў другім пакою (гэта можна прыпісаць большасьці кабет у наш век) наводзілі прыгожасьць твару, стану і галавы. Запаленая лямпа з усаджанымі ў сярэдзіну шкла клешчамі, скрыначка пудры, рознакалёрныя фікстуары, рознастайныя падкладкі пад валасы і дзеля таго каб загладзіць адсутныя некаторыя грацыі стану,—усё гэта было цяпер перамешана на стале перад люстэркамі і паступова займала тое ці іншае ў іх месца. У дадатак да ўсяго гэтага, некалькі гарнітураў, хоць і танных, чакала свайго прыстасаваньня. Не забылася захапіць з сабою гарнітур і Наста, бо Людвіся была шмат мажнейшая за яе, і калі-б надзець ёй гарнітур Людвісі, то яна-б хутчэй выглядала пудалам, чым жонкай настаўніка Карчука.

Упрыгожваньне і адзяваньне падыходзіла к канцу. Мастацкая рука кабеты ў гэтым напрамку вельмі адрозьнівала Людвісю і Насту ад тых, якія ня так даўно працавалі перад гэтым у кухні. Яны з зайздрасьцю паглядалі цяпер адна на другую, адчувалі гэта нутром, хоць нічога і ня выказвалі, а калі і гаварылі, то зусім мякка адна да аднэй:

— Настачка, паглядзі, як у мяне спадніца ззаду?

— Людвісячка, ці панчохі гэтыя мае падыйдуць да жоўтых чаравікаў?...

Але раптам Язэп Язэпавіч абарваў:

— Кабеткі! Едуць!

Да пахілага ганку Турчанскай школы пад'ехала хурманка. Язэп Язэпавіч, на гэты раз без акуляраў (трэба сказаць, што ён бяз іх амаль і ня ходзіць) адчыніў дзьверы і ветліва папрасіў гасьцей у пакой.

— Калі ласка, вось сюды, а каня можна да хлява, і палажыць корму.

— Шчыра дзякуем, адклікнуўся адзін з прыехаўшых.

Доктар Чарвякоў і сьледчы Слуховіч зьлезьлі з воза, сьцяпанулі крыху пыл і разьдзеўшыся ў калідоры пашлі за Язэпам Язэпавічам у пакой, дзе чакалі гасьцей Людвіся і Наста.

— Будзьце знаёмы, гэта мая жонка, а гэта жонка настаўніка суседняй вёскі, Карчука.

Вельмі прыемна: Чарвякоў.

Слуховіч.

— Вы пэўна змарыліся... будзьце ласкавы сядайце, углядаючыся ў гасьцей запрапанаваў Язэп Язэпавіч. А вы, кабеткі, там у сэнсе абеду, што небудзь, толькі хутчэй, і Людвіся і Наста сапраўды па „щучью веленію“ заставілі стол.

— Вы ўжо... выбачайце нам, таварыш Чарвякоў..., „чым хата багата тым і рада“, кажа прыказка, так вось і мы.. а, так сказаць, дзе-

ля апэтыту, я вось, дзякуючы таму, што і ў Турчыне можна знайсьці, зачапіў адну,—дзьве... бутэлечкі...

— А гэта не мяшае падмацавацца ў дарозе,—барытонам падхапіў доктар Чарвякоў.

— Ну, дык сядайце, кабеткі, разам і пачнем,—зьвярнуўся Язэп Язэпавіч да Людвісі й Насты.

— За здароўе паважаных нашых гасьцей!—і налітыя першыя чаркі партвэйну асушаны ўсімі былі да дна.—А цяпер, калі ласка, парасячынкі, сяледчыка...

— Нічога, добра прыгатаваны сяледчыкі,—гледзячы на кабет выказаў сьледчы Слуховіч.

—А парасячынка яшчэ лепей—дадаў доктар Чарвякоў.

—Але, паважныя таварышы, сьвіньня вільгаць любіць,—трэба падмачыць—гаварыў Язэп Язэпавіч, і налітыя чаркі паўторна асушыліся да дна...

— Таварыш Чарвякоў, я хачу вам сказаць, што я вельмі рад, гэткаму гасьцю, як вы, дый ня толькі я, а ўсё насельніцтва паважае вас і лічыць абаронцам інтарэсаў працоўных, інтарэсаў беднаты...

— Бязумоўна, у вас шмат працы, цяжкае працы, але кожная перамога ў тэй ці іншай галіне набліжае час да перамогі і ўсіх працоўных... Нам вельмі-б, так сказаць, было прыемна пачуць тут, хоць што колечы, пра навіны ў вас у цэнтры...

„Вось яно што?!"—падумай сам сабе доктар Чарвякоў.—„Тыдзень бяз году, як застаўся раённым доктарам і гэткая пашана з боку насельніцтва. Што-ж датычыць цэнтру, дык я тут зусім не разумею; няўжо ён нашае раённае мястэчка лічыць за цэнтр?"

— Я вельмі ўдзячан паважанаму настаўніку, толькі...

Але Язэп Язэпавіч з вялікім натхненьнем, а часткова і пад дзейнічаньнем хмелю, перабіў доктара і веў працяг прамовы далей:

— Толькі штось-ці, ...—ён дастаў і ўзьдзеў акуляры,—Вы мала падобны да свайго партрэту...

— Якога партрэту?—зьдзіўлёна запытаў доктар, агрызаючы цэлы кумпяк парасячыны.

Язэп Язэпавіч папрасіў прабачэньня, вылез з-за стала, выйшаў у суседні пакой, дзе зьмяшчаліся бібліятэка і партрэты, зьняў са сьцяны партрэт Чарвякова і прынёс паказаць гасьцям.

— Ну, вось паглядзіце, таварыш Чарвякоў, вы амаль зусім непадобны...

— Ды гэта-ж Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Чарвякоў, а я доктар Чарвякоў—і раскацісты парыў сьмеху вырваўся ў яго з вуснаў, паказваючы з пад вусоў шэраг белых зубоў, перамешаных з залатымі.

Не зьвяртаючы асаблівай увагі на прамову Язэпа Язэпавіча, сьледчы Слуховіч вёў упаўголаса гутарку з Настай, але ўбачыўшы партрэт Чарвякова, ён з апошніх слоў доктара зразумеў усю існасьць справы і ня мог стрымацца, каб ня прыстаць са сьмехам да свайго падарожніка.

. . . . . . . . . . . . .

Першай з-за стала ўстала Людвіся і чуць не бягом, закрываючы твар рукамі, выскачыла ў кухню. Язэп-жа Язэпавіч, ня ведаючы, што нават і сказаць, апусьціўшы партрэт к нізу, вышаў і павесіў яго на есца, пасьля чаго накіраваўся ў кухню, дзе зьвярнуўся да Людвісі:

— А-я-яй! Якое няпрыемнае становішча і трэба-ж мне...

— А-а! Ты заўсёды з „бухты-барахты“, не паглядзіць, ні расслухаецца і ляскае языком, як тая церніца.

— Вось, што, Людвісячка, на стол падаваць больш нічога ня трэба, і так вялікая страта панесена; няхай застаюцца і курыца, і сырнічкі, і піражкі, а падай чай і няхай едуць. Я-ж пайду, неяк трэба знайсьці выйсьцё з гэткага гадкага становішча.

— Кінь сваё выйсьцё, „пасьля бойкі кулакамі не махаюць“ — і прыняласяналіваць чай . . . . . . . . . . . . . .

Гутарка ніяк не вязалася за чаем. Госьці гэта добра разумелі і спачувалі Язэпу Язэпавічу, бо калі і было, якое колечы запытаньне, дык наконт школьных спраў, пагоды і г. д. Наогул-жа было відаць, што Язэп Язэпавіч быў зусім ня супроць таго, каб яны хутчэй усталі з-за стала і далі яму спакой. Гэтае самае зразумелі і доктар з сьледчым, бо ня выпіўшы нават і шклянкі чаю, доктар падняўся, кіўком галавы падзякаваў Язэпу Язэпавічу з жонкаю за гасьціннасьць. Насьці за кампанію і барытонам, гледзячы ў бок Слуховіча дадаў:

— Што, едзем, таварыш Слуховіч? Пара, а то і так засядзеліся. Пасьля чаго вышлі з-за стала і пачалі разьвітвацца з гаспадарамі. На запрапанованую плату за абед доктарам. Язэп Язэпавіч наадрэз адмовіўся, а правёўшы гасьцей з двара, не заходзячы нават у пакой, каб разьвітацца з Настаю і падзякаваць ёй за дапамогу, накіраваўся мяжою ў бок сенажаці.

Усеўшыся там пад альховым кустом, ён падпёр галаву рукою і цяжка глыбока ўздыхнуў. Ня цікавіў яго нават і сынок Міхаська, які бегаў па сенажаці і зьбіраў кветкі, і зьвяртаўся да яго з тым, ці іншым запытаньнем...

„Пасьля бойкі кулакамі не махаюць“, мільганула ў яго галаве... Па-дха-лім-м, пяяў раўчук, прабіваючыся праз карэньні алешніку непадалёку ад Язэпа Язэпавіча.

---

## Ул. Прыбыткоўскі

* * *

Літаратура
                  ў прыгоне,
літаратура
                  ў загане
нявольнікам стала
                  „каханьне“
за выключэньнем
                  маіх ды Вашых
                                    тонаў.

Я стаўлю пытаньне рубам,
і стаўлю пытаньне груба,
і стаўлю пытаньне проста,
бо ростань...
                  перад намі-ж
                  ростань.

Ты хочаш паэтам зрабіцца?—
Рабіся хутчэй чалавекам:
пакінеш мяшчанства драбніцы,
насыплеш дабра ў засекі.
З памылак ты сойдзеш,
                  як певень з мякіны,
узьнімешся,
                  ледзь разьвіднее,
у чорную глебу
                  дабро з табой кінеш
і вырасьце песьня
                  пра акт запладненьня.

* * *

Росквіт вытворчы.
                  дае нам падмогу
пралетарскую армію
                  множыць;
чым вышай вытворчасьць,—
                  спрытней ідуць ногі
шляхам, касьмічным.
                  прыгожым.

## Зося Пальн

* * *

Бывайце здаровы,
старыя парогі,
дзе мае хадзілі
бялюсенькі ногі.
Дзе яны хадзілі,—
хадзіці ня будуць:
па сьветлую долю
пайшлі з сваім людам.
Ой, ды ня ў полі
(у полі дзікі вецер)
ня ў глыбокім небе,
ды шырокім сьвеце
знойдзем сваю долю
мы у чорнай глебе,—
ураджай вялікі:
радасьці ды хлеба.
Толькі ў чорнай глебе
залатыя горы,
горы залатыя,
радасныя зоры.
Зоры—весялухі
разумнейшай долі
пойдуць карагодам
у хаце і ў полі.
Навіной вітаю,
новыя парогі,
бо да вас прымчацца
чарнюсенькі ногі.

Рыгор Казак

## Сучаснай песьняй

На шкумат
свайго пачуцьця
Выліваю
пяшчоты кухаль.
Свае вершы
не на расьцяг,
А дынамікай
буду
грукаць!
Тыя дні ўжо
даўно прайшлі,
Калі вершы
чыталі
з плачам.
Сёньня шротам
з запалам
плі!
На пярэчкі
вяком
лядачым.
А сьпяваць,
дык гэтак сьпяваць,
Каб ад слоў
разьвясёлай песьні
Спалатнеў-бы
трутнёвы твар,
Каб мазгі
Чэмбэрленаў згнесьці
Няхай кожнае
слова грыміць
З самых нетраў
рабочай масы,
У песьнях нашых—
жыцьцё,
дынаміт.
Песьні зьвязаны
з рухам,
з працай.
На шкумат
свайго
пачуцьця
Выліваю
пяшчоты кухаль

Свае вершы
не на расьцяг,
А дынамікай
буду грукаць!

---

# У вагоне

Пад нагамі
чахкаюць
жалезныя колы.
За ваконьнем ноч,
як сажа труб.
У вагоне жорсткім
на палацях голых
сярод груды клункаў,
згорнутых дзяруг
сьпяць спакойна людзі.
Ціхае храпеньне
з грукатам вагону,
з дзвэнканьнем вакон,
разам з ліхтаровым
неспакойным ценем
б'юць акорд.

* * *

У мяне бяссоніца.
З думкай на тапчане...
З цёмнага кута
скрозь каганцовы змрок
мае вочы немарасьцю
апавітай чадзяць.
І здаецца мне,
вось гэтакай парой
у клубкох махорачнага дыму
ёсьць нязнаная
ды радасная боль.
З сэрца вытаргну
я пальцамі худымі
енк з журбой.

* * *

Не бярозка ў восені
дзявочыя косы.
Аксаміты воч...
Глыбокі зірк...
Я убачыў:
поруч
дзяўчына у просінь
праз вакно дрыжачае
ў немарач глядзіць.
Пакваля адкінула русую галоўку,
перастрэлка воч—

яе,
маіх.
Майго сэрца кляпан
ў горне сваім змоўкнуў—
быццам сьціх.

* *
*

А пад нагамі чахкаюць
жалезныя колы:
яшчэ чакай,
яшчэ чакай,
чакай,
чакай...
Мэлёдыю цішы ня руш!
Не,
не магу
сядзець маўкліва болей
і нахіліўшыся
да суседкі гавару:
— Скажэце, калі ласка,
скуль вы?
— З Слуцку.
А еду ў Мазыр...
І загудзелі думкі мае вульлем,
а ў яе на вуснах кармазын.
І раптам...
Ціха яна
шэптам на паўслове:
— Ня ведаю чаму,
ня ведаю сама...
Чаўхірку пацалункаў
хочацца гатовую
атрымаць.

*
* *

Пад нагамі грукае.
Шыбеніцы звоняць.
У ліхтары за шклом
сіпіць сьвяча.
Зглянуў дзяўчыне я
на скроні,
пад бахмой
брывей
агні блішчаць.
Гаварыла ціхенька
ласкавыя словы,
Хваляй косы падалі
на маё плячо.
Я адчуў,
як вусны вуснаў ловяць;
погляд, нібы шчыліна
з надломаным ключом.

Галасьней лапочуць,

размаўляюць колы,
бы пляткарак-баб
ля студні гам.
Я убачыў
азірнуўшыся наўкола
на сьцяне мне вокам
ліхтарок мігаў.
І напоўніўся хатыль маіх пачуцьцяў
'шчэ адным уражаньня куском.
Думкі ўсьцяж
над рэйкамі нясуцца
цягніком.

---

## Восень—ня сум

Я люблю
дзікі шопат асін,
шум чароўны
шурпатага лісьця.
Весялосьці ня стану прасіць,
Бо даўно
сум з сэрца
ачысьціў.
Весялосьць мая—
непатушны агонь
і вясною і ўвосені зьзяе.
Пойдуць ветры за мной наўздагон
сьмяючыся
прыгожым Маем.
Сярод хмар
закапала кроў,
гэта значыць
усходзіць сонца.
Праз сталецьці
праломіцца бронь
у жале ныя краты ваконца.
І таму мне восень
ня сум
у адцьвіўшым
ня бачу я жалю.
Калісь каменьні
на сэрцы ляжалі,
а цяпер
толькі шчасьце нясу.
Весялосьць мая
непатушны агонь,
і увесну
і ўвосені зьзяе.
Зьнікне панства,
як згінуў прыгон,
будзе ўсюды
усьмешка Мая.

---

Пятрусь Броўка

# Чую звон...

Чую звон
я з вялікай званіцы.
Гоман медзі
ўсьцілае прастор.
Мо' таму,
мне сягоньня ня сьпіцца,
думкі носяцца
ў далі віхром...
. . . . . .
Гэты звон
'шчэ маленькім падслухаў.
Помню
быў мне
дванаццаты год.
О! той год
неяк грозна так рухаў
(на паноў ішоў працоўны народ).
Часам звон
у далі захліпаўся...
(горкі дым быў
гарматаў і стрэльбаў).
Не адзін
з галавой разьвітаўся;—
хто свабоды шукаў
і хлеба.
Не адзін
крывёю пякучай
размываў асфальт на панэлі.
Не адзін,
не адзін лёг пад кручаю,
кроў разьліў
па імшарах
і ельніку.
А звон
усё гучэў, разрастаўся:
клікаў нівы,
варстаты у адно...
Гэты звон
Кастрычнікам зваўся,
што прагнаў:
фабрыкантаў,
паноў.
. . . . .

Патухлі пажары,
на попеле іх:
Краіна мая,
як пралеска ўсьцьвіла.
Дык сёньня таму
сэрца ў песьнях маіх,
дык сёньня таму
жарам вочы гарадь.
А звон
усе звоніць,
усё кліча яшчэ
наперадзе шмат
барацьбы й перамог...
Калі будзе трэба
мы пойдзем ўсе
маладых і бадзёрых
нас многа!

Полацк, 1927 г.

**М. Бухарын**

# Аб даўніх традыцыях і сучасным культурным будаўніцтве

*(Думкі галосна)*

„Ужо колькі разоў цьвярдзілі сьвету“, што ў галіне *палітыкі* зусім няправільна мэханічна пераносіць старыя лёзунгі на новую паласу разьвіцьця: бо тое, што было *ў свой час* прагрэсыўным, рэвалюцыйным, мэтазгодным, можа стаць—у іншых зьмененых умовах—рэакцыйным, контр-рэвалюцыйным, у высокай ступені шкодным. Аднак, гэтае правіла датычыць ня толькі палітыкі ў вузкім сэнсе гэтага слова: яно ўпоўні падыходзіць і да ўсяе галіны *культуры*. Кожная эпоха высоўвае свае асаблівыя задачы. Кожная гістарычная паласа мае свой асаблівы „твар“. Кожны пераходны этап у разьвіцьці чалавецтва вылучае новыя рыскі, якія і зьяўляюцца мосьцікам да наступнага этапу. Яны вось і выяўляюць той рухлівы, дынамічны пачатак, які і штырхае наперад чалавечую гісторыю. Гэтае новае і павінны мы падтрымоўваць з усёй энэргіяй і з усім рэвалюцыйным запалам. Бо і тут, на самых неаднальковых ступенях культуры, і ў самых рознастойных яе галінах, вырашаецца штогадзінна і штосэкундна тое самае пытаньне, якое ў галіне экономікі сфармулявана Леніным, пытаньне: *хто каго*.

Нам трэба з усёй выразнасьцю зразумець і ўсьвядоміць усю прынцыповую розьніцу паміж становішчам пралетарскай партыі ў капіталістычнай грамадзе, з аднаго боку, і яе становішчам пры дыктатуры пралетарыяту—з другога. Гэтае неаднолькавае становішча адбіваецца ня толькі на асноўных лініях палітыкі: яно няўхільна адбіваецца і на ўсім *куце гледжаньня*, пад якім мы разглядаем („аналізуем“) розныя грамадзкія зьявішчы. Бо ў капіталістычнай грамадзе ў пралетарыята асноўны пункт гледжаньня, гэта—*разбурэньне* данае грамады, яго насільніцкі *ўзрыў*, тады, як пры дыктатуры пралетарыяту асноўная задача—задача *будаўнічага* парадку, задача ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту, задача *перарабленьня* грамады (яе „эвалюцыйнага“ перарабленьня).

Гэта кардынальнае адрозьніваньне аддаецца рашуча на ўсім. У прыватнасьці, яно адбіваецца на адносінах да многаліківх, так сказаць, „прамежных фактараў“ грамадзкага жыцьця. Сапраўды. Возьмем, напрыклад, *пэдагогіку*. Марксыстыя дасканала разумелі яе ролю ў мэханізьме капіталістычнае грамады. Але ці з'асярадкоўвалі яны на *гэтым* сваю ўвагу? Не. Усе сілы яны кідалі на той фронт, з якога можна было накіраваць найбольш рашучыя ўдары, адкуль можна было найбольш энэргічна ўбіваць клін у цела капіталістычнае грамады. Возьмем *тэхніку*, як навуку. Ці цікавіла гэтая галіна марксыстых? Цікавіла па толькі па колькі трэба было *наогул* зразумець значэньне гэтае галіны. І толькі. Возьмем пытаньні кваліфікацыі *рабочае сілы*. І тут той самы малюнак.

Наадварот, для буржуазіі і яе навукі ў *падобных* пытаньнях ляжаў асяродак цяжару. Буржуазія ўсямерна ўхілялася вялікага пытаньня аб супярэчнасьцях капіталізму, якія расшыраліся, аб яго няўхільнай гібелі. І ўсю сваю ўвагу яна канцэнтравала на элемэнтах і сілах *шчапленьня*, „арганічнага росту“. Адсюль—выключная „ўвага да дробязяй“. Адсюль—бясконцае пералічэньне „фактараў“. Адсюль—выключныя клапоты аб кожным з іх. Уцякаючы ад праблемы гібелі, буржуазія хапалася—і не магла не хапацца за кожны, колькі-б то ня было важны „фактар“, нават за кожную „вяровачку“, за кожную „саломінку“, за кожны грамадзкі падважнічак які дапамагаў ёй, буржуазіі, усядзець у сядле і разьвіваць магутнасьць капіталістычнае грамады. Яе ўвага *да кожнага* „фактару“ абумоўлівалася яе *гаспадарскім* становішчам. *Пралетарская* „няўважлівасьць“ да гэтых фактараў і перанос асяродку цяжару якраз на тое, ад чаго *ўцякала* буржуазія, абумоўлівалася становішчам пралетарыяту з яго курсам на *ўзрыў* данага грамадзкага ўкладу.

Зусім іншы зварот прымае справа, калі да улады прыходзіць сам пралетарыят. У 1918 годзе тав. Ленін у сваёй брашуры: „Аб чарговых задачах савецкае ўлады“ пісаў:

> „Вядзі акуратна і добрасумленна рахунак грошай, гаспадарнічай эканомна ня гультайнічай, не крадзі, захоўвай самую суровую дысцыпліну ў працы... Практычнае правядзеньне ў жыцьцё гэтых лёзунгаў *савецкаю* ўладаю, *яе* мэтадамі, на аснове *яе* законаў, зьяўляецца неабходным і *дастатковым для канчатковае перамогі сацыялізму*“.

У гэтай невялікай цытаце адбіваецца надзвычайна многа:, і даўныя традыцыі, якія сталі шкоднымі, і новая ўстаноўка, і яе тлумачэньні і шмат іншага. „Прапісная мараль“ простых ленінскіх радкоў была-б простым філістэрствам і буржуазнай драбядзеньню перад заваёваю ўлады рабочаю клясаю. Цяпер яна стала неабходнай прадпасылкай будаўніцтва.

Калі, пасьля першае рэвалюцыі (1905 г.), частка інтэлігэнцыі, якая была ворагам самаўладзтва, раптам прыпала з сьлязамі скрухі да ног гарадавога—пан Пётра Струвэ, галоўны натхніцель „Вех“ выкінуў лёзунг: „саджаць капусту“. Марксыстыя сустрэлі гэты лёзунг у штыкі, бо гэты лёзунг быў лёзунгам будаўніцтва *капіталізму* і ў той-жа час лёзунгам падтрыманьня „адноўленага“ царскага рэжыму. *Па свойму* п. Пятро Струвэ быў, аднак, праў, калі ён *для буржуазнае інтэлігэнцыі* высоўваў „чарговы пароль“: капіталізму патрэбны сталі не Бакуніны, не Лаўровы, нават ня Рудзіны, Граноўскія і іншыя „болбаты“—яму сталі патрэбны людзі буржуазнае справы, якія ведаюць жыцьцё, а ня плаваюць у ваблакох дыму і ўтапічных мар. Але з пункту гледжаньня *пралетарыяту* „Вехі“ п. Струвэ былі „вехамі“ рашучага паваροту да *контр-рэволюцыі*, сталыпіншчыны, да ліквідацыі ўсіх і ўсялякіх ня то што сувязяй, але нават лёгкага флірту з сацыялістычнай ідэалёгіяй.

У *сацыялістычных* колах павінна была аставацца традыцыя, якая апіралася-б на *разбурэньне:* не настаў яшчэ для рэвалюцыйных пралетарыяў час, каб „вясьці рахунак грошам“ і „саджаць капусту“. Усякі прызыў да „станоўчага“, „арганічнага“, „дзелавога“, „цьвярозага“ ня мог не адзначаць капітуляцыі, бясслаўнай здачы, шляху Льва Ціхамірава, пераходу на бок контр-рэвалюцыі, толькі што ўтыкаўшай бязьлікімі шыбеніцамі ўсю тэрыторыю „дзяржавы расійскае“.

Але вось падыходзіць *перамога пралетарыяту*, кардон, рубеж, вялікая гістарычная мяжа. Пралетарыят, як кляса, становіцца на чале грамады. І ён ужо ня можа „жыць і працаваць“ пастарому. Ён—будаўнік і арганізатар. Ён павінен наводзіць пралетарскую *дысцыпліну* і пралетарскі

*парадак.* Ён, пралетарыят, павінен выступіць цяпер застрэльшчыкам і піянэрам працы, „становучае работы“ увагі да „дробязей“ і да ўсіх „фактараў“ грамадзкага разьвіцьця. Гэта *яго,* пралетарыята справа і тэхніка, і аграномія, і мэдыцына, і літаратура, і тысячы іншых галін грамадзкае працы. Ня толькі зарплата, але і цана на цэглу; школьная справа і імпорт селядцоў; электрафікацыя краіны і бяспрытульныя; якасьць прадукцыі і барацьба з бюрократызмам; пасевы пад буракі і элеватары; змычка з сялянствам і якое небудзь пытаньне аб медзяных сетках для папяровай прамысловасьці—і тысячы, сотні тысяч вялікіх, найвялікшых і „дробных“ пытаньняў і пытаньнейкаў ляжаць цяпер на плячох пралетарыяту. Гэты *пралетарыят* павінен адказваць за гаспадарку, умець „гандляваць“, ведаць „рахунак грашам“, клапаціцца аб росьце індустрыі, вышукваць сродкі для новых „асноўных капіталаў“ нашае сацыялістычнае прамысловасьці. Усё гэта намяркоўвае карэнную зьмену поглядаў на вытворчы працэс і на „становучую работу“ наогул. *Сацыялістычны,* камуністычны „дух“ павінен пранікаць „матэрыю“ гэтае работы. Але пасьпяховасьць яе магчыма па толькі, паколькі старыя навычкі і традыцыі будуць адыходзіць на задні плян і зьнікаць. У даўнейшы час нагрубіць адміністрацыі прадпрыемства, наплеваць у актавай залі унівэрсытэту, глядзець скрозь пальцы на сваю работы на фабрыцы—было *формаю пратэсту* супроць рэжыму цара і супроць самаўладзтва капіталу на прадпрыемстве. Ідэалізацыя „разудалых натур“ („шырокая русская натура“), аж да „разбойнікаў“ (хіба ня было таго-ж нават у Нямеччыне, калі фэўдалы трымалі яе за горла,—успомнім хоць-бы „Разбойнікаў“ Шыльлера) выражала сабою пратэст супроць „азыяцкага дэспотызму“ цароў. *Формы* пратэсту былі часам дзікімі ці нават камічнымі. Але яны былі формамі „пратэсту“ і ў гэтым была іх становучая роля. Расейскі рабочы, які з шаленствам адносіўся да ўсіх фабрычных распарадкаў і не богаўвасабляў ні „арганізацыі працы“, ні тэхнікі прадпрыемства, быў палітычна, з пункту гледжаньня рэвалюцыі, шмат вышэй свайго амэрыканскага субрата, больш „культурнага“ ў жыцьці, больш высокага вытворча, але які цалаваў шматзьвёздны сьцяг рэспублікі доляра і які знаходзіўся (і знаходзіцца да гэтага часу) у нявольніцкім палоне—ідэёва-палітычным і агульнакультурным—у свайго клясавага ворага.

Клясавыя *ворагі* і дробнабуржуазная дрэнь гатовы цяпер, апіраючыся на старыя традыцыі, цягнуць нібыта „вольныя“ песьні. Такі быў Есенін у паэзіі. Але характэрна тое, што сіла традыцыі такая вялікая, што нават людзі, якія хочуць ісьці ў нагу з пралетарыятам, зьбіваюцца на гэты шлях і пад відам „барацьбы з мяшчанствам“ ня рэдка прапаведваюць ідэйкі, якія ў нашых умовах і плодзяць мяшчан. Такі вельмі буйны паэта, як Маякоўскі, паэта, які ўтварыў *школу,* які прагрымеў „Левым Маршам“, які пакрыў сваім голасам многіх і многіх,—і той ня раз аддаваў даніну мяшчанству, у нецярплівасьці пацепаючы плячыма з прычыны якіх небудзь няўдач „На літаратурным пасту:“

Если такие, как вы, творцы,
Мне наплевать на всякое искусство.
Лучше *лавочку* открою, пойду на биржу,
Тугими *бумажниками растопырю бока,*
В *пьяной песьне* душу выражу
*В кабинете кабака.*
Под копны волос проникает-ли удар?
Мысль одна под волосища вложена.
Причесываться? На время не стоит труда,
А вечно причесанным быть невозможно.

Хіба гэта ня тыпова мяшчанская ідэалёгія? Хіба гэта не есеніншчына, якая прабралася ў наш лягер? Вядома, гэта яна, нэпманска-

дробна-буржуазна-мяшчанская „навала“, залезла „пад чэрап“ паэту Маякоўскаму, які хоча ісьці ў ногу з пралетарыятам, але кідаецца яшчэ паміж „жалезнай поступ'ю рабочых батальёнаў“ і „п'янай песьняй“ у „габінэце кабака“.

Ці вось вам адносіны да *працы*;

И говорят когда мне, что труд и еще, и еще,
Будто хрен натирают на заржавленной терке,
Я ласково спрашиваю, взяв за плечо:
„А вы прикупаете к пятерке?“

Я знарок узяў Маякоўскага, які даў рэвалюцыі не адзін дзесятак прыгожых рэчаў, які справядліва карыстаецца вялікім прызнаньнем. Маякоўскі ня раз гаварыў і аб *другіх* адносінах да працы, ня раз выпускаў талянавітыя „агіткі“ ў цяжкія часы, заклікаючы да работы, дысцыпліны, парадку. І нават у *такога* паэты мы бачым зрывы і правалы ў анархічнае балота, варочаньне да няпэўных „дабрачыннасьцяй“, якім зусім у нас ня месца, да лёзунгаў і прызываў, якія цягнуць нас ад камунізму ў „габінэт кабака“. Абстрактная „свабода“—падступная жанчына, і пры розных рэжымах яна мае розны твар...

Здавалася-б, што ў наш час гэтыя дабрачыннасьці павінны былі-б даўным даўно зьнікнуць. Але пайдзі-ж ты! Такая ўжо цэпкая ўхватка гістарычнага мінулага, якое стала складаною часткою быту, што старыя, паважаныя, пакрытыя пылам саліднейшай даўнасьці ўпадкі і цяпер яшчэ карыстаюцца правамі грамадзянства.

Гэта, перш за ўсё, заўважваецца ў *адсутнасьці „культуры працы“* і ў знарочным *падкрэсьліваньні* гэтае адсутнасьці. У адсталых (ды ня толькі ў адсталых ува ўласным сэнсе гэтага слова) пластох *рабочых* гэта выражаецца ў тым, што маніфэст ЦВК назваў *нявольніцкім тэмпам работы*. Сотні год прымушалі мужыка—прыгоннага з-пад палкі і бізуна калупаць сахою панскую зямлю. У ненавісных гразных каменных мяшкох майстры, дазорцы, „гаспадары“ выціскалі праз брудную кашулю пот рабочага, гэтага толькі-толькі яшчэ вываранага ў фабрычным катле селяніна.

У нашых „фабрычных“, „майстроўшчыны“

— Мы фабричные ребята.
У нас кудри кудреваты
Есть!—

сацыяльна-клясавая ненавісьць накіроўвалася ў вядомай меры і на вытворчы працэс. Капіталізм не пасьпеў яшчэ „прыручыць“ рабочых, ды ня ўсьпеў яшчэ нават выхаваць у іх вытворчую гордасьць. У царскіх умовах рабочыя—перадавікі былі і не маглі ня быць—проста варожы „будаўніцтву капіталізму“. Тупая прыгонная праца селяніна і „надбудоўка“ модэрнізованае, але ўсё яшчэ страшэнна адсталае працы пралетарыяў былі асновай адпаведнага тэмпу працы. Але гэты нявольніцкі тэмп прыходзіць у зубабойную супярэчнасьць з задачамі *сацыялізму*, які будуецца. Рабочы, перарабляючы сваю ўласную прыроду, павінен зламаць зубы даўнім традыцыям і пратрэсьці ўвесь мяшок старых бытавых рысак, выяўленьняў, норм. На фабрыцы—цыгаркі, хада, перарывы і перабоі ў працы; наплявальніцкія адносіны да сродкаў вытворчасьці, мэлянхолічнае пачэсваньне карку і філёзофскія паплёўваньні—увесь гэты асартымэнт „дарагіх“ „мілых“, „слаўных“ расейскіх рысак, адзетых яшчэ ў пахучае воблака прыгожасьцяй „роднае мовы“ і сівушных пароў („які парадачны чалавек ня п'е?“, „Русі есть веселіе піці, ня можам без таго быці“)—павінны быць узяты, урэшце за шыварат і выкінуты вон. Кожны рабочы ўва ўмовах *пралетарскае дыктатуры* павінен мець сваю вытворчую *гордасьць*, свой *працоўны гонар*. Паблажліва-

скэптычныя адносіны да пытаньняў вытворчасьці павінны ў грамадзкай сьвядомасьці пралетарыяту быць таксама рашуча асуджаны, як асуджалася штрэйкбрэхэрства. „Ідэальны" тып „добрага хлопца" г. зн. „ня дурня выпіць", пагуляць, заламаўшы картуз на патыліцу, падэбошнічаць, „набіць морду", „пакрыць матам", з халадком працаваць і ў выпадку чаго, „даць адпор",— гэты „ідэал" павінен быць духоўна расстраляны. Тупарылыя прыгоньніцкія традыцыі, якія некалі да вядомай ступені былі нават карыснымі, паколькі яны выражалі асабіста пратэст, цяпер зьяўляюцца вялізным тормазам руху наперад.

Англичанин-мудрец,
Что-б работе помочь,
Изобрел за машиной машину.
А наш русский мужик,
Коль работать невмочь,
Он затянет родную „дубину".

Пара кінуць ідэалізацыю „Дубіны", якая ёсьць ня што іншае, як прыналежнасьць ледзьве што не каменнага веку. Усе гэтыя „самабытныя рыскі тэхнікі, фізыалёгіі, быту час ужо хутчэй здаваць у гістарычны архіў. Вельмі добра некалі было апяваць пугачоўшчыну, але пры *савецкай* уладзе яна перад намі стала-б як антонаўшчына. „Цуда-асілкі", якія шыбкім замахам кідаюць у „Волгу—мацъ радную" пэрсідзкую князёўну могуць заставацца паэтычным вобразам, але ня больш таго. *Практычна* нам патрэбны зусім іншыя людзі, цьвярозыя, дзельныя энэргічныя, якія ўмеюць лічыць час і дабівацца максымальнага эфэкту, якія шукаюць новых і новых удасканаленьняў, людзі, якія ідуць цьвёрдымі нагамі з літымі мускуламі да раз пастаўленае мэты. Цяперашняй эпосе патрэбны сьмелы, працавіты, культурны *працоўны баец*.

Рэч вядомая, рафінаваны інтэлегэнцік можа з прычыны гэтага выпадку ўскрыкнуць:

„Вы прапаведваеце, паночку, мяшчанства, залатую сярэдзіну, м-да, мяшчанства".

Ён, гэты мілы інтэлігэнт, можа нават прашапялявіць вядомыя насьмешлівыя радкі з Ніцшэ:

„Мы маем маленькае здавальненейка на дзень і маленькае здавальненейка на ноч. Але мы паважаем здароўе".

Няхай. Няхай Ніцшэ цытуюць абломачкі мінуўшчыны. Непадобны лепшыя людзі нашага часу на ніцшэанскую карыкатуру. Яны неба штурмуюць, а не на ложку ляжаць. Іх „будняя" праца пераворвае ўсю глебу старога сьвету. Рабочыя, пралетарыі могуць вырабіць масы такіх працоўных байцоў. Яны іх *выраблюць*. Яны іх *вырабяць*. Але для гэтага патрэбна сістэматычная ваяўнічая пропаведзь культуры працы, практычныя яе ўзоры, барацьба за гэтую культуру, а не дэмагагічнае папушчальніцтва, распушчэнства, хвасьцізм, панскі, люмпэнскі, ці мяшчанскі індывідуалізм, падыгрываньне пад *дробнабуржуазнае* ідэолёгічнае рызьзё якое яшчэ, нажаль гнязьдзіцца пад чарапамі многіх адсталых членаў нашае клясы.

Вайну з гэтымі даўнімі традыцыямі трэба абвясьціць і *сярод інтэлігэнцыі*. Тут перад намі дзіўная мешаніна панскае абломаўшчыны, разначынска-нігілісцкай балбатні, працоўнай няпісьменнасьці і г. д. Калі слашчавы лібэрал Іван Сяргеявіч Тургенеў зьдзекваўся над „гурткамі"—

Jedoch das Schrecklichste der Schrecken
Das ist ein „Кружок" in der Stadt Moskau

[1]) „Самае жахлівае з усіх жахаў—гэта кружок у горадзе Маскве". Я цытую на памяць, бо няма пад рукою Тургенева. Зварочваю ўвагу чытачоў на мэмуары *Панаевай*, якая выдатна малюе гэтага пана і якая выкрывае такія кнігі, як апалёгію Тургенева, якая нядаўна выпушчана праф. *Грэйсам* (аб Тургеневе і Віярдо).

дык ён выходзіў з ненавісьці да больш левых, чым ён сам, груп. Але калі гаварэньне на пустым хаду, чаяваньне. п'янства ідэёвае сваавольства, „прынцыповае" адмаўленьне рацыяналізацыі быту і працы і г. д., пачынае гудзець у вушы *цяпер*, трэба гэтыя рыскі душыць, як агідную сабачую муху. У XIX стагодзьдзі Расія дакацілася да таго, што адзін з яе найгэніяльнейшых людзей Леў Талстой дагаварыўся да адмаўленьня навукі. Але гэта было таму, што пан і граф, які апрасьціўся „рабіў" боты толькі для свае ўласнае пэрсоны. Ён хутка пазнаў-бы каштоўнасьць навукі, машыны, тэхнікі, калі-б яму прышлося сапраўды працаваць, а ня „думаць аб богу", працаваць, каб жыць, а не для „ратунку душы". Вялікая і багатая была Русь, і ўсякае ўсячыны было ў ёй даволі многа. Астаткі гэтай акрошкі ляжаць яшчэ цяжарам на нашай савецкай інтэлігэнцыі ў выглядзе руціны, разгільдзяйства, балбатні аб „высокіх матэрыях" (без належнага разуменьня прадмету), абломаўшчыны, прыгожадушнай абывательшчыны і абывательскага прыгожадушша. А якраз цяпер-ось і трэба ўмець „саджаць капусту", толькі саджаць яе так, каб з яе рос *сацыялізм*, а не капіталізм Пётры Бэрнгардавіча. Нажаль, трэба сказаць, што наша моладзь, асабліва „піітычная", а за ёю і другая, аж да камсамольцаў, з стараньнем, вартым лепшага лёсу, цягне сябе ў *палон* даўніх традыцый, прычым, гэтае паланеньне можа быць даволі дакладна выражана ў лічбах шляхам звычайнага падліку акуркаў і пляўкоў на падлозе хоць якой вялікай аўдыторыі.

Пралетарыят і ўсе, хто з ім ідзе, павінны абвясьціць бязьлітасную вайну гэтым даўнім навычкам і прывычкам таксама рашуча, як ён абвясьціў вайну нявольніцкаму ладу капіталізму. Нельга забываць ні на адну хвіліну аб тым, што мы павінны перарабляць сваю ўласную прыроду. „Няма чаго скардзіцца на люстэрка, калі морда крывая". У нас яна яшчэ, нажаль „крывая", хоць ужо многае зроблена для таго каб яе паправіць. Трэба толькі адмовіцца ад сарамлівых ухіленьняў ад пытаньня, *а біць, біць і яшчэ раз біць* ворага, нават калі ён сядзіць пад нашымі ўласнымі чарапамі.

„Яны (дробныя буржуа М. Б.),—пісаў Ленін,—абкружаюць пралетарыят з усіх бакоў дробнабуржуазнай навалай, прапітваюць яго ёю, уцягваюць у распусту, выклікаюць заўсёды ўнутры пралетарыяту рэцыдывы дробнабуржуазнае бесхарактэрнасьці, раздробленнасьці, індывідуалізму, пераходаў ад захапленьня да смутку. Дыктатура пралетарыяту ёсьць упартая барацьба, крывавая і бяскроўная, насільніцкая і мірная, ваенная і гаспадарчая, пэдагагічная і адміністрацыйная, супроць сіл і традыцый старое грамады. *Сіла прывычкі мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў—самая страшная сіла*".

„Сілу прывычкі" мы павінны разьбіць у імя тае найвялікшае будучыні, за якую змагаецца пралетарыят.

---

**Праф. М. М. Піотуховіч**

# Творчасьць Цішкі Гартнага

*(Лірыка і мастацкая проза)*

Творчасьць Цішкі Гартнага сваімі вытокамі ўсходзіць яшчэ да нашаніўскага, дарэвалюцыйнага пэрыоду беларускай літаратуры.

У 1913 г. у Пецярбурзе вышаў першы зборнік яго лірычных твораў пад назвай „Песьні“, дзе Цішка Гартны выступае пераважна як пясьняр асабовых, індывідуальных перажываньняў: 3/4 зборніка займаюць „Песьні каханьня“ і потым „Жальбы і жаданьні“; разьдзел „Песьні працы“ таксама грунтуецца на асабовай аўтабіяграфічнай падставе („Песьні гарбара“, „Гарбар на вандроўцы“ і інш.).

Шчыры лірызм, выцякаючы непасрэдна з самага сэрца, уяўляе сабою дадатны бок гэтых першых песьняў Цішкі Гартнага, але ідэёвы бок іх вызначаецца вузкасьцю: ён вычэрпваецца двума матывамі—матывам працы і свабоды, пры чым свабода бярэцца як нейкае адцягненае паняцьце; пясьняр сам гаворыць:

Я ўбачыў яе здалёк
Сярод ночы цямлівай, глухой,
Убіраўшай яе ў цёмны змрок
І пяяўшай літаньне над ёй
(„Свабода“).

Калі свабода зрабілася фактам, калі адбылася рэвалюцыя, яна акрыліла сабой музу песьняра; зьявіліся новыя крыніцы яго творчасьці, з гэтых жыватворчых крыніц выцякаюць „Песьні працы і змаганьня“ (Бэрлін, 1922 г.[1]).

Тут дыапазон творчасьці паэты робіцца значна шырэйшым. „Песьні працы“ тут грунтуюцца ня толькі на аўтабіяграфічнай аснове: апроч працы гарбара, якая была знаёма Гартнаму па асабістай спробе, тут абмалёўваюцца і іншыя працоўныя працэсы („Каваль“, „Ткачыха“, „Песьня жняі“, „Касьба“ і інш.); кола назіраньняў паэты значна рассоўваецца.

Узятыя ў цэлым песьні першага разьдзелу ўяўляюць сабою натхнёны гымн працы: у іх адбіта псыхалёгія працоўнага чалавека, абмалявана трагэдыя беспрацоўя, якое нясе з сабою ня толькі матар'яльныя але, галоўнае, і маральныя пакуты. „Гарбар на вандроўцы“ адчувае сябе лішнім чалавекам, сілы якога марна гінуць, і ён кажа:

Няма працы... Цяжка гэта
Мне цярпець бяз меры,
Бо ў ёй зоў мой, мая мэта,
У ёй спадзеў і вера.

[1]) Гэтаму зборніку пасьвечаны наш артыкул „Пралетарская паэзія і лірыка Цішкі Гартнага“ (юбілейны зборнік у гонар паэты). З гэтай прычыны мы ня лічым патрэбным падрабязна спыняцца на першым этапе творчасьці Гартнага.

Лепшымі ў зборніку зьяўляюцца яго „Песьні змаганьня“; яны пасьвечаны сучаснасьці, у іх выявілася захапленьне песьняра рэвалюцыяй; яго радасьць перамогі ў цяперашнім і ўпэўненасьць у будучыне: бадзёры ўздым барацьбіта і жыцьцёрадасны аптымізм рэвалюцыянэра ахварбоўваюць сабой „Песьні змаганьня“ — Цішка Гартны выступае тут, як пясьняр Кастрычніка.

Далейшы, і пры гэтым найбольш значны, крок наперад у разьвіцьці мастацкай лірыкі поэты прадстаўляе сабой яго трэці зборнік „Урачыстасьць“ (Менск, 1925 г.).

У Цішкі Гартнага заўжды зьяўляюцца характэрнымі самыя назвы яго зборнікаў, яны заўжды трапна зазначаюць галоўны тэматычны напрамак таго ці іншага зборніку, падкрэсьліваючы яго асноўныя рысы і асаблівасьці.

„Песьні“ гэта проста песьні бяз пэўнай тэматычнай устаноўкі ў цэлым. „Песьні працы і змаганьня“ тут ужо самая назва выяўляе два тэматычныя колы, якія абхопліваюць сабой зьмест данага зборніку. Назва трэцяга зборніку таксама вельмі адпавядае яго агульнаму характару. Тут сапраўды выяўлена „Урачыстасьць“ — успрыяцьце жыцьця як чагосьці сьвяточна пекнага, прыгожага і адначасьне ўзвышанага.

У зборніку дзьве часткі, арганічна адна з другой зьлітыя: „Урачыстасьць рэвалюцыі“ і „Урачыстасьць жыцьця“. У першым разьдзеле знашоў сабе вышэйшы выраз рэвалюцыйны патос аўтара. Гэты патос яшчэ больш уздымаецца, у параўнаньні з папярэднім зборнікам, дасягаючы тут свайго кульмінацыйнага пункту, даходзячы часам да нейкага экстазу ў захапленьні сучаснасьцю. Пекна рэвалюцыя ў сваім развою:

Яна ідзе
Ў зялёнай пышнай руні,
Ў развойным шумным веснаходзе —
На стрэчу царственнай свабодзе,
Ў абдым сьветлае Камуны.

(„Яна ідзе“).

Рушыцца стары сьвет, але ў гэтым разбурэньні ёсьць свая прыгожасьць, як ёсьць яна ў бурнай навальніцы. Атмасфэра катаклізмаў, зрухаў, родная стыхія паэты, гэтую стыхію ён называе сваёй, кажучы аб ёй:

Ў буры, ў навальніцы,
Ў громе, ў бліскавіцы,
У сіберным гуку
Ветранае сілы,
Ў хваляваньні міра,
Ў калыханьні бору —
Многае мне міла,
Многае мне блізка.

(„Мая стыхія“).

Бадзёра і ўпэўнена глядзіць паэта на будучыню: нішто ня можа спыніць стыхійнага руху рэвалюцыі, ніхто ня можа кола гісторыі зьвярнуць назад. Самыя цяжкія няўзгоды, як, напрыклад, падзел роднае краіны, гэта толькі часовая зьява, толькі часовыя плямы на агульным сьветла-пераможным шляху рэвалюцыі:

Ня скрыць сузор'яў цемні ночы,
Вясны марозу ня спыніць.

Вечнае для паэты ў тым, што „ўперадзі сьвецяць — агні“, на сустрэч гэтым агнём імкнецца муза песьняра.

Такі даецца ў Цішкі Гартнага сынтэтычны малюнак рэвалюцыі ў яе пераможным і нясупынным развою—малюнак, абагрэты настроем бадзёрага ўздыму з боку аўтара. Але часам гэты агульны сынтэтычны вобраз разьбіваецца на часткі, паэта зарысоўвае дробныя праявы сучаснасьці, выхапляе з яе паасобныя кавалкі жыцьця, з якіх складваецца колёрытнае цэлае нашых дзён. Паэта, напрыклад, вітае зьезд саветаў, абмалёўвае сельскі мітынг, з любоўю спыняецца на вобразе рабфакаўца, які грызе „граніт навукі“, упарта і рашуча змагаючыся з рознымі перашкодамі на шляху вучобы.

Тэматыка разьдзелу „Урачыстасьць рэвалюцыі“, такім чынам, прадстаўляе сабою часткова далейшае пашырэньне і паглыбленьне тэм, якія ўжо намячаліся ў песьнях змаганьня. І там паэта апяваў стыхійны размах рэвалюцыі, яе нясупыннасьць, яе пераможны развой, і там зарысоўваліся дробныя мініатуры, выхапленыя з сучаснай рэчаіснасьці. Але дыапазон творчасьці ў зборніку „Урачыстасьць“ значна шырэй. Пясьняр выходзіць тут за межы Беларусі і Савецкага Саюзу. Ён часткова занатоўвае свае ўражаньні ад падарожжа ў Нямеччыну. Поглядам паэты-пралетарыя акідвае ён сучасны Бэрлін, пад мішурнай абалоньню, поўнай знадворнага бляску, ўглядае ён тут хваравітае нутро, якое разьядаюць унутраныя сацыяльна-клясавыя супярэчнасьці.

Але вартасьць зборніку заключаецца ня толькі ў гэтым топографічным пашырэньні творчасьці паэты; галоўная асаблівасьць „Урачыстасьці“ месьціцца ў тым, што тут больш сакавітай і яскравай зьяўляецца эмацыянальная афарбоўка рэвалюцыйных тэм; тут выяўляецца сапраўдная пралетарская эстэтыка песьняра, эстэтыка рэалістычная, далёкая ад якой-небудзь містыкі, ад якога-небудзь імкненьня ў невядомыя далі. У сучаснасьці, у пераможным разьвіцьці рэвалюцыі, поэта знаходзіць свой вышэйшы ідэал хараства. Але сучаснасьць, гэта толькі асноўны адпраўны пункт эстэтыкі Цішкі Гартнага. Праменьні хараства рэвалюцыя, праламляючыся ў сузнаньні паэты, адкідвае далёка ад сябе на ўсё існуючае, і ўвесь космос, уся прырода перад зрокам паэты-барацьбіта прадстае ў сваім сьвяточным убраньні. Так арганічна нараджаецца другі цыкль зборніку „Урачыстасьць жыцьця“, які стаіць у цеснай сувязі з першым цыклем „Урачыстасьць рэвалюцыі“. Паэта моцна адчувае хараство прыроды, яго вабяць да сябе чары ночы, чары вясны; ён імкнецца як-бы растварыцца ў бяздоньні прыроды, зьліцца з ёй, адсюль гэта прызнаньне:

Ў маёй душы—любові мора  
Да вас, зялёныя гаі,  
Да вас, міргаючыя зоры,  
Да вас, захмарныя краі.  
Вялікай сілай сьветавою  
Мая істота ўся гарыць  
І прагне сэрца маладое  
З прасторам вечным крэпка зьвіць.

Але Цішка Гартны далёкі ад ідылічнага сузіраньня прыроды; яна сваім адвечным рухам адбуджае сугучныя настроі ў душы паэты; дзівы і чары прыроды клічуць яго не да супакаю і цішы, наадварот, яны

Трывожаць душу, родзяць зовы,  
Ляцець-ляцець, зьнябыўшы жаль,  
Шукаць красы, ва-векі новай,  
Здымаць заслону з цёмных даль...

Лятаць і сэрцам гартавацца
Ї душу ўзмоцніваць ў агні,
Каб сілу мець ва-век змагацца
За волю й шчасьце на зямлі.

Такім чынам прырода адбуджае ў песьняра імкненьне да напружанага жыцьця, такога-ж поўнагучнага і шырокага, як паўнагучны і шырокі рытм космоса. У сфэры грамадзкай мы бачылі—у паэты адбуджаецца смага барацьбы, у роўніцы асабовай этыкі ў яго ўзьнікае імкненьне да жыцьця, багатага зьместам. Парука гэтага багацьця,—імкненьне ва ўсё новыя і новыя далі; паэта ня любіць спыненьня, само слова „годзе“ для яго нешта сібэрнае, бо там, дзе пануе гэта „годзе“—там холад застою, духоўнага закасьцяненьня, там холад магілы; паэта, наадварот, прагне.

... быць там, дзе дрыжыць калыханьне жыцьця,
Дзе нябачны, а моцны развой яго ходзе.

(„Зьлітасьць“)

У другім месцы ён кажа:

Душой шчасьлівы, палкі сэрцам
Хачу я жыць, *кіпуча* жыць.

Гэтае кіпучае жыцьцё мысьліцца, як жыцьцё сугучнае прыродзе; у паэты зьяўляецца жаданьне „белым матылёчкам, лёгкім ды вяртлявым“ аблятаць зялёныя прасторы, калыхацца за адно з „ветрыкам нячутным“, крылатай птушкай насіцца „ў моры праменнага сонца“ і г. д.

У Цішкі Гартнага, такім чынам, мы знаходзім некаторы выраз космізма, гэтай асобнай настраёвасьці зьліцьця з сусьветам, якая была ўласьціва шмат якім пралетарскім паэтам сучаснасьці і выклікала адмоўную ацэнку з боку некаторых крытыкаў (Варонскі, Дубоўскі, Троцкі і інш.), але косміз Цішкі Гартнага далёкі ад містычнага парыву да бязьмежнага, ён пазбаўлены элемэнтаў надзвычайнага гіпэрбалізму і штучнага патосу („візгізму“, па іранічнай тэрміналёгіі Дубоўскага) і ўцёкаў ад жыцьця; гэты космізм носіць у беларускага песьняра больш натуральны характар і вытрыманы больш у рэалістычных, чым фантастычных танох. Космізм Цішкі Гартнага гэта свайго роду мастацкае сьветаадчуваньне, узьнікаючае на глебе рэальнага адушаўленьня прыроды і зьліцьця з ёй чалавечай асобы. Такое сьветаадчуваньне паэты ў сваю чаргу прадстаўляе сабой скутак яго эстэтыкі і этыкі. Эстэтыка песьняра характарызуецца, як мы бачылі, захапленьнем яго пекнасьцю рэвалюцыі і пекнасьцю сусьвету, этыка паэты выяўляецца ў яго імкненьні да напружанага і шырокага жыцьця—жыцьця інтэнсыўнага і экстэнсыўнага, кажучы словамі Гюйё. Такім чынам радасьць быцьця—вось той цэнтральны пункт, дзе сходзяцца паасобныя ніткі эстэтычнай і этычнай настраёвасьці Цішкі Гартнага. Як натуральны вынік гэтай радасьці быцьця, якая перапаўняе сабой усю духоўную істоту песьняра, зьяўляецца косміз паэты: віно хмельнай радасьці выплёскваецца з сваёй чары, паэта адчувае сябе часткай цэлага.

Але ня толькі ў разрэзе эстэтычным і этычным выяўляецца ў зборніку „Урачыстасьць“ паэтычнае сьветаадчуваньне Цішкі Гартнага: яно выяўляецца тут і ў разрэзе онтолёгічным, агульна філёзофскім.

У поэзіі Цішкі Гартнага мы знаходзім некаторыя адзнакі дыялектычнага погляду на сьветабудову. Для песьняра нічога няма застыўшага, акамянеўшага; для яго прырода і жыцьцё гэта не статыка, а бяссупынны рух, бяссупынная дынаміка. Усё, уключаючы і псыхічныя зьявы, для яго гэта толькі

Нязжытое праяўленьне
Сілы творчай ў *вечным лёце*,
Што захована ў істоце
Размаітага тварэньня.

(Мая хата—пастаць нівы...).

Так падстава космоса для Цішкі Гартнага гэта творчая,сіла ў вечным лёце: panta rei, усё цячэ,усё зьмяняецца; жыцьцё гэта працэс, і прычым працэс, які разьвіваецца з супярэчнасьцяў. Выходзячы з такіх поглядаў на жыцьцё, як дыалектычны працэс, паэта трапна асьвятляе некаторыя вобразы прыроды. Напрыклад, колькі паэтаў усьпявалі восень, як смутную пару году! Накідваць на восень змрочны флёр жалобы зрабілася свайго роду трафарэтам у поэзіі. У беларускай творчасьці, напрыклад, Алесь Гарун рысуе восень заўжды ў змрочных фарбах, гаворачы аб ёй

Восень халодная, чорная, хмурая,
Сунеціа ціха, нячутна, штодзень.
Хварбы наўкола паклала панурыя,
Сонца хавае за чорную цень.

Янка Купала зьвяртаецца да восені з такім трагічным зваротам:

Восень панурая, восень маўклівая,
Страшна ты чуткаму сэрцу душы.

У расійскай паэзіі нават Пушкін, для якога, як вядома, восень была ўлюблёнай парой году, назваўшы яе „очей очарованьем" пасьпяшае дадаць і іншы смутна кантрастны эпітэт: „Унылая пора".

Для большасьці паэтаў восень гэта як-бы спыненьне жыцьця; для Цішкі Гартнага, які ўглядае ў прыродзе бязупынны рух, бызупынны працэс разьвіцьця з супярэчнасьцяй, восень толькі адно зьвяно ў гэтым даўгім ланцугу супярэчнасьцяй; паэта гавора:

Мне кажуць: восень—заміраньне,
Жуды глыбокай час ўрачысты...
А я кажу: хто глыбей гляне,
Той жыцьця ўгледзіць промень, іскры.

І ў цэлым шэрагу папярэдніх вобразаў зялёнай руні, палёў, „хмар мяккіх", „шоўку шамкага", „пухкіх лісьцяў" і г. д. пясьняр выяўляе гэты жыватворчы промень.

Але, углядаючы ў жыцьці прыроды такі бязупынны працэс, Цішка Гартны бачыць у ім цесную арганічную сувязь паасобных частак і зьяў. У дадзенай галіне, як і заўжды, паэтычныя вобразы прадстаўляюць сабой вынік пэўнай сыстэмы сьветаадчуваньня песьняра і яго сацыяльнай існасьці. Паэта-індывідуалісты заўжды ўглядае і ў навакольнай прыродзе пераважна адмяжованасьць, спыняецца на абмалёўцы ізаляваных зьяў і прадметаў. Такі паэта з замілаваньнем абрысоўвае адзінокі месячык на небе, адзінокія зоркі, самотныя хмары—вобразы таксама зрабіўшыяся шаблёнам у паэзіі. У зусім інакшым аспэкце прадстаўляецца прырода зроку паэты—калектывістага: ён пераважна ў знадворным сьвеце будзе ўглядаць злучнасьць і зьлітасьць рэчаў. Напрыклад, ва ўспрыяцьці пралетарскага паэты Самабытніка зоркі—гэта колектыў неба, які змагацца з цемрай („Моим собратьям"). Кірылаў усьпявае „Голубых созвездий созвон", у паэзіі Казіна ўвесь космос прадстаўляецца, як „сінекаменный завод", дзе сонца, хмаркі, маланка і ўсё іншае пра-

цуюць, як людзі. Цішка Гартны таксама назірае ўзаемную злучнасьць і зьлітасьць рэчаў. Ён далёкі ад таго, каб усьпяваць адзінокі месячык і адзінокія зоркі; у яго, наадварот.

Цеснай роднай сям'ёй,
Зоркі з неба ўсяго
Міргацяць над зямлёй.

(„Начныя чары")

У другім месцы сонца выступае ў Цішкі Гартнага, як барацьбіт які змагаецца з цемрай („Каля бору сонца ходзіць") і мастацкая ўвага яго, далей, спыняецца на сузор'ях, якіх „Ня скрыць цемні ночы" і інш.

Так зборнік „Урачыстасьць" уяўляе сабой яскравы выраз бадзёрага сьветаадчуваньня песьняра, які ўглядае ўсюды рух, дынаміку барацьбы і адначасьне ўзаемную сувязь рэчаў. Працяты такімі бадзёрымі настроямі Цішка Гартны адгукваецца на ўсё пекнае і прыгожае: і рэвалюцыя, і прырода, і ўсё жыцьцё ў цэлым прадстае тут у сваім сьвяточным убраньні, нават народная фантастыка не абойдзена паэтай: у яго выступаюць цені

Доўгакосых,
Тоўстаносых,
Цёмнатварых,
Грозных, ярых
Лясуноў.

На зьмену ім вынікае іншая, больш пекная зьява:

Шнуруюць скокам ёмкім
Німфы-ведзьмы, фэі-панны,

Рэчаіснасьць і фантастыка, праўда жыцьця і мара, такім чынам, прадстаюць тут у Цішка Гартнага ў адзіным абагульняючым сынтэзе.

Ня толькі тэматыка лірыкі Цішкі Гартнага значна пашыраецца зборнікам „Урачыстасьць": тут заўважваюцца пэўныя дасягненьні і ў галіне фармальна-мастацкай, галоўным чынам у галіне эўфоніі і рытмікі. Цішка Гартны прадстае тут у новай зусім постаці музычнага песьняра, які трапным злучэньнем асонансаў і алітэрацый можа ўтвараць сапраўдныя гукавыя мэлёдыі. Напрыкад, яго „Сымфонія", сапраўды прадстаўляе сабой музычны твор:

Мята, рожа, півонь,
Вішань сьвежых чырвонь—
Пах, мілаваньне...
Ветру павей у лістках,
Дрэўцаў ціхенькі ўздох—
Рух, калыханьне.

Тут і рытм, і самы падбор гукаў, і злучэньне рыфм усё робіць музычнае ўражаньне.

Цішка Гартны шукае новых для сябе рытмаў, у якіх можна было-б адбіць наш хуткабежны час. І сапраўды, некаторыя яго вершы адбіваюць рытм працы і рытм барацьбы. Яго верш „Праца" перадае грукат і вярчэньне „процьмы кол", якія

Нясупынна,
Стройна, чынна
Ўюць кругі чарадою.

Трапныя гукавыя вобразы тут сапраўды даюць нам уяўленьне таго, як

Шасьцярні
мятусяцца,
Імчацца
Стралою
Пасы.

Другі прыклад: у вершы „Яна ідзе“ ў самым рытме мы сапраўды адчуваем цьвёрдыя крокі Рэвалюцыі, якая ў полымі барацьбы ідзе ўперад.

Форма, такім чынам, Цішкі Гартнага вельмі часта адпавядае зьместу. Пясьняр руху, дынамікі знаходзіць адпаведныя рытмы, якія адбіваюць гэтую дынаміку; „Урачыстасьць“ уяўляе сабою мастацкае цэлае.

Але постаць лірыка гэта толькі адзін бок мастацкай істоты Цішкі Гартнага; другі бок яго—гэта постаць бэлетрыстага. У разьвіцьцё беларускай мастацкай прозы пісьменьнік унёс значны скарб; яго пяру належаць: зборнік апавяданьняў „Трэскі на хвалях“ (Менск, 1924 г.); вялікі раман „Сокі цаліны“, выйшаўшы пакуль што ў дзьвюх частках (1 ч. „Бацькава воля“, Бэрлін, 1922 г. і 2 ч. „На перагібе“, Менск, 1926 г.), нарэшце, астатні зборнік „Прысады“ (Менск, 1927 г.).

На кожным з гэтых твораў мы спынімся паасобку.

З пачатку зборнік „Трэскі на хвалях“. Сам аўтар дае нам тлумачэньне назвы гэтага зборніку. Сэнс вобразу расчыняецца ў перажываньнях гэраіні апавяданьня „На новым месцы“. Акіліна, кажа аўтар, „стала цёсачкай, якая плавае на бурных хвалях, якой залежыць ад чужой волі быць піхнутай на дно, ці выхапленай“ (стар. 243).

Вобразная назва зборніку выяўляе такім чынам пэўную концэпцыю жыцьця: людзі гэта трэскі на магутных і бурлівых хвалях жыцьця. Адны з іх пакорна плывуць па цячэньні, другія змагаюцца. Адсюль у зборніку дзьве істотных тэмы: пакуты людзей і іх барацьба.

Галоўныя прычыны людзкіх пакут хаваюцца ў ненармальных сацыяльных умовах старога ладу жыцьця. І вось, перад намі ў апавяданьнях зборніку выступае даўгі шэраг пакутнікаў, якія зрабіліся ахвярамі гэтага ладу, поўнага супярэчнасьцяй. Вясковы хлопчык Янка, ня выносіць зьдзекаў на панскай службе і канчае самагубствам („Лайдак“): сумленны Антось Ступа, які ня можа справіць вялікоднай каробкі, у ваччу якога ўвесь час стаяць галодныя тварыкі дзяцей, лютай беднасьцю даводзіцца да злачынства: ідзе красьці („Вялікодная каробка“). Тэма гэтага выпадковага злачынства, раней зачэпленая Якубам Коласам у творы „Малады дубок“ і Зьмітраком Бядуляй у апавяданьні „Сярод ночы“, у Цішкі Гартнага разгарнаецца на фоне сьвяточнага побыту, і такі фон яшчэ больш адцяняе трагічнасьць становішча гэроя, напрыклад, вельмі трапна перададзены перажываньні Антося Ступы ў вялікодную ноч... „Чулася навокал нейкая ўрачыстасьць, але на душы Антося было брыдка: ён ішоў на звон, пакінуўшы ў дому засмучаную жонку і пакрыўджаных дзетак. Уся ўрачыстасьць была для яго ня толькі чужою, а нават і варожаю. Гэта адчуваў Антось з таго моманту, калі высьнілася, што яму падышоўшае сьвята прынясло многа дарэмных клопатаў і нарушыла ўложаную хаду жыцьця. Чуючы звон і бачачы сьвяточны рух, ён даходзіў да злосьці і праклінаў сваё жыцьцё і грамадзянскі лад. Антося дзівіла ўся заблытанасьць і супярэчнасьць яго, якая выглядала перад ім ува ўсёй сваёй прыкрасьці. Вялікае сьвята для адных другім цяжкая мука і клопаты. Чаму яно так?“ (стар. 19—20). У другім апавяданьні пісьменьнік малюе абяздоленую сям'ю, якая пакінута бацькам,

дзе маці зрабілася распусьніцай. У душы маленькай дачкі Алесі сьпеюць пачуцьці абурэньня і злосьці супроць свайго айца-вінавайцы ўсіх няшчасьцяў („Распусьніца“). Гэты вобраз няшчаснай жанчыны, якая вымушана акалічнасьцямі жыцьця прадавацца за грошы, зьмяняецца вобразам беспрацоўных, якія бадзяюцца па сьвеце, шукаючы работы, і ў якіх бязьлітасны лёс аднімае астатні промень надзеі („Шукаючы працы“).

Так у абмалёўцы Цішкі Гартнага людзі—трэскі на хвалях; такімі хвалямі, папершае, зьяўляюцца жалезныя законы эканомікі: беднасьць, сацыяльныя супярэчнасьці парушаюць нармальны лад жыцьця і зьяўляюцца галоўнымі крыніцамі людзкіх пакут, яны руйнуюць нармальныя адносіны паміж бацькамі й дзецьмі, яны даводзяць да злачынства, самагубства і распусты, пераварачаюць людзей у бяздомных бадзяг.

Але пісьменьнік далёкі ад фаталізму, у яго мы хутчэй знаходзім здаровы дэтэрмінізм. Чалавечыя ўчынкі абумоўлены знадворнымі акалічнасьцямі, але мажліва перамога, шлях да гэтай перамогі—шлях барацьбы. Адсюль у творчасьці Цішкі Гартнага арганічна вынікае матыў барацьбы, гэты матыў выяўляецца ў яго ў розных аспэктах. Пісьменьнік, папершае, абмалёўвае нам барацьбу ўнутраную, якая адыгрываецца ў псыхіцы чалавека, ён вельмі трапна ўскрывае розныя душэўныя колізыі і сутычкі. Напрыклад: ён паказвае нам, як у душы Антося Ступы ўвесь час змагаюцца здаровае сумленьне і пачуцьцё жаласьці да дзяцей, як у душы штрэйкбрэхера ўступаюць у сутычку таварыскі доўг, працоўная салідарнасьць і той-жа бацькаўскі інстынкт („Штрэйкбрэхер“). Малюнак унутранай барацьбы разгарнаецца і ў іншых апавяданьнях пісьменьніка. У апавяданьні „Больш за ўсіх“ паказана барацьба ў душы гэроя Платона Кічкі паміж рэволюцыйным доўгам і пачуцьцём любасьці да хворай і канаючай маці; у апавяданьні „Помста“ маем сутычку паміж рэвалюцыйным гэраізмам і жыцьцёвай драбязговасьцю; на працягу досыць вялікага твору „Панкел Ліпа“ праведзена драматычнае колізыя паміж доўгам чырвонаармейца і іншымі рухамі душы, адцягваючымі гэроя апавяданьня ад гэтага доўгу і схіляючымі да здрады рэвалюцыі. У Панкела, па словах аўтара, „душа раздвоілася і паміж дзьвюма яе часткамі ўзгарэлася барацьба, якая пачала мучыць Панкела, - дратаваць усю яго істоту. Страшныя вобразы—зданьні і мары-выгляды панесьліся перад ім. Панкел раз-за-раз зрабіўся бязмоцнай трэсачкай на ўздыме іхніх бурных хваль, бязвольным і бязмоцным стварэньнем (стар. 94). Нарэшце, у апавяданьні „на новым месцы“ дадзена напружаная барацьба жаночага доўгу і пачуцьця каханьня; на фоне гэтай барацьбы выяўлены дзьве тэмы—тэма жаночай здрады, adulter‘a і тэма рэўнасьці, цёмнай і бязглуздай па сваіх вытоках.

У Цішкі Гартнага, такім чынам, псыхіка чалавека абмалёўваецца за звычай, як арэна барацьбы паміж сьветлым і цёмным пачаткам; аголеная ад свайго канкрэтнага зьместу, гэта ў канчатковым выніку барацьба розуму і пачуцьця, сьветлага доўгу і цёмнага інстынкту.

Другім аспэктам, у якім выяўлена ў Цішкі Гартнага тэма барацьбы, зьяўляецца аспэкт знадворнай сацыяльнай барацьбы: рэвалюцыя і зьвязаная з ёй грамадзянская вайна знайшлі ў Цішкі Гартнага мастацкі адбітак.

Зарысоўкі рэволюцыйных праяў вызначаюцца ў Цішкі Гартнага сваёй многаграннасьцю і рознастайнасьцю. Напрыклад, паказаны ўплыў рэвалюцыі на хатні сямейны побыт, зачэплена тэма бацькоў і дзяцей: у апавяданьні „Спатканьне“ ў асобе Агаты абрысаваны новы тып жанчыны, у якой ужо выяўляецца сваё асабовае „я“, якая вызваляецца з-пад

сямейнага ўціску бацькоў і сваё жыцьцё імкнецца пабудаваць паводлуг запатрабаваньняў свайго сэрца З асаблівым замілаваньнем спыняецца пісьменнік на абмалёўцы гэраічнага боку рэвалюцыі. Так, у апавяданьні „Сымонка інжэнэр“ гэты гэраізм выступае ў сваім трагічным асьвятленьні: у барацьбе з белапалякамі гіне бацька, і разам з ім гіне яго маленькі сынок, які імкнецца насьледаваць дарослым і таксама захоплены рэвалюцыйным настроем; на фоне трапна схопленай дзіцячай псыхолёгіі з яе інстыктам насьледаваньня паказаны тут сумны і адначасьне вялічавы кавалак жыцьця. Той-жа гэраічны воблік рэвалюцыі выступае перад намі і ў апавяданьні „Дойдзем сынок“, дзе перададзены просты і ў сваёй прастаце патрасаючы эпізод грамадзянскай вайны, у час якой маці-сялянка з сваімі 6 гадовым маленькім сынам пакідае вёску і йдзе ў сьвет, абы толькі не апынуцца ў руках белапалякаў.

Выяўлена ў Цішкі Гартнага і руйнуючая стыхія рэвалюцыі, але аднак, паказана, як на гэтых руінах расьце загартаванасьць у барацьбе („На руінах“), расьце сьвежая рунь новага. Так у апавяданьні „На новым месцы“ абмалёвана і будаўнічая стыхія рэвалюцыі: тут у асобах мэханіка і кіраўніка саўгасу зарысаваны тыповыя фігуры савецкіх працаўнікоў, якія шчыра аддадзены сваёй справе, захоплены будаўніцтвам новай гаспадаркі на асновах калектывізму.

Але побач з такімі дадатнымі тыпамі паказаны і адмоўныя, выяўлены асобы, якія самотна стаяць здалёк ад вялікага гасьцінца жыцьця. Такой асобай зьяўляецца, напрыклад, шляхціц у апавяданьні „Бягунец“: ён ухіляецца ад барацьбы, уцякае ад бальшавікоў. Такім зьяўляецца далей Сідар Браварка ў апавяданьні „Трэскі на хвалях“, дзе абмалёвана расслаеньне ў шэрагах інтэлігэнцыі і на фоне гэтага расслаеньня паказана, што Сідары Браваркі, ухіляючыся ад сучаснай будаўнічай працы, зьяўляюцца трагічнымі самотнікамі,бязьлітасна асуджанымі гісторыяй.

Ня цяжка, такім чынам, заўважыць, што зборнік „Трэскі на хвалях“ вызначаецца цікавым зьместам; у ім знашоў сабе выраз цэлы шэраг актуальных псыхолёгічных і сацыяльных тэм: барацьба ўнутраная і барацьба знадворная, прамяністае сьвятло сучаснасьці і разам некаторыя цёмныя плямы на ёй—усё гэта ўвабрала ў сябе мастацкая проза пісьменьніка.

Але прыходзіцца канстатаваць, што гэтай рознастайнасьці тэматыкі не адпавядае форма: фармальна-мастацкія сродкі пісьменьніка ў дадзеным зборніку адстаюць ад зьместу яго творчасьці.

Папершае, у галіне кампазыцыі заўважваецца вялікая расьцягнутасьць. У пісьменьніка пераважае эпізадычны тып кампазыцыі з біаграфічным стрыжнем: навакол асобы галоўнага пэрсанажу нанізваецца цэлы шэраг паасобных эпізодаў з яго жыцьця. І звычайна ў выбары гэтых эпізодаў адсутнічае мастацкая тэлеолёгічнасьць: паасобныя часткі не ўвязваюцца шчыльна з мастацкім цэлым. Напрыклад, у апавяданьні „На руінах“ зусім лішнім зьяўляецца доўгае апісаньне начоўкі гэрояў у карчме; у апавяданьні „На новым месцы“ зусім з боку прысьцёгнута сцэна рэўнасьці, якую Акіліна, сама апусьціўшаяся да adulter'а робіць свайму чалавеку: гэта сцэна ня можа быць апраўдана ні псыхолёгічна ні кампазыцыйна; у апавяданьні „Шукаючы працы“ мы маем падбор паасобных эпізодаў, зьвязаных толькі знадворнай асадкай вандраваньня, але ня маючых унутранай сувязі Так вельмі часта ў кампазыцыйнай пабудове апавяданьняў Цішкі Гартнага выглядаюць белыя ніткі чыста мэханічнай сувязі паасобных эпізодаў, пры поўнай адсутнасьці сувязі арганічнай. Больш удаюцца пісьменьніку невялічкія апавяданьні, як, напрыклад, „Сымонка інжэнэр“, „Дойдзем сынок“, „Лайдак“ і інш. Яны

зазвычай вызначаюцца напружанасьцю дзеяньня і пазбаўлены залішняй расьцягнутасьці. Некаторыя з гэтых невялічкіх апавяданьняў Цішкі Гартнага пабудаваны па тыпу новэлістычнай кампазыцыі з выразнымі момантамі завязкі, Spannung і разьвязкі. Напрыклад, у апавяданьні „Сымонка інжэнэр“ у самым пачатку дадзена статычная экспазыцыя— характэрыстыка Сымонкі, як здольнага хлапчука; завязка дае ўзрываючы, дынамічны матыў вайны, кульмінацыйны пункт новэлі—удзел Сымонкі ў барацьбе разам з бацькам, разьвязка—трагічнае згіненьне Сымонкі, пры чым вастрата канцоўкі тут узмацняецца дадзенай у самым пачатку трапнай экспазыцыяй: усе часткі аказваюцца зьвязанымі паміж сабою, нічога залішняга. Прыблізна па такому-ж тыпу новэлістычнай кампазыцыі пабудаваны апавяданьні „Лайдак“ і „Спатканьне“.

Зазвычай у Цішкі Гартнага дыспазыцыя, г. ё. рэальная пасьлядоўнасьць сюжэтнага руху, супадае з кампазыцыяй, пасьлядоўнасьцю яго ў мастацкім афармленьні Адсюль вынікае ў сюжэтнай пабудове апавяданьняў Цішкі Гартнага адсутнасьць інтрыгуючых і напружваючых увагу чытача момантаў: у яго звычайна эпізоды разгартаюцца супакойна адзін за другім. Адступленьні ад гэтай звычайнай для пісьменьніка схэмы мы бачым у двох апавяданьнях: „Распусьніца“ і „Дойдзем сынок“, дзе адразу чытач уводзіцца in medias res: у першым апавяданьні адразу перад намі разгартаецца драматычны эпізод укладаньня „распусьніцай“ лісту пакінуўшаму яе чалавеку, у другім апавяданьні ў самым пачатку дадзена жаласьлівая сцэна вандраваньня бяспрытульнай маці з сваім дзіцёнкам У тым і другім выпадку толькі ў далейшым ходзе апавяданьняў расчыняецца падстава гэтых драматычных момантаў.

Стыль Цішкі Гартнага ў зборніку „Трэскі на хвалях“ таксама вызначаецца расьцягнутасьцю; гэта пераважна сынтэтычны стыль. Для Цішкі Гартнага характэрнай зьяўляецца пэрыадычная пабудова мовы, часам з цэлай сыстэмай дадатковых сказаў, што пазбаўляе яго стыль рухавасьці і дынамічнасьці. Апроч таго, аўтар вельмі скупа і ашчадна ўжывае маляўнічыя сродкі; яго эйдолёгія, гэта ёсьць слоўныя вобразы, вызначаецца вузкасьцю, яна ня мае сакавітых фарбаў.

Такім чынам неабходна канстатаваць у зборніку „Трэскі на хвалях“ пэўны дысананс паміж багатай і актуальнай тэматыкай і яе фармальна-мастацкім выяўленьнем: форма тут значна адстае ад зьместу.

Наяўнасьць такога дысанансу заўважваецца ў найбольш буйным творы Цішкі Гартнага, у яго рамане „Сокі Цаліны“.

Пакуль што раман яшчэ не закончаны, вышла дзьве першых яго часткі: „Бацькава воля“ і „На перагібе“.

Сюжэт першай часткі вызначаецца прастатою... Рабочы Рыгор Нязвычны прыяжджае на пабыўку ў мястэчка Сілцы, дзе жыве яго каханая Зося; бацькі супроць гэтага каханьня, яны хочуць выдаць дачку за багатага хлопца Васіля Берага, але Зося кахае ўсё-ж такі Рыгора і нават аддаецца яму; пасьля гэтай прыгоды ў Лужкох Рыгор выяжджае на месца сваёй працы ў Рыгу.

Сюжэт другой часткі больш складаны; тут перакрыжоўваюцца дзьве сюжэтных лініі з двума топографічнымі цэнтрамі: падзеі маюць месца ў Сілцох і Рызе. У Сілцох адбываюцца ўладзіны і вясельле Зосі, робяцца арышты мясцовых рэволюцыянэраў. У Рызе разгарнаецца багатае падзеямі раманічнага і грамадзкага характару жыцьцё Рыгора Нязвычнага—разгарнаецца на агульным фоне барацьбы рабочай клясы

за сваё вызваленьне; канчаецца дзея арыштам Рыгора і яго трэцяй па ліку каханай — Наталі.

У першай частцы пераважаюць матывы жанравыя; тут добра абмалёваны побыт местачковага мяшчанства з яго затхлым, кансэрвантызмам, тупой ненавісьцю да бядняцтва і чыста „домостроевским“ сямейным дэспатызмам: над праявамі маладога, юнацкага жыцьця тут вісіць „Бацькава воля“. Але сямейная драма, як заазвычай, у Цішкі Гартнага, пераходзіць у драму сацыяльную, адсюль матывы жанравыя ў яго цесна пераплятаюцца з матывамі сацыяльнымі; трапна паказана расслаеньне мястэчка на кулакоў і беднякоў, выяўлена вострая сацыяльная барацьба паміж гэтымі пластамі, мастацкі акрэсьлены фігуры мясцовых рэвалюцыянэраў, загартаваных у барацьбе, і інш.

У другой часцы на першы плян высоўваецца сацыяльны зьмест. З душнага, атручанага дэспатызмам правінцыяльнага мястэчка аўтар выводзіць нас на шырокі прастор буйнага прамысловага цэнтру. Тут зарысавана фабрычнае жыцьцё, мастацкі паказаны рабочы рух з яго дэманстрацыямі, забастоўкамі і іншымі праявамі актыўнай рэвалюцыйнай барацьбы. У гэтай насычанасьці багатым рэвалюцыйным зьместам расчыняецца сэнс назвы раману: „Сокі цаліны“ — гэта маладыя рэвалюцыйныя сілы, павёўшыя актыўную барацьбу з царызмам. Стары рэвалюцыянэр Міхась з вялікім здавальненьнем бачыў, — „што з кожным часам новыя і новыя шэрагі ваяк выступаюць на арэну змаганьня за вялікія ідэі вызваленьня працоўных: багатая сокамі цаліна агромнай краіны расьціла маладыя пасынкі“ (II, 84).

У цэнтры рамана стаіць Рыгор Нязвычны. Гэта тыповы рабочы барацьбіт; ён максімалісты па сваіх пераконаньнях і ўчынках; на сходцы ён насупярэч памяркоўнаму настрою іншых рабочых, стаіць за аружнае паўстаньне, выступае з гарачымі, палкімі прамовамі; першы сьпевам Марсэльезы ўцягвае рабочых у дэманстрацыю, у час гэтай дэманстрацыі кідае ў паліцэйскіх каменьні і г. д. Але адначасьне Рыгор не парваў яшчэ сувязі з вёскай, у яго выяўляецца і некаторая цяга да вясковага побыту, замілаваньне да вясковай прыроды. Вось, напрыклад, як малюецца адзін з момантаў яго перажываньняў: „некая магутная сіла цягі к далёкім вобразам затуліла шэрай плеўкаю шырокаю галу яго небасхілу. Бліснулі павабныя думкі хаценьне выйсьці з пакою і накіравацца не ў завод, ня ў дым, дзе смурод, а на вакзал, дзе стаіць нарыхтованы да адпраўкі ў Ліцк цягнік. Лясы і поле, паплавы з зялёнаю атаваю, жанцы з іх песьнямі, з матленьнем жытных каласоў, белы лунь над капусьнікамі, а пасьля нечаканае і таму глыбока натхнёнае спатканьне з мацераю, таварышамі... з Зосяю“. (II, 186-187).

У рамане Рыгор Нязвычны жыве дваістым жыцьцём: грамадзкім і асабовым, „Рыгор, — кажа па гэтаму поваду аўтар, — марыў перш усяго аб шчасьці агульна-людзкім, як чалавек ідэі, як шчыры пасьлядовец рэвалюцыі. Але тым самым ён ня цураўся лепшага жыцьця для сябе самога. Праўда, яно бачылася яму ў асаблівай форме, асаблівым зьмесьце“ (II, 204). Так Рыгор Нязвычны барацьбіт рэвалюцыянэр; як такі, ён шукае новых сацыяльных формаў і адначасьне, відаць, шукае новых нормаў асабовай маралі; ён адкідае мяшчанства і, шукаючы асаблівай формы і асаблівага зьместу свайго індывідуальнага існаваньня, жыве напружаным эмацыяльным жыцьцём; на працягу двух месяцаў ім перажываюцца тры раманы; ад Зосі пераходзіць ён да Ганулі, ад Ганулі да Наталі.

Вобраз Рыгора Нязвычнага такім чынам падваіваецца: ён прадстаўнік рабочай клясы, сьвядомы ўдзельнік у вызваленчым руху, сьвядомы змаганьнік; у дадзеных адносінах перад намі пэўны грамадзкі тып. Але, з другога боку, Рыгор Нязвычны прадстае перад намі ў постаці нейкага пераможніка над жаночымі сэрцамі, які самаўлюблёна цешыцца сабой: „двое прыгожых дзяўчат захапіліся ім на працягу кароткага тэрміну. Знача не жарствою пасыпаны яго жыцьцёвыя дарогі“ (II, 203). Рыгор Нязвычны далёкі ад думкі, што каханьне ўскладае і пэўныя абавязкі; напамінаньне аб гэтых абавязках у яго вачох— мяшчанства.

У канчальным выніку вобраз Рыгора пазбаўлены суцэльнасьці: грамадзкі і індывідуальны бок яго істоты цяжка пагадзіць паміж сабой. Да гэтага трэба дадаць яшчэ, што спыняючыся падрабязна на абмалёўцы асабовага жыцьця свайго героя, аўтар часам дае нам эратычныя зарысоўкі; ён любіць абмалёўваць праявы інстынкту ў яго аголеным відзе (сцэна ў Лужкох, спатканьне з Ганнай і інш.).

У фармальна мастацкіх адносінах раман „Сокі цаліны“ мае недахопы, якія былі вызначаны намі пры аглядзе зборніка „Трэскі на хвалях“.

Кампазыцыя романа вызначаецца вялікай расьцягнутасьцю. Агульная пабудова яго эпізадычна-ступенчатая з асобай галоўнага героя ў цэнтры, вакол якога і групуецца большасьць эпізодаў. Пісьменьнік мала клапоціцца аб тэлёолёгічным адборы гэтых эпізодаў; наадварот, ён імкнецца з нейкай эпічнай паўнатой абрысаваць усе драбніцы жыцьця, спыняючыся нават на падрабязнай абмалёўцы звычайных фізыолёгічных працэсаў, як сон, яддзеньне і інш. Вельмі часта малюнкі ў романе разгартаюцца на падставе асацыяцыі пасумежнасьці. Апісаўшы, напрыклад, прыезд Рыгора на станцыю, аўтар спыняецца на такіх драбніцах, як пакупка білету, уваход у вагон і інш.; потым, пакінуўшы свайго героя ў Рызе, ён лічыць патрэбным застанавіцца на апісаньні звароту Сёмкі да Сілцоў. У выніку атрымоўваецца перавага статычных матываў і малая колькасьць матываў дынамічных, узрываючых.

Але, ня гледзячы на некаторыя хібы фармальна-мастацкага характару, раман „Сокі цаліны“, бязумоўна варты ўвагі. Па-першае, ён мае ідэёва-грамадзкае значэньне, паколькі ў ім адбіты рэвалюцыйна-рабочы і сялянскі рух, зарысаваны каштоўныя грамадзкія тыпы. Па-другое, мае твор Цішкі Гартнага і значэньне літаратурнае: гэта першы раман у беларускім пісьменстве.

Значны крок наперад прадстаўляе сабой астатні зборнік Цішкі Гартнага „Прысады“.

Тэматыка зборніка зьвязана з сучаснасьцю, перад намі сапраўды разгартаецца шырокі гасьцінец нашага бурлівага жыцьця, пры чым мы бачым, як абапал гэтага гасьцінца замест старых прысадаў, падымаецца сьвежая порасьль новага. Перад намі, як жывыя, праходзяць розныя тыповыя пэрсанажы, выхапленыя з навакольнай сучаснасьці. Вось, напрыклад, скромны працаўнік, начальнік раймілцыі, самаахвярна аддадзены сваім абавязкам: тут і мары аб новых прысадах, і прыём у канцылярыі, і барацьба з бандытызмам і, нарэшце, раненьне пры паездцы ў шляхецкую ваколіцу („Прысады“). Другі аналёгічны вобраз — партыец, адданы будаўнічай справе да забвеньня асабовага („Чапіла душы“). Альбо вось, два сябры, дзьве процілеглыя натуры; адзін разумовы, асьцярожны, другі эмацыяльны, палкі і рашучы—два супроцілеглыя псыхолёгічныя тыпы, але ў абодвых адна мэта, адзін ідэал служэньне рэвалюцыі („Таварышы“). На зьмену гэтым пэрсонажам

выступае скромная фігура вясковага працаўніка, які, ня гледзячы на ўсе перашкоды, дабіваецца сваёй мэты, адбудоўвае млын („Свае блінцы“).

Можна сказаць, што сучаснае савецкае будаўніцтва прадстаўляе сабой лейт-мотыў усяго зборніку. Цішка Гартны ўмее ў нашых буднях падмеціць захованы рытм новага будаўнічага жыцьця. Гэты рытм выяўляецца ім ня толькі ў асяродзьдзі савецкіх і партыйных працаўнікоў, але і ў сучаснай вёсцы: расслаеньне вёскі, перараджэньне серадняка, варожыя адносіны якога да савецкай улады зьмяніліся на прыязныя; новыя зьявы ў жыцьці вёскі, як кальцавая пошта, захапленьне газэтамі, радасныя праводзіны ў армію—усё гэта мастацкі адбіта Цішкам Гартным („Праводзіны“).

Побач з дадатнымі праявамі сучаснасьці пісьменьнік зарысоўвае і адмоўныя: прастытуцыя ў горадзе, дрэннае становішча яўрэйскага рамесьніка, якога вызваляе толькі дапамога родзічаў з Амэрыкі (Хільшчык Шлёма Брыкер), матар'яльныя недахопы ў жыцьці дзіцячай калёніі—гэткія і ім падобныя плямы таксама знайшлі сабе адбітак у зборніку.

Так на высокіх грэбнях сучаснасьці ўздымаецца муза Цішкі Гартнага.

Некалькі асобна стаяць у зборніку апавяданьні, пасьвечаныя псыхолёгічным тэмам, спэцыяльна выяўленьню псыхолёгіі жаночай душы. У гэтых апавяданьнях пісьменьнік пераходзіць ад абмалёўкі грамадзкізначнага да абрысоўкі людзкі-значнага. Так у апавяданьні „Ядзя Жучок“ зарысавана цяжкая сутычка жаночага самаахвярнага каханьня і мужчынскай здрады; біялёгічная трагэдыя жанчыны, пазбаўленай дзяцей, становіць сабой тэму апавяданьня „Дыягноз“; нарэшце, псыхолёгія маладой самотнай дзяўчыны, якая закінута лёсам у вясковую глуш, выяўлена ў творы „Таварыш інспэктар“.

Але і ў дадзеных, пераважна псыхолёгічных, апавяданьнях, Цішка Гартны не адрываецца ад сучаснасьці: цікавыя псыхолёгічныя перажываньні ён рысуе на фоне сучаснага побыту. Такая моцная ўвязка з навакольным жыцьцём бяссправна прадстаўляе сабою каштоўны бок зборніку: Цішка Гартны выступае тут як сапраўдны бард сучаснасьці.

Бязумоўную вартасьць зборніку прадстаўляюць сабой і значныя дасягненьні тут у галіне формальна-мастацкай.

Кампазыцыя апавяданьняў зьяўляецца тут больш рухавай і дынамічнай; эпізоды хутка зьмяняюцца адзін другім, апавяданьні насычаны дзеяньнем; некаторыя апавяданьні будуюцца нават па тыпу кінематографічнай кампазыцыі: замест цэльных разьдзелаў (глаў) паасобныя маленькія эпізоды, якія вельмі хутка зьмяняюцца адзін другім („Таварыш інспэктар“, „Таварышы“).

Пэрсанажы выяўляюць сябе пераважна ў дзеяньні, зрэдка Цішка Гартны прыбягае да прыёму гатовай характарыстыкі. Статычныя элемэнты—пэйзаж, жанр, літаратурны портрэт—зрэдка трапляюцца.

Дынамічнай кампазыцыі адпавядае і стыль твораў; замест сынтэтычнага стылю пераважна сустракаецца тут аналітычны, пры чым характэрнай адзнакай яго зьяўляецца дзеяслоўнасьць; вельмі часта ўжываюцца няпоўныя сказы бяз дзейніка. Напрыклад, „Прывык, прынаравіўся, падладзіўся, агойтаўся. Абыходзіцца, глядзіць і нават шануе. Куды-ж пагоніш небажатку?“ (7 стар.). Альбо вось другі прыклад. „Плаціць пяць рублёў Муні, а гадоў тры жыў дарэмна. Лічыў, што мае права на гэта, бо заслужыў перад рэвалюцыяй“ (73).

Так, адбіваючы дынаміку сучаснасьці Цішка Гартны ўжывае дынамічныя прыёмы кампазыцыі і адпаведныя прыёмы стылю.

Мы можам цяпер зрабіць некаторыя абагульненьні і вывады адносна творчасьці Цішкі Гартнага ў яе лірычным і эпічным афармленьні (драматычныя творы пісьменьніка будуць разгледжаны намі асобна).

Бясспрэчную каштоўнасьць прадстаўляе сабой тэматыка Цішкі Гартнага; яна вызначаецца разнастойнасьцю і актуальнасьцю: праца дробнага рамесьніка, рабочы і сялянскі вызваленчы рух дарэвалюцыйнага часу, нарэшце, адбіткі Кастрычніка, абмалёўка сучаснасьці нашых дзён з іх колёрытнымі водценьнямі будаўніцтва новага жыцьця, — вось галоўныя тэматычныя лініі, якія ўзаемна перакрыжоўваюцца і пераплятаюцца ў творчасьці Цішкі Гартнага. Але сярод гэтых ліній асабліва пуката выдзяляецца адна — апяяньне барацьбы. Дадзены матыў барацьбы, думаецца нам, уяўляе сабой творчую дамінанту пісьменьніка; ён выступае ў Цішкі Гартнага ў аспэкце натуралістычным, псыхолёгічным і сацыяльным: пісьменьнік абмалёўвае нам барацьбу стыхій у прыродзе, пераважна спыняючыся на грозных і магутных зьявах яе і адступаючы такім чынам ад ідылічнага шаблёну, замацаваўшагася ў беларускай літаратуры; псыхіка чалавека выступае ў творчасьці пісьменьніка пераважна як арэна калізый і сутычак; з асаблівым замілаваньнем спыняецца аўтар на абмалёўцы сацыяльнай барацьбы мас за сваё вызваленьне.

У беларускую, пераважна народніцкую літаратуру, Цішка Гартны ўносіць новыя тэмы рабочага руху і матывы урбанізму.

Творчасьць Цішкі Гартнага ўвесь час разьвіваецца ў рэчышчы пролетарскай псыхоідэалёгіі. Пясьняр руху і жыцьцёвай дынамікі, — ён выказвае дыялектычны погляд на сьветабудову, яго сьветаадчуваньне носіць на сабе пячатку калектывізму, рэвалюцыю ўсьпявае ён не як староньні глядач і назіральнік, а як непасрэдны ўдзельнік у працэсе барацьбы і сучаснага будаўніцтва. Галоўнай крыніцай творчасьці пісьменьніка зьяўляецца жыцьцё, яго ўласны жыцьцёвы вопыт, пачынаючы ад працы гарбара і дзейнасьці ў с. д. арганізацыі і канчаючы адказнай роляю ў сучасным савецкім будаўніцтве. Адсюль, з гэтых жыцьцёвых крыніц, выцякае рэвалюцыйны патос аўтара, яго рэвалюцыйная эстэтыка.

Побач з дадатнымі бакамі творчасьці Цішкі Гартнага мы канстатавалі і адмоўныя, галоўным чынам у галіне фармальна-мастацкай: кампазыцыйная няскладнасьць, супярэчачая прынцыпу мастацкай тэлеолёгічнасьці, стылістычная расьцягнутасьць, эйдалёгічная вузкасьць і аднастайнасьць — усё гэта, бязумоўна, становіць сабой пасыў Цішкі Гартнага. Але атрадна канстатаваць, што ў самых пазьнейшых творах нашага аўтара і гэты пасыў ідзе на зьнішчэньне, узмацняецца яго актыў: „Урачытасьць“ выяўляе значныя дасягненьні ў галіне эўфоніі і рытмікі, зборнік „Прысады“ у галіне дынамічнай кампазыцыі і больш дынамічнага мастацкага сынтаксу; адсутнічае паступовасьць толькі ў галіне эйдолёгіі: слоўныя вобразы і ў пазьнеўшых творах Цішкі Гартнага ня вызначаюцца сваёй бліскучасьцю; яны значна адстаюць ад вобразаў пэрсанажных, якія зьяўляюцца больш колёрытнымі і разнастойнымі.

Але відаць, што Гартны працуе над знадворнай тэхнікай сваіх твораў; выяўленыя дасягненьні — парука посьпехаў у далейшым.

---

**Паўлюк Шукайла**

# Літаратурнае сёньня

### Не сячэце з галавы сякерао там, дзе трэба мазгамі варушыць

Беларуская літаратура за кругабег апошніх год запісала цэлы шэраг новых імён, удзельнікаў змаганьня за яе росквіт. Пісьменьнікі й паэты аб'ядналіся ў адзіную (якая існавала з пачатку) арганізацыю „Маладняк". Гэта арганізацыя ў першыя гады прарабіла вялікую працу як у галіне літаратуры, так і агульна-культурнага будаўніцтва. Усе працавалі дружна і заўзята.

З працэсам літаратурнага апярэньня ў шэрагах „Маладняку" нарастаў працэс фармальна-мастацкіх рознагалосьсяў. Хаўрус „усіх" і „ўсякіх", які існаваў, пачаў рваццa.

Першымі пакінулі шэрагі Ўл. Дубоўка, Яз. Пушча, К. Чорны, Крапіва, Бабарэка і стварылі згуртаваньне „Ўзвышша", узяўшы як сродак дзеля павялічэньня свае кваліфікацыі, акадэмічную замкнёнасьць і барацьбу за літаратурную культуру.

Затым „Маладняк" пакінула другая апазыцыя, якая не пагаджалася з „тэорыямі" яго лідэраў і праз некаторы час стварыліся дзьве новыя арганізацыі: літаратурную групу.—„Прабліск" і аб'яднаньне „Беларуская Літаратурна-Мастацкая Камуна". Апошняе згуртавала наватараў літаратуры і мастацтва, якія маюць адзінае зьместавае і фармальна-мастацкае мэтаімкненьне, якія маюць аснову творчасьці на ніцях жыцьцебудаўніцтва і росквіту.

Такая дыфэрэнцыяцыя літаратурных шэрагаў—зусім нармальнае і карыснае зьявішча, якое пры ўмовах падтрыманьня здаровай марксысцкай крытыкі прынесла-б толькі ажыўленьне ў літаратурна-мастацкім будаўніцтве. Прымусіла-б пісьменьнікаў больш працаваць над сабой, больш абсклютоўваць матар'ял літаратурнай творчасьці і г. д.

На справе іншы раз наглядаецца зусім адваротнае: шэраг асоб, якія маюць дачыненьне да літаратурнага жыцьця, паднялі цэлы гармідар, навешваючы на таварышоў, якія выйшлі з „Маладняку", ярлыкі здраднікаў пралетарскай ідэалёгіі, дробна-буржуазны ўхіл і інш. У гэты тон, на жаль, загаварыла і крытыка. Першым, хто падняў меч і вышаў на поле літаратурнай брані, быў Тодар Глыбоцкі. Ён абліваў і аблівае памыямі сваёй крытычнай „творчасьці" кожнага, хто пасьмеў падкрэсьліць, вусна ці праз друк, хібы ў працы „Маладняку" ці некаторых яго сяброў (асабліва, калі чаплялі Ал. Дудара).

З найвялікшай гарачкаю Тодар Глыбоцкі нападае на ўсіх тых, хто супраць літаратурнай плецяні і заскарузлай фармальна-мастацкай старʼёўшчыны. Тут ён не шкадуе і маладнякоўцаў.

Усім вядома, што некаторых паэтаў, пісьменьнікаў і крытыкаў за сродкі, якія яны ўжывалі ў літаратурных спрэчках, жыцьці і творчасьці, пачалі называць „паскуднікамі", „шмэндрыкамі" і г. д.

Быў такі факт, калі сябра маладнякоўскай філіі Аршаншчыны Ўл. Прыбыткоўскі напісаў верш „Паскуднікам“. Тодар Глыбоцкі, чамусьці, прыняў гэта як яму прысьвечанае і давай сыпаць на здольнага паэту ўселякае сьмецьце, называючы бяздарным і г. д.

Было-б паўбяды, каб Тодар Глыбоцкі быў адзінкаю, але ён знайшоў падтрыманьне ў асобе Алеся Дудара і яшчэ некаторых з лягеру „васількова - бур'яных пяшчотнікаў“. У абняцьце гурткоўшчыны папалі, таксама Кундзіш, Калядны і некаторыя іншыя, якія замест крытыкі з чыста-марксысцкаю подшыўкаю (на якую яны прэтэндуюць у сваіх выступленьнях), вельмі часта даюць падтасованы шальмоўскім спосабам крытычны аналіз таго ці іншага твору, тэй ці другой літаратурнай зьявы. Наяўнасьць такога зьявішча ў літаратурным жыцьці, пусьціла карэньні проста-на-проста літаратурнай склокі.

Яе пашырэньню (не сьвядома, бязумоўна) дапамагаюць апроч літаратурных крытыкаў і некаторыя асобы, якія маюць дачыненьне да літаратуры. Яны па старому трафарэту лічаць „Маладняк“ аднэй арганізацыяй, якая мае патэнт на стопроцантную пралетарскасьць, блізкасьць да кампартыі і яе падтрыманьне. Такая „палітыка“ „палітыкаў“ мае некаторыя нэрвуючыя літаратурныя колы вынікі. (Недазваленьне некаторым пісьменьнікам выехаць на акругі для выступленьня і наладжваньня літаратурных вечароў, не друкаваньне артыкулаў, якія даводзяць адмоўныя бакі творчасьці „Маладняка“ і шэраг іншых пагубных фактаў, якія яскрава кажуць аб незразуменьні ці парушэньні палітыкі кампартыі ў галіне літаратуры і мастацтва:

> ...„**Падтрымліваючы матар'яльна і маральна пралетарскую і пралетарска-сялянскую літаратуру, дапамагаючы папуччыкам і г. д., партыя ня можа аддаць манаполіі якой-небудзь з груп, нават самай пралетарскай па сваім ідэёвым зьмесьце: гэта значыла-б загубіць пралетарскую літаратуру**“. **(З рэзал. ЦК РКП(б) у ліпні 1925 г.)**.

Гэты напрамак у пытаньні аб літаратуры шмат каму трэба было-б даўно ўжо зразумець, праводзіць у штодзённым жыцьці і ня секчы з галавы сякераю там, дзе трэба мазгамі варушыць...

Гэта вялікая не заслужаная папулярызацыя адных, неабмежаваная траўля другіх,—перагіб у бок манаполіі, прывела да таго, што першыя праз літаратурны эгаізм, пралетчванства, дайшлі да багэмы, утапіліся ў піўнушках і... пачалі:

> ...„Гандляваць душой і целам“...

Лавіць „начных матылькоў“ па цёмных гарадзкіх завулках.

Усё пабудавалася на хмелю, а, між тым, бесправаздачна трацілася энэргія і творчая сіла, астаткі якой накіроўваліся на тое, каб:

> — Хто ня з намі—зацкаваць сабакамі,
> Ня жыцьцё таму ў сьвеце белым.

Зацкаваныя, пры адсутнічаньні магчымасьці па сабаках біць кіямі, занепадалі, пераходзілі да ўпадніцкіх матываў, ці не друкаваліся, ці пераходзілі на пустазвонства, пішучы абы ганарар, абы адным вершам больш у зборнічку, абы не ўзлаваць лідараў-манапольнікаў.

Толькі моцныя воляй, упэўненыя ў перамогу клясавай сьвядомасьці ўстаялі і ня зышлі з пралетарскага шляху.

Для падмацаваньня вышэй прыведзеных намі характэрных зьяў, возьмем характэрныя творы паасобных груп пісьменьнікаў і паэтаў прыкладных дзеля вывядзеньня крытычнай аналёгіі. Пры гэтым умовімся,

што кожны твор павінен мець сваё мэтаімкненьне ня толькі па зьместу, але й па форме. Вобраз, кампазыцыя толькі тады апраўдвае сваё месца ў творы, калі яны пабудованы на гэтым неабспрэчным законе.

Усё мэтаімкненьне пісьменьніка мусіць быць накірована на тое, каб праз літаратуру, як частку культуры, прымаць удзел у жыцьцебудаўніцтве будучы зброяю клясы, якая будуе форму агульна-чалавечага сужыцьця—камунізм.

Першай групай будуць паэты—

**Гандляры душой і целам. Песьняры пахмельля і віна**

Гэтую групу мы разглядаем першаю, бо лічым, што яна асабліва дрэнна адбіваецца на разьвіцьці нашай літаратуры і пагубна ўплывае на ўзрастаючы літаратурны маладняк.

Яна складаецца з Ал. Дудара, Ул. Жылкі і Ан. Вольнага. Узьнікла ў кругабезе апошніх двух год, калі НЭП заўзята прыбіваў да сваіх берагоў і захапляў у абнімкі тых, хто ня мог супраціўляцца гэтаму магнэсу, ня меў сілы і загартаванасьці.

Ал. Дудар, які ў 1923 - 25 гадох у кніжках „Беларусь бунтарская", „Шанхайскі шоўк" падаваў (праўда, невялічкія) надзеі на магчымасьць узросту яго ў пралетарскага паэту—за апошнія два гады не апраўдаў гэтае надзеі.

Выпушчаныя ім два зборнічкі: „Сонечнымі сьцежкамі" і „І залацісьцей і сталёвей" зьяўляюцца яскравымі дакумэнтамі.

Ужо ў „Сонечных сьцежках" Ал. Дудар адчыняе заслону перад чытачамі робячы заяву:

Нікому ня буду верыць,
нікога ня буду чакаць—
налажылі на нашы дзьверы
чорнага воску пячаць.
(Сонечнымі сьцежкамі ст. 56)

Ні жыцьцё, ні надзеі на перамогу гэраічнага, паўстаўшага народу, нішто не цікавіць, не захапляе паэту. І гэта ня дзіўна: цэлы шэраг перашкод на шляху сацыялістычнага будаўніцтва, складаныя ўмовы жыцьця пры НЭП'у даправоджваюць ня стойкага і не загартаванага ў працы калектыву паэту да таго, што:

Гаварылі, сьмяяліся, плакалі,
гандлявалі душой і целам...
— Хто ня з намі - зацкаваць сабакамі,
ня жыцьцё таму ў сьвеце белым.
(І залацісьцей і сталёвей ст. 10)

Ці, як кажа ён у другім вершы:

Мы любілі і шмат любілі—
аддавала цела і душу;
а ўчарайшае, хоць і заглохла быльлю,
а ўсё роўна за горла нас душыць.
(Сонечнымі сьцежкамі ст. 35)

Паэта, які прэтэндаваў быць пралетарскім, усё сваё мэтаімкненьне і жаданьне абагульвае ў сініх вачох і тонкім жаночым целаскладзе—яму і аддае сваё жыцьцё. А на такім шляху бываюць і расчараваньні. Пры адсутнасьці любові да калектыву, да ўдзелу ў агульным жыцьцебудаўніцтве, жаданьня ісьці сталым крокам разам з працоўнымі наперад, перасігаючы праз цяжкасьці гэтага падарожжа, паэту ахапляе заняпад, журба, сумота, і ён піша:

Нам нявесела жыць—
мы шукаем забаў.
Вечна ў нас ім жыць
тонкім туманам журба.
(І залацісьцей і сталёвей ст. 29)

Якіх гэта забаў шукае Дудар? А вось не саромяецца, піша:

...па завулках ганяў сабак,
шыбы каменьнямі біў!
(на той-жа старонцы)

Добрыя забавы, няма чаго сказаць... Любоў таксама... Бі вокны, ганяй сабак!—міліцыі работа патрэбна, дык чаму-ж ня множыць хуліганства?!

Тут Дудар скінуў маску і паказаў свой „літаратурны" твар, якім ён ёсьць.

Цяпер ясна, чаму Дудару так напляваць на ўсё—таму, што б'ючы вокны ў савецкай дзяржаве, да сацыялізму не набліжаемся, а робім перашкоды, пашыраем хуліганства. Але яму што:

Мне напляваць на сьвятых і на бога...
Знаю—цудаў нідзе не спаткаць
Вось, каб мне заснуць на доўга, —
сотні, тысячы год праспаць.

Я прачнуся ў іншым сьвеце.
Што там будзе?.. Ня мне згадаць...
Можа будзе адм нены вецер
і вісецьме дзень на правадах...

Можа кожны камень заіскрыцца,
Будуць дзеці ад мяне ўцякаць.
Завядуць мяне людзі ў зьвярынец
і напішуць:
„Рукамі не чапаць!.."
(І залацісьцей і сталёвей ст. 11)

Вось якім спосабам мысьліць прымаць удзел у будаўніцтве сацыялізму, камуны сусьвету „пралетарскі" паэта Дудар —

ці вокны біць,

ці ў лепшым выпадку—заснуць

Мы раім апошняе, бо тады такіх вершаў пісаць ня будзеце, а апасацца-ж наконт зьвярынца ня варта, бо за біцьцё вокан у дом буйных в рятаў пасадзяць

Гэта мы раім таму, што сам паэта піша ў адным з аўтабіграфічных вершаў і сьцьвярджае правідловасьць нашага погляду:

**Змоўклі струны жыцьця**
**акамянеў язык.**
**Зубы шчыльней заццяць**
**і завінціць мазгі!..**
**(І залацісьцей і сталёвей ст. 29).**

* *
*

Другім, за Дударом, паэтаю аднэй групы—Анатоль Вольны. Аўтар удалае авантурнае аповесьці „Два" выступіў перад намі як паэта, які выдаў праз БДВ зборнічак „Табе". Зборнічак зьмяшчае ня зусім прыстойнага характару перапіску з аднэй жанчынай. Правідлова даў характарыстыку такой творчасьці на апошнім Зьезьдзе Саветаў паважаны б. Старшыня СНК БССР Язэп Адамовіч. Ён вызначыў, што гэта ня што іншае, як „літаратурнае рукаблудзьдзе", з якім трэба змагацца ўсімі сродкамі. Калі мы адводзім належнае месца ў беларускай літа-

ратуры дла аўтара аповесьці „Два“, дык аўтару „Табе“ можна параіць палячыцца пакуль ня позна.

Тое самае можна сказаць і да апошняга паэты Ўл. Жылкі.

Ул. Жылка ў сваім літаратурным падарожжы па завітых сьцежках акаляючага яго жыцьця вельмі часта блудзіў і зьмяняў напрамак.

Калі ў 1920 годзе ён заклікаў —

Пад штандар бел-чырвона-белы
Гуртуйся, рацъ, адважна, сьмела,
Адважна-храбрых ваякоў!..
(Беларусь, 1920 г. № 16)

У 1927 годзе ён прабуе іншы раз, у выпадках юбілею, заклікаць працоўных пад Чырвоны сьцяг, пад якім рабочыя і сяляне ўжо дзесяць год будуюць Савецкую краіну, згуртаваныя інстынктыўна-клясавым прыцягненьнем, а ня вершамі Жылкі. Зусім іншае гаворыць паэта ў будні. Тут ізноў, як у Дудара—містыка, віно, пахмельле.

Маіх надзей вясёлых кветы
Паталі з гораччу на дне,
У бурным, як юнацтва леты,
Ў глухім віне.

Ідучы цяжкім, нават пакутным шляхам, рабочая кляса, якая яднае вакол сябе ўсіх працоўных—мае надзею, што праз цяжкасьці здабудзе перамогу.

Слабыя людзі, якія хістаюцца, якія аддалі сябе на лёс распуціцы і круцелі—ня могуць убачыць у гэтым найвялікшую прыгожасьць чалавечага існаваньня.

Калі ў Ал. Дудара ў маскаваных зборніках, матывы ўпадніцтва і нявер'я ў перамогу сацыялістычнага ладу, выяўляліся ў тым сэнсе, што —

Нікому ня буду верыць,
нічога ня буду чакаць —

дык Ўл. Жылка ўторачы Дудару кажа:

Няхай для іншых сны аб шчасьці,
Няхай збаўляюцца чым хоч,
Віно—мне ўцехай у напасьці
І маткай—ноч.

На жанчыну Ўл. Жылка глядзіць як на кволасьць, як да нічога ня здольную:

Нашто хвалюеш і трывожыш?
Нашто заве пагляд сьвяты?
У жаноцкай кволасьці што можаш,
Што можаш ты?

Нашто сьпяваеш так высока?
Аб недасяжным сьпеў нашто?
Перад прысуду страшным вокам
Ці ўстоіў хто?

Ідэолёгічна пагубны зьмест такіх пэрлаў творчасьці, слабай (як у Дудара і Вольнага) з фармальна-мастацкага боку, ды яшчэ пры ўжываньні вобразаў, як, напрыклад, „сьвяты“, „прытулак зла“, „перад прысуду страшным вокам“, тэхнічная няпісьменнасьць прымушае нас сказаць аб сучаснай творчасьці Ўл. Жылкі вытрымкай яго-ж характарыстыкі: Дарагая беларуская літаратура! —

„Ты зьяеш яснасьцю і сьветам,
Твае няўхільна хараство.
Нашто-ж табе ніяк адпеты
І гэткі во?“.

* * *

За гэтай групай пашлі шляхам упадніцтва і некаторыя маладыя працаўнікі літаратуры (якія жыцьцё лічаць туманнаю імглою), у тым ліку і некалькі „сэнтымэнтальных паэтэс“, напрыклад, Зіна Бандарына.

Камсамолка, поўная жыцьця дзяўчына, якая яшчэ толькі выходзіць на сьцежкі шуканьняў на літаратурную дарогу, а ўжо вершы пранізаны такімі настроямі:

Мне цесна, мне цесна на сьвеце,
наўкола імгла, туманы...
О, вольныя птахі! О, вецер!
пазычце мне крыльляў сваіх...

Можна было-б пералічыць яшчэ некалькі тых, якія падпалі пад уплыў есенішчыны, афарбованы ў Беларусі ў групу „Дударыстых“, але мы ўзялі прыкладных, найбольш дапасованых да руху ў гэтым напрамку.

У чым справа? Якая падстава для гэтага зьявішча? Першае,—нястойкасьць перад жыцьцёвымі непаразуменьнямі і цяжкасьцю будаўніцтва ў пасоўваньні наперад. Адсутнічаньне клясавай сьвядомасьці, бо пры наяўнасьці апошняй яны цьвяроза ўзважылі шансы барацьбы і былі-б самі барацьбітамі, будучы цьвёрда ўпэўненымі ў сваёй здольнасьці перабудаваць сьвет. У гэтым сэнсе, кожны клясава сьвядомы пісьменьнік, паэта-аптымісты: з поўнай надзеяй глядзіць у будучыню і сваю паэзію чэрпае як раз у акаляючых яго супярэчнасьцях, цяжкасьцях, у буднічным жабрацтве.

**Паэты пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы**

Гэту другую групу складаюць: Паўлюк Трус, Яз. Пушча, Сяргей Дарожны, Валеры Маракоў і іншыя. Гэта людзі, якія неразумеюць, што літаратура толькі тады прымае ўдзел у прагрэсе жыцьця і культуры, служыць зброяю сілы, якая рухае гэтыя працэсы наперад, калі бярэцца за форму акаляючая дынаміка, голас жыцьця і зьмест, які адпавядае мэце

Нажаль, іншае бачым у творчасьці гэтых паэтаў.

Новая кніжка „Ветры буйныя“, якая выпушчана Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі, яскрава адбівае творчасьць чалавека, які слухае што яму кажуць, успрыймае гэта без належнага крытэрыя, потым перадае акаляючым па наіўнасьці за сваё. Ён перабудоўвае з гатовага абсклютаванага старога матар'ялу будынак і думае прадаць яго людзям за новы.

Мы не адмаўляемся ад таго, што кожны чалавек, прыступаючы да будоўлі, павінен вывучаць вопыты будаўнікоў мінулага, але мы пратэстуем супроць перамяшчэньня старога ў новае, бо яно было калісь новым, а цяпер гнілое, а трухлядзь і гніль—вон з жыцьця!

У творчасьці Паўлюк Трус як раз такі паэта-чалавек. Раскрываючы кніжку „яго“ вершаў, адразу адчуваеш матыў украінскай песьні, нейкі пяшчотны, прыгожы і буйны, умела перададзены аўтарам.

„Віють вітри, віють буйни“.

Паўлюк Трус перадае:

„Веюць ветры, ветравіньне
З поля на даліны...
Выйду ў вечар, вечар сіні
Вее багавіньнем...
(стар. 7)

Альбо ў Т. Шаўчэнкі:

„І блідни місяц на ту пору
Із хмары де-де виглядав
Неначе човен в синім морю
То виринав, то потопав".

Праўда прыгожасьць, мілагучнасьць, багатая лірыка?

У „творчасьці" Паўлюка Труса:

„Маўчала ноч па-над палянай
Зялёны гай не гаманіў...
Няйначай у сінім акіяне
Над рэчкай месяц плыў і плыў."
(стар. 53)

Ці ў Шаўчэнкі:

„Повій, вітре, на Україну
Де покинув я дивчину,
Де покинув кары очи
Повій, вітре, о півночи."

У Паўлюка Труса:

„Павей вецер, з-за друбовы,
А я ўспомню чорны бровы,
Чорны бровы, ясны вочы,
Павей вецер апаўночы.

І далей не даючы тлумачэньня і цытат з украінскага, я толькі прывяду пачаткі далейшых яго вершаў і чытач зразумее, хто аўтар і чыё плагіяцтва:

Куды вецер вее,
Туды вербы гнуцца...
(стар. 73)

Цячэ рэчка з-пад явару...
(стар. 102)

Ой у лузе пры даліне
Разьвівалася каліна.
(стар. 75)

Шумелі вербы над вадою
З за хмары месяц выплываў.
Сядзеў цыган.. і *між* (П. Ш.) сабою
Пад подых ветраў развважаў.
(стар. 60)

І гэта ня вольны пераклад—верш уласнай творчасьці".

Тут Паўлюк Трус карыстаючыся, што вялікі пясьняр Украіны Тарас сьпіць у зямлі сырой, займаецца літаратурным крадзяжом ды яшчэ з некатораю замешкаю ў граматыцы Цікава, як гэта цыган „між сабою" развважаў. Між сабою і ветрам.. ці сам з сабою? У Тарасавы часы асьвета была паводле Паўлюка Труса далёка лепшая чым цяпер. Тарас ніколі пе напісаў-бы такіх граматычных радкоў, а вось Паўлюк Трус чужыя і то пісьменна перапісаць ня мог...

Такая высока-мастацкая творчасьць аўтара „Ветраў буйных" кідаецца ў вочы амаль што на кожнай старонцы. Шаўчэнку замяняе Багдановіч, ад якога далікатна, з некаторымі перастаноўкамі вобразаў перапісваецца:

Над чаркай возера
Сінеючай вады,
Дзе кучаравіўся
Аер высокі... і г. д.
(стар. 93)

Над кубкам возера глыбокім і шкляным
У тонкай просіні між кросен багавіньня... і г. д.
(стар. 96)

Туман над ценью палян
Снуецца ўзорамі тканіны.
(стар 105)

Не застанаўліваючыся на Багдановічу, Паўлюк Трус прыпамінае чытачу вершы Кальцова, у вольным перекладзе:

Выйду ў поле я
У залаты прастор,
Там прывольная
Рунь кудравіцца...
І пад водгульле
Пад вясновае
Буйна гольлямі,
Славай новаю
Цёмна-сіні бор
Кучаравіцца... і г. д.
(стар. 119)

З такога матар'ялу па сваёй большасьці складаецца зборнік. У кожным вершу адчуваецца апроч перазвону адзвоненага другімі аўтарамі, перазвон тых самых вобразаў і так званых „любімых слоў" аўтара: .кволая прозалаць, „кволая сінь", „кволая ўсьмешка", „кволыя жураўіны" і яшчэ многа кволага; „плакаць калінаю", „плачуць вербы", „плача вішня над ракою" (што толькі ня плача ў аўтара—усё плаксівае).

Далей ідуць буйныя ветры" „буйныя сьлёзы", „буйныя пацеркі", „буйныя пяскі", „росы сінія", „верхавіньне", „ветрасіньне і шмат іншых. А слова „просінь", дастойнае слова, якое атрымала колькасны конкурс як выручаючае пры падборы рыфмы. Мы, „бязумоўна", не адкідаем магчымасьць карыстацца вобразамі некалькі раз, але пашкадуйце чытача і ня ляпайце адныя і тыя ў кожным радку, у кожным вершы.

За гэтым недахопам у аўтара, як паказальнік таго, якая бедная яго беларуская мова, ёсьць шмат „чыста беларускіх слоў", напрыклад, цьвет, цьветам, усьпела, песень, стальное, заве (замест кліча, заклікае), асеньняя, ўбогая і г. д.

Ня зусім добрая справа з вобразамі. Аўтар не заўсёды разумна карыстаецца імі. Часта яны служаць для таго, каб добра іграла вершавая шарманка пры падборы рыфмаў. Напрыклад:

Плыве човен
Вады повен
Ды гайдае хвалі...
*Завіліся* тыя сьцежкі
*У пацеркі—каралі.*
(стар. 69)

А як устанеш рана-рана.
На вадзе вянкі завянуць.
Будзеш плакаць і журыцца,
Сьлёзы высушыць крыніца.

Аўтар забывае тое, што ўжыты вобраз толькі тады апраўдвае сябе, калі ён мае канкрэтнае мэтаімкненьне.

Па сваёй тэматыцы зьместу вершы ў зборнічку „Ветры буйныя" напісаныя Паўлюком Трусом прэтэндуюць стаць на ўзровень беларускага Шэўчэнкі, але паміж іх колерам і зьместам такая розьніца як паміж вадою ў лужыне і быстрацечнай рэчцы. Калі ў Шэўчэнкі разам з нацыянальным момантам па творчасьці чырвонай ніцьцю пранізаны сацыяльны, дык у Паўлюка Труса пустая лірыка, у якой дзе-ні-дзе прасочваюцца нацыянальныя матывы.

Калі ў Шэўчэнкі, у часы немавернай пакуты, стогнаў Украіны, творчасьць была адбіткам тагочасных перажываньняў працоўных любімага ім народу, дык у Труса мы бачым іншы раз нацыянальная сьвядомасьць пераходзіць у нацыянальнае самахвальства. Ён піша:

Аддам усё, чым сэрца плача,
Дастану сэрца й падару,
Бо я людзей яшчэ ня бачыў,
Каб так любілі Беларусь.

У гэтым вершы аўтар дае атэстат самому сабе, як адзінаму чалавеку, які любіць Беларусь. І апроч каханьняў у гэтых радкох нідзе на працягу ўсяго зборнічку аўтар не адбівае Беларусі, ён не адбівае нацыянальнага адраджэньня Беларусі, настрою і пачуцьцяў рабочых і сялян. У Труса адсутнічае мэтавасьць, ён не выкарыстоўвае літаратурную творчасьць мастацтва, як сродак жыцьцебудаўніцтва. У яго вобразах папытка адбіць жыцьцё канчаецца тым, што аўтар адбівае нерэальнасьць жыцьця, а традыцыйна-кананічны погляд на яго зьявы.

У паэме „Цыганка" аўтар, ідучы па шляху буржуазных рамансыстых, адбівае жыцьцё цыган, як „разгульную вясёласьць":

І ў тоне песень жыватворчых
Я чуў разгульнае жыцьцё,
Аб ім у лузе, апаўночы
Шумела ў беразе трысьцё.
(стар. 54)

І далей:

Маўчала ноч у цьвеце долу,
Зялёны гай не гаманіў...
Успомніў сёньня мімаволі
Цябе ў разгульнасьці вясёлай,—
Цыганскі табар пры агні.
(стар. 58)

Паэта здаецца як глухім і сьляпым. Ён паўтарае літаратурную сьлепату мінуўшчыны ў адбіцьці цыганскага жыцьця. Ён судзіць жыцьцё цыган па жыцьцю цыганак-шансанэтак, а не табару. У табары паэта ўбачыў-бы, вялікую бядоту, барацьбу за існаваньне, пануючы голад. Ён пачуў-бы, як часта плачуць цыганы, як рвуць на сабе валасы. Паслухаў бы Трус, як прычытвае беларуская цыганка хаваючы сваю маці ў зямлю сырую:

На што-ж мяне ты гадавала
Каб на чужбіне пляндравала
Сьпявала песьні і гадала
Сьлязьмі мора запаўняла.

У Паўлюка Труса цыганка гадае таму, хто любіць чараўніцтва. Гаданьне цыганкі старынны сродак здабыць кусок хлеба—жабрацтва, а не гульня ў раман містычнага зьместу. І гэта пустата зьместу на пра-

цягу ўсяго зборнічку. Напышаныя вобразы раманса-сымбалізму часта (як гэта павінна быць) пераходзіць у міф у містыцызм.

Аўтар сябра пралетарскай літаратурнай арганізацыі, член калектыўнай сям'і, а што ён піша?

Іду дарогаю адзін...
Паўзуць вужакі з пад каменьняў,
Вакол, як здань, снуюцца сьцені,
Іду дарогаю адзін...
І чую ў посьпеці асеньнім
Глухія водгукі—Ня—йдзі...—
Бо ўдзень з дванаццаці гадзін
Паўзуць вужакі з-пад каменьняў.

(стар. 90)

У чым прычына? Чаму ў аўтара адсутнічае крытэрый пры выбары каштоўнасьці літаратурнай спадчыны, чаму ён сьлепа пераразвоньвае пераразвоны, чаму тхлінаю нясе ад толькі што вышаўшай з-пад друкарскага варштату кніжачкі, чаму навакол сьлязьлівасьць, пустата, містыка?

Мабыць таму, што „Маладняк", як літаратурная кузьня, калектыў не загартоўвае сваіх сяброў. Пісьменьнік, паэта, мастак пакінуты на завітых сьцежках пры падарожжы на літаратурны шлях часта, пры адсутнічаньні моцнага літаратурнага калектыву, блудзіць. Ён блудзіць таму, што адчувае блукаючым сябе па сьцежках завітых. Патрэбен ліхтар у літаратурным падарожжы, патрэбна больш калектыўнай супрацоўнасьці, цьвярозасьці ў поглядзе на жыцьцёвыя зьявы і тады паэта зможа выйсьці з пустаты і акаляючае яму будзе зразумелым... Будзе змагацца, і перамагаць... А пакуль што веюць ветры, ветры буйныя па пустому полю.

Трацціца некарысна энэргія маладога паэты, сівым мохам абрастае талент.

(Працяг будзе)

# БІБЛІАГРАФІЯ

**Андрэй Александровіч. „Угрунь“**, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Менск, 1927 г. 130 старонак, цана 80 кап.

У склад зборніку ўваходзіць 28 вершаў. З іх два, як—„Дзьвіна“ і „Дваццаць“, па сваёй вартасьці выдатнейшыя за астатнія. „Дваццаць“ аўтар дае як адрывак з паэмы яго жыцьця, „Дзьвіна“, як малюнкі жыцьця Беларусі.

Памянёны зборнік зьяўляецца па ліку пятым у складзе выдадзеных кніжак з творчасьці Александровіча. Няма чаго спыняцца на тым, каго з сябе ўяўляе паэта, бо беларускі чытач зараз ужо досыць знаёмы з некаторымі асноўнымі кірункамі Александровіча, прачытаўшы, к прыкладу, такія творы яго як:—„Па беларускім бруку“, „Паўстанцы“, „Сутарэньне“ і „Прозалаць“. Праўда, яго апошні зборнік „Угрунь“ некалькі не падобен да ўсіх першых, бо тут можна ўбачыць з самага пачатку і да канца большую колькасьць дадатных, станоўчых бакоў, якія знаходзяць свае адбіткі ў лепшай фармальна-мастацкай апрацоўцы. Мэтаімкненьне зьяўляецца зусім здаровым і для чытача зразумелым. Аўтар менш карыстаецца абсьлюнялымі, сэзоннымі для некаторых маладых паэтаў выразамі, а роб ць спробу пісаць мовою нашай сучаснасьці, а ня лётаючых у „паднябесьсі“ „паэтаў-чудакоў“, якія здатны наконт сіне-сінейшых вачэй васількоў, „лунных лап“ і г. д. Чытачу абрыдзелі гэтыя перапевы старых рамансаў і Александровіч робіць папытку перашагнуць літаратурную фармальна-мастацкую стар'еўшчыну.

У асноўным ідэёвы напрамак зьместу вершаў зьяўляецца пралетарскім і гэта не таму, што такія словы, як—гудкі, рабочыя, машыны, зьяўляюцца інвэнтаром мовы вершаў, а таму, што іх зьмест пераплятаецца з сапраўднай акаляючай рэчаіснасьцю і інтарэсамі мас:

На лева—
Леваю!
Я заклікаю стройна!
Краіна родная!
Сягодня твой парад!
Пяю ня лірыку,
а эканом-надстройку
пра рост чырвонца,
пра наш Савецкі лад.

Такая пабудова вершу, крок наперад у напрамку прыстасаваньня творчасьці да дынамікі жыцьця. Зьмест яскрава адбівае тое, чым жывуць і да чаго імкнуцца працоўныя масы, адбівае эпізоды вялікага эканамічнага і культурнага будаўніцтва.

Аўтар находзіць і здраднікаў якія апяваюць вёску ў вербах, асінах, васільках у большасьці дэкарацыю, а не дзею. Плачуць вёскаю, а сьлёзы ўцерці ня знойдуць хустачкі.

Няхай сутарэньне
мяне прабачае,
пайду па шляхох беларускіх далін.
Пайду я па вёсках, бо іх пакідаюць,
Нявывеўшы ў полі заросшы палынь.

Асноўны матыў большае часткі вершаў зьяўляецца бадзёрым. У аўтара адчуваецца яскравасьць яго кірункаў і думак:

Гаратлівасьці былой
час пазбыцца нам.
Забудуем шыр балот
камяніцамі.
Эх, сасоньніца-сасна—
дні суровыя
Бервяно да бервяна—
хата новая.

Застанаўліваючыся на цяжкасьцях разгорнутага жыцьцебудаўніцтва, аўтар перад імі не падае ў „уныние“, а з вытрыманасьцю і ўпэўненасьцю ў перамогу калектыву працягвае:

Гуртам!
Дружна!
—Хлопцы, здужым!
Гэй яшчэ!
Яшчэ!
Яшчэ!

Зборнік дае чытачу некаторы малюнак вялікага руху наперад, які перажываюць зараз працоўныя нашае краіны.

Прабелы зборніку зводзяцца да недастатковае фармальна-мастацкай апрацоўкі некаторых вершаў. Паводле зьместу здаровыя, яны выглядаюць з падкрэсьленага боку шаршавымі, сухаватымі. Гэта можа тлумачыцца і тым, што Александровіч, як пісьменьнік і паэта—малады і не прайшоў яшчэ працэсу літаратурнага апярэньня. Але трэба зазначыць, што гэты працэс ідзе досыць хуткімі крокамі; калі параўнаць яго першыя зборнікі з гэтым

Паэта перасягнуў яму, дзе купа літаратурных вераб'ёў чырыкаюць „новыя“ песьні на стары лад. Ён зрабіў спробу засьпяваць па іншаму. У зборніку „Ўгрунь“ шэраг вершаў гаворыць аб посьпехах, што дасьць далейшая творчасьць—пабачым.

Гэтая кніжачка павінна чытацца як самая каштоўная, што мог даць „Маладняк“ за апошнія гады, як папытка сярод сягаючых

у права
праваю—
шагнуць:
у лева—леваю.

**Макар Шалай.**

# ХРОНІКА

## Па РСФСР

— Да надыходзячага стагодзьдзя з дня нараджэньня Л. Н. Талстога музэй яго імя папаўняе свае калекцыі цэлым шэрагам новых экспанатаў.

Музэем набыты шэраг прац мастака Несьцерава, бюст Талстога, работы скульптара Андрэева; ілюстрацыя да апавяданьня—„Бог правду видит“, работы Сурыкава; сэрыя ілюстрацый да аповесьці „Казаки“, Лансэрэ; некалькі этудаў напісаных з Талстога мастаком Пастэрнакам, і яго-ж кампазыцыя — „Толстой в эпоху писания „Войны и Мира“.

— Ус. Іваноў закончыў аповесьць з эпохі грамадзянскай вайны — „Гибель Железной“.

— Юр. Лібедзінскі канчае раман „Поворот“.

— М. Асееў выпускае ў Гізе першы том свайго збору твораў.

— Ул. Маякоўскі выпускае ў Гізе кнігу вершаў—„25 Октября 1917 г.“.

— Б. Пільняк выпускае ў Гізе кнігу „Большое сердце“.

— Вера Інбер выпускае ў Гізе кнігу вершаў—„Солнечный заяц“.

— У Маскву прыехаў вядомы японскі пралетарскі пісьменьнік—Удзяку Акіта. Удзяку Акіта прабудзе ў СССР каля году.

У гутарцы з супрацоўнікам „Росквіту“ Акіта сказаў, што мае на мэце дэтальна вывучыць савецкую літаратуру і савецкі тэатр.

Савецкая літаратура ў Японіі мае шмат прыхільнікаў. Шэраг твораў савецкіх пісьменьнікаў перакладзены на японскую мову.

Зараз Акіта працуе над вялікай сацыяльнай драмай.

За апошні час вышлі ў сьвет яго творы: „Два сонцы“, „Танец шкілета“, „Бомба“ і „Ноччу на граніцы“.

— А. Грын закончыў раман—„Бегущая по волнам“.

— Л. Авэрбах выпускае ў Гізе кнігу аб „Культурнай рэвалюцыі і пытаньнях сучаснай літаратуры“.

### ГРУЗІЯ

— У Тыфлісе ўтварылася група левага фронту грузінскага мастацтва і будзе выходзіць часопіс пад назваю „Мемарцхнэоба“ (лявізна).

Група аб'ядна значную колькасьць грузінскіх мастацтваў левага фронту.

## На Украіне

— Пры Харкаўскім Акрвыканкоме ўтварыўся камітэт спрыяньня украінскім пісьменьнікам. На чарговым пасяджэньні камітэту, якое адбылося з удзелам прадстаўнікоў літарганізацый, задаволены матар'яльныя патрэбы пісьменьнікаў.

Камітэт абмеркаваў таксама пытаньне аб забясьпячэньні пісьменьнікаў кватэрамі. Камгасу даручана пачаць будаваньне жылкаапэрацыю пісьменьнікаў „Слова“.

— Камітэт спрыяньня пісьменьнікам пры Харкаўскім АВК ухваліў падняць пытаньне аб дачы маладым, больш таленавітым і бедным пісьменьнікам-студэнтам стыпэндый ад 75 да 125 рублёў.

— Вышла з друку першая штомесячная часопіс левага фронту мастацтва „Новая Генэрацыя“. У часопісі зьмешчаны вершы, апавяданьні, тэарэтычныя і крытычныя артыкулы і малюнкі новых сучасных мастацкіх плыняў у Нямеччыне.

— Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны ў хуткім часе выпускае такія кнігі: П Тычына — „Паэзіі“; Т. Масенка—„Стэпы“, паэзіі; С. Васільчэнка—„Выбраныя творы“; Л. Піонтэк—„Ціхі дысананс“, М. Хвілёвы—збор твораў у 4-х томах; паэзіі К. Аніщанка, Ю. Смоліча, П. Панча, Г. Кацюбы, В. Сасюры і інш.

— Трэст „Кіеў-друк“ арганізуе новае выдавецтва пад назваю „Культура“.

## За межамі

### НЯМЕЧЧЫНА

— Коштам потсдамскага выдавецтва Густава Кіпэнгоэра маюць зараз выйсьці **першыя 3 тамы поўнага збору твораў Георга Кайзэра.**

— Выдавецтва Фішэр выпускае твор **Гергарда Гаўптмана „Тыль Эйленшпігель“.**

ФРАНЦЫЯ

— **Клёд Фарэр** закончыў раман **П'ера Люі „Псыхэя"**, і хутка гэты раман выйдзе з друку ў Парыжы.

— **Вядомы французскі пісьменьнік Поль Буржэ**, які ўжо 50 гадоў працуе на літаратурнай ніве, гэтымі днямі справіў сваё 75-годзьдзе. Буржэ напісаў звыш 50 тамоў і няўтомна піша новыя творы.

— У Парыжы, выдавецтва Флямарыён, выпусьціла новы твор Анры Барбюса „Здраднікі Ісуса".

ІТАЛІЯ

— Паводле вестак з Рыму **Габрыэле д'Анунцыё** ўзяўся пісаць для кіно. Пісьменьнік гатуе цяпер сцэнары для амэрыканскай кіно-фірмы, мабыць з італьянскага жыцьця, бо большасьць здымкаў будзе рабіцца ў Італіі.

# НА БЕЛАРУСІ

## У згуртаваньні „Ўзвышша"

Ул. Дубоўка напісаў паэму „Кругі", якая пачынае друкавацца ў пятым нумары часопісі „Ўзвышша".

Новая аповесьць Зьм. Бядулі,-„Язэп Крушынскі" пачынае друкавацца ў першым нумары 1928 г. у часопісі „Ўзвышша".

У палове сьнежня выходзіць з друку 5-ы нумар часопісі „Ўзвышша".

## У Беларускай Літаратурна Мастацкай Камуне.

### Што новага ў галіне літаратурнай вытворчасьці

**Апанас Атава** падрыхтаваў да друку зборнік вершаў, які выйдзе ў выданьні Камуны.

**Алесь Гародня** закончыў раман. Друкавацца будзе ў чарговых нумарох „Росквіту".

**Паўлюк Шукайла.** — Напісаў аповесьць „Бацька-Булак-Балаховіч", якая будзе надрукована ў 2 нумары часопісі „Росквіт"— ён-жа здае ў друк зборнік сваіх вершаў пад назваю „Акорды дзён"—зараз працуе над паэмаю „Друкары" і піша крытычны артыкул аб сучаснай беларускай літаратуры.

**Янка Відук.** Напісаў паэму „Салют вуліцы, ён-жа падрыхтаваў зборнік вершаў „Вітрына", які здаў друкаваць у БДВ.

**Сяргей Мялешка** піша артыкул аб творчасьці Ул. Дубоўкі.

**Граф. Нізяп-Ляхоўскі** піша артыкул аб творчасьці Міхася Зарэцкага, які будзе надрукованы ў чарговых нумарох „Росквіту".

### Справы арганізацыйныя.

Ж Арганізаваўся Літаратурны **гурток прыхільнікаў** Беларускае Літаратурна-Мастацкае Камуны **пры Полацкім Белпэдтэхнікуме.** Гуртком кіруе правадзейны сябра Камуны **С. Мялешка.**

Ж Такі самы гурток арганізаваўся з сялянскай моладзі ў вёсцы Пласток, Любанскага раёну на Случчыне. Кіраўнік гуртка правадзейны сябра Камуны Апанас Атава.

Ж Падана заява аб зацьверджаньні аналёгічных гурткоў пры Магілеўскім Белпэдтэхнікуме, у гор. Дрысе, у вёсцы Расоны, Полацкае акругі; у гор. Слуцку, і пры Белдзяржуніверсытэце.

## Сярод пісьменьнікаў

**Цішка Гартны**—піша апавяданьне „Гаспадар" і рыхтуе да друку збор крытычных нарысаў па беларускай літаратуры, а таксама канчае трэцюю частку свайго раману „Сокі цаліны", якая завецца „Крыжавыя дарогі".

Ж Вышлі са складу „Маладняка"—М. Чарот, Ал. Дудар, А. Вольны, М. Зарэцкі і далучыліся да новай літаратурнай групы „Полымя", якая знаходзіцца ў стадыі афармленьня.

Ж Вышлі з групы „Пробліск" Ал. Гурло, Кляшторны, Н. Чарнушэвіч, якія далучаюцца да іншых літаратурных груп.

---

Да стар. 7.

*Увага рэдакцыі:* Верш „Паравоз" быў прыняты да друку аднэй з рэдакцый, але праз дзень аўтару было запрапанавана слова „чорны паравоз" зьмяніць на „чырвоны паравоз", ад чаго ён адмовіўся; у выніку гэтага верш надрукаваны ня быў. Цікава, што зрабіла-б рэдакцыя, калі-б паэта прынёс верш, у якім пісалася-б пра „чорнага ад сажы трубачыста" ці пра „чорную сажу". Няўжо-ж члены рэдакцыі сталі-б вымагаць, каб і сажа зрабілася чырвонай, дзеля ідэолёгічнае вытрыманасьці?

Выдавецтва Бел. Літ.-Маст. Камуны
Адказны рэдактар *Паўлюк Шукайла.*

## ЛІСТ ДА ЧЫТАЧОЎ

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

*Ужо вось два месяцы, як грамадзянін Сяргей Дарожны (Серада), які зьяўляецца сябрам літаратурнага згуртаваньня „Ўзвышша", носіць па рэдакцыях газэт і зачытвае пісьменьнікам, студэнтам і знаёмым рукапісы вершаў, якія, нібы-то, напісаны мною і дадзены для распаўсюджваньня такім спосабам.*

*Я-б катэгарычна адмовіўся ад прыналежнасьці гэтых вершаў мне, каб не адно здарэньне, якое мела мейсца ў рэдакцыі газэты „Беларуская Вёска", дзе таварышы, якія бачылі два вершы, прынесеныя С. Дарожным, сьцьвярджалі мне, што гэта ўласныя мае рукапісы.*

*Ніякіх вершаў С. Дарожнаму, ды наогул нікому, для распаўсюджваньня я не даваў. Твораў, у якіх было-б такое месца (бяру са словаў сябра „Зьвеньняў" Зелянеўскае):*

*... „Выйду я на сенажаць*
*ды з нагана ў жабу бац"...*

*— я ніколі ня пісаў і пісаць ня зьбіраюся. Той, хто распаўсюджвае іх, такім чынам, робіць справу агіднага правакатара. Наліччa-ж у яго маіх рукапісаў гаворыць за тое, што тут, апроч правакатарства, мы маем справу і са злaдзействам.*

*Пратэстуючы перад савецкім грамадзянствам супроць такіх дзеяньняў грамадзяніна, які прэтэндуе на званьне „пісьменьніка", у той-жа час справу перадаю ў суд і іншыя належныя ўстановы.*

*З прывітаньнем і пашанаю*

*Паўлюк Шукайла.*

# Абмылкі друку

| Старонка | Радок | Надрукавана: | Трэба чытаць: |
| --- | --- | --- | --- |
| 10 | 2 | пад Нёмнам | над Нёмнам |
| 14 | 7 | мастацкае замаскаваньне | мастацка замаскаваны |
| 14 | 28 | 1/2 6-й вечару | а 1/2 6-й вечару |
| 16 | 25 | трахічнай | трапічнай |
| 23 | 32 | – Назначаны | —Назначаныя |
| 24 | 8 | па вузкім | па вязкім |
| 24 | 18 | блізкія... любыя... | блізкі... любы... |
| 25 | 7 | па вагонна | па вагонах |
| 26 | 19 | А ду нот спік | Ай ду нот спік |
| 30 | 25 | Кюрэ | кюрэ |
| 30 | 36 | ўсё бордзым | ўсё больш бордзым |
| 35 | 21 | дык і самую | ды і самую |
| 35 | 37 | Далёка. Чуецца | Далёка чуецца |
| 36 | 26 | столька | столькі |
| 36 | 28 | тут —Старэнькая | тут,—старэнькая |
| 37 | 44 | але так | але ня так |
| 38 | 15 | Ашалелыя | Ашалелі |
| 39 | 37 | наскочіў | наскочыў |
| 39 | 41 | У кожны раз | І кожны раз |
| 40 | 25 | ненатуральна | ненатуральныя |
| 41 | 21 | Першый | Першы |
| 45 | 11 | бліскуючых | бліскучых |
| 48 | 33 | наступаюць | наступаць |
| 51 | 4 | парасыпаны | перасыпана |
| 61 | 45 | І разам | І раптам |
| 64 | 28 | І апанавала | Іх апанавала |
| 65 | 46 | гроша нямаў | грошай няма |
| 66 | 7 | „афыцэры“ | „афіцэры“ |
| 66 | 15 | трэбы | трэба |
| 88 | 8 | шінэлі | шынэлі |
| 95 | 22 | Палесь | Палесьсе |
| 95 | 46 | клочча | клоччы |
| 99 | 23 | ні на месцы | не на месцы |
| 99 | 49 | падла | падлы |
| 100 | 42 | яйца | яйкі, |
| 101 | 16 | фікстуары | фіксатуары |
| 102 | 23 | падумай | падумаў |
| 102 | 50 | есца | месца |
| 103 | 5 | едуць | ядуць |
| 113 | 24 | даўныя | даўнія |
| 113 | 41 | рэволюцыя | рэвалюцыя |
| 119 | 39 | міра | мора |
| 126 | 8 | інстыктам | інстынктам |
| 132 | 3 | арганізацію | арганізацыю |
| 132 | 16 | літаратурную групу | літаратурная група |
| 132 | 19 | маюць аснову | снуюць аснову |
| 134 | 2 | апраўдвае | апраўдваюць |
| 134 | 42 | аддавала | аддавалі |
| 135 | 3 | ім жыць | імжыць |
| 135 | 24 | адм нены | адменены |
| 135 | 38 | в р‘ятаў | вар‘ятаў |
| 136 | 49 | тэхнічная няпісьменнасьць | іх тэхнічная няпісьменнасьць. |
| 137 | 12 | афарбованы | афармаваны |
| 137 | 18 | ўзважылі | ўзважылі-б |
| 138 | 45 | пе напісаў-бы | не напісаў-бы |
| 141 | 14 | каштоўнасьці | каштоўнасьцяй |